а. ЛЕЎ
ГАРОШКА



# СВЯТАЯ ЕЎФРАСІННЯ-ПРАДСЛАВА, ПАТРОНКА БЕЛАРУСІ



а. ЛЕЎ
ГАРОШКА

# СВЯТАЯ ЕЎФРАСІННЯ-ПРАДСЛАВА, ПАТРОНКА БЕЛАРУСІ

Нарыс
артыкулы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1996

ББК 63.3(4Беи)
Г20
УДК 947.6 + 2(476)(091)

СЕРЫЯ ЗАСНАВАНА Ў 1994 ГОДЗЕ

Тэксты друкуюцца па выданнях:

а. Леў Гарошка. Сьв. Еўфрасіння-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі. Парыж, 1950.
«Божым шляхам», 1948, № 5, 11 – 12; 1950, № 8 – 9; 1954, № 58 – 60, 62; 1956, № 70 – 75, 1964, № 82.

Прадмова, укладанне,
тэксталагічная падрыхтоўка,
падбор ілюстрацый Уладзіміра Арлова

Г $\frac{9470600000 - 048}{М302(03) - 96}$ 146–96

ISBN 985-02-0271-8

# Божым шляхам

Той, каму давялося хоць колькі дзён пражыць пад дахам Беларускай каталіцкай місіі ў Вялікабрытаніі, пагодзіцца, што прысутнасць колішняга яе рэктара архімандрыта Льва Гарошкі адчуваецца тут на кожным кроку. І ў Беларускай царкве святых Пятра і Паўла на Holden Poad, і ў залах Лонданскай бібліятэкі імя Францішка Скарыны, і на лугавіне пры Доме Марыянаў, дзе айцец Леў любіў памахаць касой і дзе дагэтуль стаіць зладжаная ягонымі рукамі пчалінам хатка, што ўспрымаецца сімвалам сціплай штодзённай ахвярнасці.

Сын сялянаў са Стаўбцоўшчыны вучыўся ў Навагрудскай беларускай гімназіі і Львоўскай духоўнай акадэміі, студыяваў тэалогію ў Інсбруку, выдаваў малітоўнік у Рыме і рэлігійны часопіс у Парыжы...

Удакладнім вяхі жыццяпісу айца Льва.

З'явіўся на свет ён 26 лютага 1911 года ў вёсцы Трашчычы колішняга Стаўбцоўскага павета. Скончыў сямігодку ў Міры, пасля якой у 1928 годзе паступіў у беларускую гімназію ў Навагрудку. Сям'я Гарошкаў афіцыйна лічылася праваслаўнай, але ў ёй жылі традыцыі «старой веры» — уніі. Таму зусім не выпадковым было з'яўленне выпускніка гімназіі сярод студэнтаў Львоўскай грэка-каталіцкай духоўнай акадэміі. Здарылася гэта ў 1931 годзе з дапамогаю Антона Луцкевіча. Тамсама, у Львове, у кастрычніку 1937-га Гарошка быў рукапаложаны ў святары.

Душпастырская дзейнасць айца Льва пачыналася ў Пінскай дыяцэзіі — у Любешаве, Грынічах, Стоўбцах... Беларускаму святару-патрыёту паўсюль было цяжка. Польскія ўлады апячатвалі капліцы, прызначалі без дай прычыны ўсялякія пакаранні, а ў траўні 1939 года навагрудскі ваявода загадаў выселіць «нядобранадзейнага» святара з памежнае паласы.

1939—1944 гады аддадзеныя найперш педагагічнай працы ў Баранавічах, дзе айцец Леў спачатку выкладае беларускую мову ў гандлёвай школе, потым беларускую і лацінскую — у медыцынскай вучэльні і на настаўніцкіх курсах. Засталіся сведчанні, як а. Гарошка ратаваў моладзь ад прымусовага вывазу ў Нямеччыну.

Апынуўшыся ў 1945-м у Нямеччыне, ён наладжвае беларускія багаслужбы ў Берліне і Мюнхене, а ўвосень таго самага года выдае ў Рыме малітоўнік для беларусаў «Божым Шляхам». Супольна са святарамі-суайчыннікамі Ч. Сіповічам і П. Татарыновічам а.Леў, рупячыся пра лёс закінутых на Захад беларускіх каталікоў, дабіваецца аўдыенцыі ў рымскага папы, які ў выніку прызначае апостальскім візітатарам

беларусаў прыязнага да іх біскупа-латыша Балеслава Слонкаса, што добра ведаў нашу мову. Дзякуючы клопатам Льва Гарошкі здолелі знайсці сяброў і землякоў сотні беларусаў з арміі генерала Андэрса, якія апынуліся пасля перамогі над гітлераўцамі ў Італіі.

У 1946 годзе айцец Леў пераязджае ў Парыж, дзе засноўвае часопіс беларускай рэлігійнай думкі «Божым Шляхам», а таксама піша і выдае свае кніжкі: «Паходжанне чалавека ў святле сучасных знаходкаў» (1948), «Душа» (1948), «Своеасаблівасці беларускае мовы» (1951), «Беларусь у датах, ліках і фактах» (1953), «Культ Маці Божае ў Беларусі» (1956). 1950 годам пазначаная найбольш значная праца парыжскага перыяду — кніга «Св. Еўфрасіння-Прадслава Полацкая, патронка Беларусі», па сутнасці, першае ў гісторыі грунтоўнае даследаванне жыцця і духоўнага ўзыходжання нашай выдатнай асветніцы, з якім нарэшце маюць магчымасць пазнаёміцца і чытачы на Бацькаўшчыне.

Наступнае дзесяцігоддзе (1960—1970) жыцця Льва Гарошкі звязанае з Лонданам, дзе ён узначальвае Беларускую каталіцкую місію і атрымоўвае годнасць архімандрыта. 1970-ты — год пераезду ў Рым і пачатку працы на пасадзе кіраўніка беларускай секцыі Ватыканскага радыё.

Высокая адукаванасць і валоданне дзесяццю мовамі ўводзілі айца Льва ў асяроддзе еўрапейскай духоўнай эліты, дзе ён ніколі не пакутаваў ні на якія застарэлыя беларускія комплексы. Найлепшым доказам гэтаму ёсць часопіс «Божым Шляхам», чыім шматгадовым рэдактарам ён быў. Дарэчы, якраз там была змешчаная найцікавейшая публікацыя «Дахрысціянская вера нашых продкаў», якую чытач знойдзе ў гэтай кнізе ў якасці дадатку.

Зямная сцежка Льва Гарошкі абарвалася 28 ліпеня 1977 года пад час аперацыі ў парыжскім шпіталі. (За тыдзень да гэтага ў Рыме выйшла ў свет яго апошняя кніга «Навука і рэлігія», прысвечаная стаўленню да Бога і рэлігіі вядомых у свеце вучоных.)

«Жывой стаіць перад намі постаць высокая, танклявая, з кустом сівой барады, з носам шырокім, арліным, з вачамі чорнымі, гаручымі, упартымі. Помнім ягоныя энергічныя рухі, тарапліўую паходку, французскі берэт на галаве... Жыў, як леў, а памёр, як агнё. Божых шляхоў нельга сцяміць нам, маленькім»,— пісаў у развітальным слове беларускі грэка-каталіцкі біскуп Чэслаў Сіповіч.

Востры дасціпны розум айца Льва доўжыць сваё жыццё ў яго кнігах.

*Уладзімір АРЛОЎ*

# Уступ*

Каму як каму, а беларусам у першую чаргу варта ведаць дакладней жыццё і дзейнасць аднае з найбольшых дачок свайго народа св. Еўфрасінні Полацкае, веліч і святасць якое мелі калісь і заўсёды будуць мець дабрадзейны ўплыў на народ, патронкаю якога яна з'яўляецца.

На жаль, да гэтага часу ў нашай рэлігійнай літаратуры, калі не рахаваць дробных зацемак у падручніках і часопісах, дык сапраўды не было ніводнае кніжкі з яе жыццяпісам. Запоўніць тую нястачу і ёсць мэта гэтае кніжкі.

Аднак сучасныя паваенныя абставіны не дазволілі аўтару выкарыстаць упоўні ўсіх навуковых крыніцаў для поўнага апрацавання намечанага жыццяпісу, а з другога боку, нават сабраны матэрыял не мог быць упоўні выкарыстаны дзеля чыста матэрыяльных цяжкасцяў, каб навуковым апаратам занадта не павялічваць абыйма́ кніжкі. Калі Бог пазволіць дачакаць лепшых часоў, тады, напэўна, знойдуцца магчымасці і людзі, якія хутка гэтыя нястачы выправяць.

*Аўтар*

* У кнізе захоўваюцца асаблівасці лексікі і стылю аўтара. (Зноскі, пазначаныя лічбамі, змешчаны ў канцы кнігі на стар. 116). *Рэд.*

# Полаччына ў XII веку

Мала ёсць такіх цікавых перыядаў у нашай гісторыі, як гісторыя Полаччыны ў XII веку. Восем соцень гадоў аддзяляе нас ад таго веку, але карані нашае культуры, нашых звычаяў і нашага духовага аблічча злучаны з ім неразлучна, таму не будзе без карысці глянуць на яго ўважней.

Пачатак XII веку належыць да тых нешматлікіх светлых момантаў нашае гісторыі, калі злучаныя вакол Полацка землі тварылі магутную дзяржаву пад кіраўніцтвам слаўнага Усяслава Вялікага, званага Чарадзеем (1044—1101)[1]. Неспакойны пачатак княжання Усяслава пасля пераменнага шчасця ў шматлікіх баях і змаганнях давёў Полаччыну да таго, што суседзі не важыліся турбаваць «грозных палачан». У апошнія гады свайго княжання Усяслаў здабыў такую пашану і аўтарытэт у суседніх князёў, што аўтар «Слова аб палку Ігараве» адзываецца аб ім такімі словамі: «Усяслаў-князь людзям суды судзіў, а князём гарады ўпраўляў»[2].

Гэты спакойны перыяд выдатна прычыніўся да матэрыяльнага, культурнага і духовага развою Полаччыны. На гэтым месцы нас найбольш цікавіць тагачаснае духовае аблічча нашага краю, таму ў далейшым звернем на яго большую ўвагу.

Полацк — адзін з найстарэйшых гарадоў Беларусі, аб ім успамінаецца ўжо ў 862 г. У ім быў найстарэйшы епіскапскі пасад, заснаваны, праўдападобна, у 992 г. або найпазней, у 1005-м, у ім знаходзіліся найстарэйшыя і найслаўнейшыя нашы хрысціянскія святыні, наймацнейшы цэнтр манашага жыцця і асяродак распаўсюджвання кніжнае асветы і саміх кнігаў. Ужо ў XI веку Полацк быў духоваю сталіцаю нашае Бацькаўшчыны, таму нічога дзіўнага, што на ўзор візантыйскае, кіеўскае і ноўгарадскае св. Сафіі Усяслаў выбудаваў між 1044 і 1066 гг. (некаторыя думаюць, што пазней) полацкую мураваную царкву св. Сафіі. Заваяваўшы Ноўгарад у 1066 г., Усяслаў перавёз адтуль у Полацк званы, панікадзіла ды іншую царкоўную маёмасць.

Сам Усяслаў і ўсе яго сыны азначаліся глыбокаю вераю і шчыраю пабожнасцю. Гэтую веру, відаць, добра ведалі суседнія князі ды часам яе падступна выкарыстоўвалі. Напрыклад, пасля бою на Нямізе ў 1067 годзе кіеўскія Ярас-

лавічы — Ізяслаў, Святаслаў і Усевалад — запрасілі Усяслава на перагаворы пад Смаленск[3] і цалавалі крыж, што не будуць чапаць яго і не ўчыняць ніякага ліха. Давяраючы гэтаму крыжацалаванню, Усяслаў разам з двума сынамі прыйшоў у азначанае месца да Яраславічаў, а там падасланыя імі людзі адразу схапілі яго і адаслалі ў кіеўскі паруб. Седзячы ў парубе, Усяслаў падтрымоўваў сябе малітваю да святога крыжа. Хутка гэтая малітва была выслухана, і ён не толькі вызваліўся з парубу, але быў запрошаны на вялікакняжы кіеўскі пасад. Аднак любоў да роднага Полацка мацней валодала сэрцам Усяслава, чым золатакованы чужы пасад, таму й пяяў аб ім Баян: «Дакрануўся спісай залатога пасаду Кіеўскага, скочыў ад яго лютым зверам апоўначы з Белгараду, завесіўшыся сіняй імглою...» І скочыў туды, дзе яго клікаў так дарагі сэрцу звон: «Яму ў Полацку рана пазванілі ў званы на завутраню ў святой Сафіі, а ён (гэты) звон у Кіеве пачуў». Няўстрашны характар, няўтомная энергія і непахісная вера Усяслава далі прычыну для ўтварэння песень і легендаў навокал ягонае асобы і падказалі назоў Чарадзея.

Памёр Усяслаў у 1101 годзе; вось жа ён толькі адзін год жыў у XII веку, але дзяржаўнае і грамадскае жыццё Полаччыны яшчэ блізка дваццаць гадоў ішло тым рэчышчам, у якое накіраваў яго Усяслаў. Уміраючы, ён пакінуў сямёх сыноў: Давіда, Рамана (†1116), Глеба (†1119), Барыса (†1128), Рагвалода (†1129), Святаслава і Юрыя-Расціслава[4], але, на вялікі жаль, ніводзін з гэтых сыноў не ўдаўся ў бацьку. Самае княства згодна з тагачаснымі традыцыямі падзялілася спачатку на Полацкае і Менскае, а потым яшчэ на драбнейшыя княствы: Ізяслаўскае, Друцкае, Лагожскае, Стрэжаўскае, Віцебскае і інш. Розныя дробныя непаразуменні між князямі даводзілі да частых закалотаў і войнаў, якія выкарыстоўвалі суседнія князі для аслаблення Полаччыны і дзеля гэтага часта ўмысна правакавалі сваркі. Кіеўскі князь Уладзімір Манамах два разы рабіў паход супраць менскага князя Глеба Усяславіча, страшэнна апустошыў гарады і вёскі і сам хваліўся, што ў 1118 г. «по Всеславе пожегъ землю, идохомъ... къ Менску изъехахомъ городъ и не оставихомъ у него ни челядина, ни скотины». Пад час гэтага змагання сам Глеб трапіў у палон і хутка (у 1119 г.) памёр у кіеўскім парубе.

Калі полацкія князі за гэткія знішчэнні спрабавалі ад-

помсціцца, дык выклікалі новыя паходы. Асабліва няшчасны для полацкіх князёў быў злучаны паход кіеўскіх князёў у 1127 г., а з малымі перарывамі змаганне цягнулася да 1129 г. Пасля двух гадоў змагання няведама якім чынам кіеўскаму князю Мсціславу ўдалося захапіць полацкіх князёў Давіда, Расціслава і Святаслава разам з іхнімі жонкамі і дзецьмі ды саслаць іх у Царгорад на службу візантыйскаму імператару Іаану Комніну, а ў Полацку пасадзіць свайго сына Ізяслава, а потым Святаполка. Але княжанне гэтых князёў хутка выклікала агульнае незадавальненне і бунт, у выніку якога выгналі Святаполка, а полацкі пасад заняў унук Усяслава Васілька Святаславіч (1132—1143). Пасля ягонага спакойнага і мудрага княжання полацкі пасад пераходзіць яго дваюраднаму брату Рагвалоду III Барысавічу, які не заўсёды мог дагадзіць палачанам, і загэтым на некаторы час яго былі выгналі ў Менск, заклікаючы адтуль да сябе Расціслава Глебавіча (1151—1158), але потым зноў вярнулі Рагвалода (1158 — 1161). Па ягонай смерці полацкі пасад пераходзіць у рукі Васількавага сына Усяслава III (1161—1170). Спакойны час княжання Усяслава Васількавіча, як і ягонага бацькі, меў той наследак, што пасля ягонае смерці палачане замест князя паклікалі «раду старэйшых». Гэты час, празваны «Полацкаю рэспублікаю» (1171—1180), прынёс столькі нутраных закалотаў, што хутка веча зноў паклікала да сябе князя Усяславіча — Уладзіміра Валадаравіча (1180—1217)[5].

Канец XII в. характэрны вялікім раздрабленнем на незалежныя княствы. Цікава, аднак, зацеміць: што ў меру драблення княстваў штораз больш адчувалася патрэба аднаго кіруючага цэнтра. Маральным цэнтрам і далей аставаўся Полацк, не зважаючы на сваё аслабленне. Нават прыбалтыйскія землі з небеларускім насельніцтвам былі залежныя ад Полацка. Праўда, гэтая залежнасць была мінімальная. Толькі ўздоўж Дзвіны полацкія князі стараліся ўмацаваць сваю ўладу, закладаючы там свае калоніі (Герцыке і Кукейнос), у якіх уладу выконвалі адпаручныя князі.

Частыя войны і нават паважныя знішчэнні не перашкодзілі Полацку стацца ў XII в. вялікім вогнішчам культурнага жыцця. Гандлёвыя зносіны лучылі яго з суседнімі і заморскімі краінамі, а тым самым вельмі прычыняліся да ўзбагачання як самога горада, так і ўсяе краіны. Пры гэтым, аднак, не абышлося без адмоўных праяваў. Хутка вытварылася ку-

пецкая гільда, якая справы свае кішэні ставіла па-над усім. Міма свае волі купецтва і багацце Полацка прывабіла ў суседства нямецкіх купцоў да вусця Дзвіны, дзе яны каля 1180 г. залажылі горад Ікскуль і сваю калонію. На вечах полацкія купцы такжа не раз выклікалі закалоты і падбухторвалі насельніцтва супраць князя, кіруючыся нізкімі матывамі асабістае нажывы. Гісторыкі дагадваюцца, што гэта купцы былі ўтварылі «Полацкую рэспубліку», але ўтрымаць яе не змаглі, выклікаўшы агульнае незадавальненне.

Калі мець на ўвеце вышэйпералічаныя факты частых войнаў, княжых непаразуменняў і дробнасуседскіх закалотаў, купецкі заслеплены гон да нажывы і, прыняўшы пад увагу маласведамасць масаў, глыбока закарэненыя паганскія звычаі і абычаі, а такжа іншыя факты, паставіць пытанне: «Які ж дзейнік прычыніўся да культурнага ўздыму краю і народа?» — без сумніву трэба адказаць, што гэтым дзейнікам была Царква. Яна мусіла прарабіць вялікую працу ў гэтай галіне, перамагчы вялікія перашкоды. Аднačасна з евангельскім светам ішла пісьменнасць. Асвета, прынесеная на Беларусь разам з хрысціянствам, пачынаючы з гарадоў, пранікала ў штораз шырэйшыя кругі грамадства. Дзе асноўваліся цэрквы — з'яўляліся кнігі. Пры царкве св. Сафіі ў Полацку ў XII в. паўстала цэлая бібліятэка. Патрэба пісанага слова адчувалася ўсюды штораз мацней. У Полацку, а такжа і ў іншых гарадах множыліся манастыры, у якіх даўней жылі амаль адзіныя фаховыя перапісчыкі-манахі. На пачатку XI в. успамінаецца толькі адзін манастыр у Полацку, але да XIV в. іх налічвался ўжо 14. Даты іх паўстання ў бальшыні невядомыя, але шмат з іх было заложана ў XII веку, як гэта можна бачыць з ніжэйпаданага спіска. 1) Барысаглебскі, або Бельчыцкі, за Дзвіною, ад 1160 г. — пры ім была мураваная Пятніцкая капліца, 2) Багародзіцкі за горадам, аснаваны каля 1150 г. — сёння няма і следу, 3) Багаяўленскі ў горадзе над Дзвіною, 4) Вазнясенскі — успамінаецца ў 1553 г., 5) Васкрасенскі ў Ніжнім замку, заснаваны князем Юрыем,— сёння няма і следу, 6) Горадзецкі Міхайлаўскі за Палатою — быў да сусветнае вайны[6], 7) Кузьма-Дзям'янскі за Палатою — няма і следу, 8) Мікалаеўскі на рацэ Лучне, аснаваны ў XIII в., 9) Прадцечанскі на Дзвінскім абтоку — быў да XIV в., 10) Прэабражэнскі, або Запалоцкі — няма і следу, 11) Пятніцкі за Дзвіною на рацэ Бель-

чыцы, 12) Спаса-Еўфрасіннеўскі (жаночы), аснаваны перад 1129 г. — быў да сусветнае вайны, 13) Троіцкі за Палатою, спалены ў 1579 г., 14) Юр'еўскі ў полі ўспамінаецца ў 1582 г. Без ніякіх паясненняў сам гэты спіс можа служыць вымоўным доказам рэлігійнага ўздыму даўнейшай Полаччыны.

Варта заўважыць, што між назовамі тагачасных кнігаў кідаецца ў вочы параўнаўча вялікая колькасць жыціяў святых і зборнікаў высказаў святых і філосафаў. Трэба думаць, што гэтымі кнігамі цікавіліся не толькі перапісчыкі-манахі, але і чытачы з іншых кругоў грамадства.

Вымоўным паказчыкам духовага ўзроўню тагачаснае Полаччыны ёсць факт, што свецкія людзі пайшлі за прыкладам манахаў і заснавалі ў Полацку дзесь перад 1158 г. першую ў гісторыі ўсходніх славянаў «братчыну», якая сталася першаўзорам для пазнейшых брацтваў, шырока распаўсюджаных на Беларусі і ў суседніх народаў. Відаць, што хрысціянскія асновы паволі ўваходзілі ў практычнае штодзённае жыццё. На жаль, мала ёсць вестак аб гэтым жыцці ў летапісах, але аб гэтым даслоўна голасна галосяць камені.

У цяжкіх для княства хвілінах полацкія князі і самі шукалі падтрымання ў малітве, і народ да гэтага заахвочвалі. Часта свае малітоўныя заклікі яны высякалі на каменнях, каб кожнаму падарожнаму прыпомніць аб гэтай просьбе. Найбольш такіх памятак пакінуў па сабе Барыс Усяславіч і яго сын Рагвалод, таму часта гэтыя камяні называюць Барысавымі. Некаторыя з іх загінулі бясследна, іншыя былі знішчаны нядаўна. Да сённяшняга дня ёсць весткі аб адзінаццаці такіх камянях, з якіх 6 уласціва Барысавых, рэшта — іншых князёў. Знаходзяцца яны выключна на абшары колішняга Полацкага княства. Першы Барысаў камень знаходзіўся ў рэчышчы Дзвіны за 5 км ад Полацка, другі такжа ў Дзвіне за 5 км ніжэй Дзісны, трэці ўсяго за 2 км ніжэй ад другога, чацвёрты ў вёсцы Высокі Гарадзец Магілёўскае акругі (14.VII.1937 г. яго бальшавікі ўзарвалі), пяты ў Друі на беразе Дзвіны, шосты ў вёсцы Каменка Вялейскага павета, сёмы Рагвалодаў камень з датаю 1171 г. — між Оршаю і Коханавым. Восьмы камень, званы «Суліборь хрьст», быў знойдзены ля трэцяга Барысавага каменя ў Дзвіне і перавезены ў Маскву ў 1879 г., дзевяты камень, «Святаполк-Аляксандр», у Дзвіне ля мястэчка Краслаўка ўзарваны ў 1818 г., дзесяты, «Вілюйскі», камень знішчаны ў XIX ст.,

адзінаццаты, «Барысаглебскі», камень ля Нараўскіх парогаў у Дзвіне быў узарваны ў 1818 г. Акрамя вышэйпералічаных камянёў з напісамі было шмат камянёў толькі з крыжамі. Варта асаблівае ўвагі, што на ўсіх камянях паўтараецца той самы малітоўны кліч: «Госпадзі, памазі рабу сваему...» (далей ідзе імя: Барысу ці Рагвалоду). Гэткі самы напіс шырока ўжываўся ў тагачаснай Візантыі на манетах, пячатках, медальёнах і падобным. Магчыма, што яго перанялі полацкія князі, вярнуўшыся з Візантыі, але карысталіся ім на свой лад.

Крыж на ўсіх камянях мае адну і тую ж форму: гэта той самы крыж, на ўзор якога Лазар Богша ў 1161 г. зрабіў славуты крыж для св. Еўфрасінні, а схема гэтага крыжа знаходзіцца на шчыце ў рыцара Пагоні. Магчыма, што да гэткага крыжа маліўся Усяслаў Вялікі, седзячы ў парубе. Ці не прадчувалі князі, што цяжкі крыж чакае Бацькаўшчыну, калі з такою пабожнасцю да яго звярталіся?

Палачане ў XII веку не толькі ўмелі перапісваць кнігі, яны ўмелі іх самі ўкладаць, мелі нямала дойлідаў, якія ўмацоўвалі мурамі гарады і ўпрыгожвалі іх велічнымі святынямі; пайменна ведамы ў XII веку толькі дойлід Іван. Мелі нават такіх майстроў, якія апанавалі верх тагачаснага візантыйскага мастацтва; адным з гэткіх майстроў быў Лазар Богша.

Усе гэтыя факты змушалі нават непрыхільных для нас гісторыкаў прызнаць, што тагачасная Полаччына стаяла на высокай ступені культурнага развіцця.

Няма найменшага сумніву, што ўзрост культуры і пашырэнне асветы было ў найцяснейшым звязку з пашырэннем хрысціянства і пераважна знаходзілася ў руках духавенства, але гісторыя не захавала нам імёнаў гэтых духоўных працаўнікоў. Нават з тагачасных полацкіх епіскапаў ведама толькі некалькі імёнаў: Міна (1105 — 1116), Ілля (1120—1129), Козма-грэк (1143—1156), Дыянісій (1167—1182), Мікалай грэчын (1183—?), Каліст, Уладзімір (каля 1218). Гэта імёны і толькі імёны, аб іхняй дзейнасці захавалася толькі некалькі дробных вестак.

У адрозненне ад дзяржаўных закалотаў рэлігійнае жыццё Полаччыны праходзіла ціха і спакойна. Вышэй пералічаліся тыя дзялянкі жыцця, на якія меў уплыў духовы рост нядаўна пасеянага зернетка хрысціянства; тут варта падчыр-

кнуць, што ў XII в. гэтае зернетка не толькі буйна разраслося, але пачало расцвітаць прыгожымі кветкамі. Найбольшаю з іх ёсць св. Прадслава-Еўфрасіння, заснавальніца і першая ігумення Спасавага манастыра. Яна сапраўдная дачка Беларусі XII в. У яе асобе адлюстроўваецца і веліч, і цярпенне роднага краю. Яе дзейнасць у Полацку пакінула па сабе незнішчальны след.

## Жыццяпіс св. Еўфрасінні-Прадславы

На жыццяпіс св. Еўфрасінні ўжо хоць бы таму варта звярнуць увагу, што ён мае не менш цікавую гісторыю, як і самае жыццё святой. Да таго ў беларускай гістарычнай літаратуры, дзякуючы няяснай зацемцы В. Ластоўскага ў «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі», аб гэтым жыццяпісе можа паўстаць памылковае паняцце, быццам недзе ёсць жыццяпіс святое з XII веку. Ён піша так: «Жыццяпіс св. Еўфрасінні, кн. Полацкае напісаны мніхам Спаскага манастыра ў Полацку для ігуменні таго ж манастыра, што можна бачыць са слоў жыццяпісу: «Игуменьи Монастыря сьвятога Спаса и Пречистыя Его Матере, иже во Полотсце граде...» (рукапісны зборнік XVI ст. Троіцкае лаўры). Жыццяпіс св. Еўфрасінні мае ў сабе шмат цікавых гістарычных даных датычна Полацка і духоўнага тагачаснага жыцця ў ім, што паказуе на чыста мясцовае паходжанне аўтара. Жыццяпіс гэты быў напісаны не пазней канца XII ст.».

Тым часам рэч крыху ў іншым. Сапраўды мусіў быць жыццяпіс святое Еўфрасінні з канца XII веку, але ён да нас не дайшоў, прынамсі, да цяпер яго не знайшлі, але дайшлі розныя яго пераробкі. Што да аўтарства таго першапачатнага жыццяпісу, то дагадка В. Ластоўскага такжа не зусім згодна з праўдаю, бо манастыр св. Спаса быў жаночым манастыром, ігуменнямі ў ім былі манашкі, якія падлягалі непасрэдна біскупу, але ў суседстве быў мужчынскі манастыр Багародзіцы, дык праўдападобна, што аўтарам мог быць ігумен гэтага манастыра, які, відаць, мусіў добра ведаць брата св. Еўфрасінні, ад якога даведаўся аб паломніцтве і смерці святое.

Справаю гэтага жыццяпісу займалася ўжо нямала гісто-

рыкаў, і пакуль няма ані новых даных, ані нават магчымасці скантраляваць усе пазнейшыя рукапісы, і прыходзіцца карыстацца тымі найбольш праўдападобнымі выснаўкамі, да якіх яны дайшлі.

Галубінскі ў «Исторіи Русской Церкви» (с. 771—772) адносна цікавячага нас пытання заяўляе: «З усёю праўдападобнасцю жыццяпіс прэпадобнае Еўфрасінні Полацкае... трэба аднесці да перадмангольскага перыяду... Літаратурная апрацоўка жыццяпісу ў тым выглядзе, як ён нам ведамы цяпер, належыць да пазнейшага часу, але зместам, фактычнымі данымі, гэта значыць сваімі весткамі, дае магчымасць бачыць у ягоным аўтару беспасрэднага або, прынамсі, вельмі блізкага сучасніка святое. Аб літаратурнай вартасці жыццяпісу мы нічога не можам сказаць дзеля ўспомненае прычыны (г. зн. таму, што цяперашняя літаратурная апрацоўка ёсць пазнейшая). Датычна зместу, дык у гэтых адносінах жыццяпіс даволі поўны, апавядае аб жыцці Еўфрасінні ў беспарарыўнай паслядоўнасці і, здаецца, не мае важнейшых пропускаў».

Да гэтага трэба заўважыць, што пазнейшая апрацоўка была не адна. Ведамы гісторык Сапуноў нарахаваў іх тры, але колькасць рукапісаў, у якіх гэтыя пераапрацоўкі знаходзяцца, сягае дваццаці. Галаўнейшыя з іх дакладна пералічвае Барсукоў у сваім творы «Источники русской агіографіи». Ён жа падае амаль даслоўна думку Ключэўскага да часу, калі магла стацца тая пераапрацоўка. «Жыццяпіс прэп. Еўфрасінні паводле свайго складу і літаратурнаму характару прыпамінае рытарычныя жыццяпісы XV і XVI вв., але жывасць і багацце біяграфічных рысаў, разам з рэшткамі старасветнае мовы, змушаюць дагадвацца ў біяграфа нейкую больш старую крыніцу». Арх. Філарэт уважаў, што першапачатны жыццяпіс паўстаў каля 1200 г., асноўваючы свой здогад на тым, што ва уніяцкім манастыры айцоў базыльянаў у Львове меў быць нейкі стары рукапіс з жыццяпісам св. Еўфрасінні з XIV в. Аднак ані сам арх. Філарэт, ані ягоныя аднадумнікі не спраўджвалі дакладна гэнага рукапісу. Тым больш гэта цяжка зрабіць цяпер.

Факт адсутнасці першапачатнага жыццяпісу значна абцяжвае доследы жыцця св. Еўфрасінні, а другі факт, не менш сумны,— што нават і тыя рукапісы з пераапрацаваным жыццяпісам усе ёсць небеларускага (расейскага) паходжан-

ня. Гэта выглядае на паважную ненармальнасць, бо самыя ж расейскія гісторыкі сцвярджаюць, што: «Да мітрапаліта Макарыя (1542 — 1563) жыццяпіс Еўфрасінні не сустракаецца ў рукапісах (на абшары Расеі) праўдападобна дзеля таго, што для Маскоўскае Русі... Еўфрасіння была, так бы сказаць, чужая. Мітрапаліт Макарый умясціў жыццяпіс у сваіх Чэццях-Мінеях (пад 23-V), і можна думаць, што пад час гэтага жыццяпіс атрымаў сваю цяперашнюю літаратурную апрацоўку» (Голубинскій. «Исторіи Русск. Церкви», т. I, с. 772).

Чаму так сталася, найлепш выяўляе Е.В.Барсаў у «Описаніи великих Четьіх-Миней митр. Макарія...» (гл. «Чтенія в Императорском Обществе», Исторіи... Москва, 1884). Адтуль даведваемся, што мітрапаліт Макарый быў захоплены новаспечанаю тэорыяю аб Маскве-«трэцім Рыме». Ён бачыў, што «вонкавае аб'еднанне дзяржавы ўжо сталася, але не ставала ўнутранага аб'еднання, без якога вонкавае вельмі нятрыўкае. Такім вялікім збіральнікам акруговых цэркваў у адзіную Усерасейскую Царкву, такім маральным злучнікам мясцовых інтарэсаў у адзінстве царкоўнага духу і звычаю з'яўляецца ў XVI в. Макарый, мітрапаліт Маскоўскі і ўсяе Русі». Адпаведна да гэтае мэты была абрана сістэма збірання жыццяпісаў немаскоўскіх святых. Сам мітрапаліт Макарый, паводле сведчання таго ж Барсава, «не толькі загадваў спісваць жыццяпісы і другія кнігі, але такжа стараўся ачышчаць мову ад іншамоўных выславаў» (успомн. твор, с. 1).

I сапраўды, праштудыяваўшы жыццяпіс св. Еўфрасінні Полацкае ў апрацоўцы мітрапаліта Макарыя, прыходзіцца прыйсці да пераканання, што гэтая моўная апрацоўка раўназначная поўнаму перакладу на тагачасную расейскую царкоўна-славяншчыну. Ад першапачатнае мовы асталіся толькі жалюгодныя рэшткі. Аднак самыя біяграфічныя факты, жывасць апавядання, дух тагачаснае эпохі веюць такою праўдамоўнасцю, што ўсе гісторыкі згодна прымаюць гэты жыццяпіс за паважны гістарычны дакумант. Даследнік расейскае агіяграфіі Г. Фядотаў звярнуў увагу, што паміж «рускіх» святых жанчын «адзіная св. Еўфрасіння Полацкая выступае ў сваім жыццяпісе з азначанымі рысамі характару як незвычайная па сіле характару і асвечанасці царкоўная дзеячка». I гэта сапраўды так ёсць.

Нічога тады дзіўнага, што беларуская святая з гэткімі рысамі характару трапіла не толькі ў Чэцці-Мінеі мітрапаліта Макарыя, але і ў «Книгу Степенную царского родословія». Сам назоў кнігі сведчыць аб яе прызначэнні. Іронія лёсу! Святая князёўна грозных палачан, якая ўсё жыццё ахвяравала для асвечання і асвячэння Бацькаўшчыны, мела стацца козырам у чужых захопніцкіх руках для духовага паняволення краю. Праўда, стварыць нейкую сувязь між жыццяпісам св. Еўфрасінні і агульным зместам «Книги Степенной царского родословія» ніяк не ўдалося. Гэты факт даўно заўважылі даследнікі гэнае «Книги» і стараліся якім-колечы спосабам навязаць бракуючую сувязь. Пл. Васенка ў сваім апісанні «Книги Степенной» так піша: «Сувяззю... між апавяданнямі ў «Степенной»... былі храналагічныя выпадкі, блізіня ў часе апавяданых у іх падзеяў. І сапраўды, якія іншыя адносіны маглі мець, напр., апавяданні аб Еўфрасінні Полацкай ці цярпенні вял. кн. Ольгавіча ў ардзе за веру Хрыстову, да жыцця і дзейнасці Юрыя Даўгарукага і Данілы Маскоўскага, у гранях якіх сустракаюцца названыя апавяданні?»

У сувязі з вышэйсказаным само напрошваецца пытанне: як агулам так магло стацца, што беларусы дазволілі расейцам спекуляваць іменем свае святое? Каб на гэта адказаць, трэба ведаць, што XVI в., калі расейцы пераапрацавалі жыццяпіс св. Еўфрасінні і пачалі ім карыстацца для сваіх вялікадзяржаўных мэтаў, быў агулам у іх характэрны рознымі перайманнямі. Тады дзеяліся шмат горшыя рэчы. Вялікія маскоўскія князі прысвоілі сабе візантыйскі герб і царскі тытул, да якога дадавалі «Вялікае, Малое і Белае Русі самадзержац». Беларускія, ці, як іх тады звалі, літоўскія вялікія князі пратэставалі супраць такога прысвойвання, але дарэмна.

Аднак — даволі дзіўнае з'явішча — калі на Беларусі запанавала рэлігійная унія, расейцы ўстрымаліся ад спекуляцыі іменем св. Еўфрасінні. Тады толькі растоўскі епіскап Дзімітры Туптала пераапрацаваў жыццяпіс св. Еўфрасінні і надрукаваў у сваіх Чэццях-Мінеях. Але ён як украінец і вучань Магілянскае акадэміі шмат у чым розніўся ад расейскага рэлігійнага напрамку і тэндэнцыяў.

Наколькі на Беларусі ў часе уніі быў пашыраны жыццяпіс св. Еўфрасінні, цяжка сказаць, бо тагачасная белару-

ская рэлігійная літаратура пераважна знішчана пад час палення кніг на Беларусі, якое асабліва жорстка праводзілася пасля далучэння Беларусі да Расеі і потым, пасля скасавання уніі. Праўдападобна, толькі ў базыльянскім уніяцкім манастыры ў Львове захаваўся рукапіс, у якім, між іншым, ёсць бадай ці не найстаршы ведамы дагэтуль жыццяпіс святое Еўфрасінні. Аб гэтым рукапісе знаходзіцца толькі кароткая зацемка Сразнеўскага ў «Журнале Министерства Народн. Просв.» за люты 1863 г. (с. 60), адкуль даведваемся, што ў тым манастыры ёсць «пергаментны рукапіс вял. 8, даволі старынны, бадай што з XIV в., зрэштаю вельмі папсаваны; няма ў ім ні пачатку, ні канца і ўсярэдзіне вырвана шмат лістоў. Вось загалоўкі артыкулаў, змешчаных у ім: «Жытіе и хоженіе святыіа Эоуфросиня...» Далей ідуць жыццяпісы чатырох іншых святых. Больш дакладных вестак аб гэтым рукапісе не ўдалося знайсці.

Пасля скасавання уніі ў расейскай рэлігійнай літаратуры з'явіліся розныя брашуры і большыя артыкулы аб св. Еўфрасінні, якія ў асноўным паўтаралі або шыршы жыццяпіс з Чэцця-Мінеяў мітрапаліта Макарыя, або каротшы епіскапа Дзімітрыя Тупталы. Аднак найбольшая праца аб св. Еўфрасінні, якая з'явілася да гэтага часу, паходзіць з каталіцкага асяроддзя. Гэта ёсць ведамы твор на польскай мове: «Dwa wielkie swiatła na horyzoncie Połockim», напісаны базыльянінам а. Ігнатам Стэбельскім.

Агулам аб св. Еўфрасінні існуе даволі вялікая бібліяграфія. Калі парахаваць усе кнігі, брашуры, рукапісы, у якіх сустракаюцца весткі аб яе жыцці і дзейнасці, дык назбіраецца каля 110 назоваў у мовах: беларускай, лацінскай, нямецкай, польскай, расейскай, украінскай і царкоўнаславянскай. У сучасны момант некаторыя з гэтых твораў нават немагчыма адшукаць.

## Св. Еўфрасіння ў бацькоўскім доме

Еўфрасіння — гэта манашае імя Прадславы, дачкі Юрыя Усяславіча. Аб бацьках Прадславы ведама няшмат. Бацька яе, Юрый, быў малодшым сынам Усяслава II Брачыславіча. Што праўда, летапісы не ўспамінаюць між сынамі Усяслава II такога імені (Юрыя), але гэта было хроснае імя або Свя-

таслава, або Расціслава Усяславічаў. Да сёння няма згоды між даследнікамі, каторы з іх мог мець імя Юрыя, бо доля іх амаль падобная, а вестак аб жыцці і дзейнасці дайшло замала, каб можна было вырашыць гэтае пытанне. Маці Прадславы паходзіла з роду візантыйскіх імператараў Комнінаў. Магчыма нават, што была роднаю сястрою імператара Мануіла (1143—1180). Гэтае спародненне Прадслава потым не раз змагла выкарыстаць для свае рэлігійнае дзейнасці. Па бацьку ў жылах Прадславы цякла кроў Рагвалода, Рагнеды, Ізяслава, Брачыслава і Усяслава Вялікага (Чарадзея). Характар яе дзіўна прыпамінае энергічны і дзейны характар яе дзеда Усяслава.

На свет прыйшла Прадслава, праўдападобна, некалькі гадоў пасля смерці свайго дзеда. Дакладную дату нараджэння ўстанавіць нельга, але з таго факта, што яна дванаццацігадоваю ўступіла ў манастыр, дзе ігуменняю была яе цётка, удава па Раману Усяславічу, які памёр у 1116 г., дату нараджэння трэба прыняць не раней 1104 г. і, магчыма, не пазней 1106 г., бо ўжо перад 1128 г. Прадслава сталася ігуменняю новазаснаванага манастыра ў Сяльцы.

У Прадславы былі яшчэ браты: Вячка (магчыма, старэйшы) і малодшы Давід ды малодшая сястраГрадзіслава. Звычайна, паводле тагачасных практык, імёны дзецям даваліся адразу пасля нараджання, а ў часе хрышчэння іх не раз мянялі, як гэта было з бацькам і дзядзькамі Прадславы, але яна сама, яе браты і сястра захавалі свае першапачатныя імёны і ў хрышчэнні.

Відаць, што змалку Прадслава вырознівалася сваімі здольнасцямі і характарам. Яна ўжо з ранніх гадоў навучылася грамаце, тады калі ў той час агулам граматнасць была прывілеем нешматлікіх духоўных і князёў.

Настаўнікамі даўней былі амаль выключна духоўныя асобы і перадусім манахі. Падручнікамі былі кнігі рэлігійнага зместу — Святое Пісанне, жыцці святых. Першымі школамі былі манастыры, але князі не заўсёды пасылалі сваіх дзяцей у манастыр па навуку, яны часта запрашалі манахаў да сябе і вучылі дзяцей дома. Ці Прадслава хадзіла вучыцца ў манастыр, ці вучылася дома, у жыццяпісах не ўспамінаецца. Аднак ёсць пэўнасць, што яна адначасна з навукай пазнала і манастырскае жыццё. Тут варта заўважыць вельмі характэрнае з'явішча адносна старасвецкіх звычаяў

нашых продкаў. Калі ў іншых краінах жанчыны доўгія стагоддзі, аж да XIX в., мусілі змагацца за свае правы на асвету, дык у нас ужо ў XII в. жанчыны здабываюць асвету нароўні з мужчынамі.

Сваімі поспехамі ў навуцы Прадслава здзівіла нават сваіх настаўнікаў і бацькоў. У жыццяпісе кажацца з асаблівым націскам, што «дзівіўся бацька яе такой любові да навукі». Яна любіла шмат чытаць, і гэта было яе найбольшаю школаю і прычынілася да незвычайнага для яе веку ўмысловага развою. Да таго яшчэ Прадслава азначалася незвычайнаю вонкаваю красою, аб якой аднагодна сведчаць жыццяпісы. Таму нічога дзіўнага, што вестка аб мудрай і прыгожай полацкай князёўне расходзілася шырока па-за межы роднага краю.

Да маладое і незвычайнае князёўны суседнія князі пачалі прысылаць сватоў. Паводле тагачасных звычаяў, у Заходняй Еўропе бацькі не раз заручалі сваіх дзяцей у раннім дзяцінстве. Расейскія летапісцы такжа ведаюць выпадкі, калі выдавалі замуж 8-гадовых і жанілі 11-гадовых. Нашы продкі мелі звычай, паводле якога раней 12-ці год нельга было выдаваць замуж. Гэты звычай потым прыняўся і ў суседніх княствах. Відаць, на аснове гэтага звычаю мітрапаліт Фоцій у XV в. афіцыяльна забараніў ноўгарадцам даваць шлюбы дзяўчатам малодшым за 12 год. Трымаючыся гэтага звычаю, бацькі Прадславы першых сватоў адпраўлялі з нічым. Але калі Прадславе споўнілася 12 год, бацькі, парадзіўшыся паміж сабою, пастанавілі выдаць дачку замуж за нейкага багатага князевіча.

Ужо пад час першых спробаў сватаўства Прадслава адкідала думку аб сужэнстве, аднак бацькі яе, відаць, не прымалі гэтае адмовы паважна. Калі ж бацька аб'явіў Прадславе сваю пастанову выдаць яе замуж, дык Прадслава, нічога не кажучы бацькам, пастанавіла ўцячы тайком ад сужэнства ў манастыр. У гэтай пастанове маладой князёўны можна ўбачыць уплыў распаўсюджанага калісьці ў нас жыццяпісу св. Аляксея, чалавека Божага, які ўцёк з дому ад сужонкі адразу пасля шлюбу, а магчыма, такжа св. Агнешкі (абодва рымскія святыя). Асабліва 12-годняя Агнешка, дачка рымскага патрыцыя, надзвычайна падобная да Прадславы і ў гадах, і ў становішчы, і ў пастанове не мець іншага жаніха, акрамя Хрыста.

Сваю пастанову Прадслава выконвае неадкладна; яна кідае ўсё: багацце, родны дом, абяцаныя почасці і славу, кідае бацькоў, адно толькі хоча — ахвяраваць усё сваё жыццё для Хрыста, быць Яму вернай у найвышэйшай ступені сама-ахвярнасці. Яна ўцякае ў манастыр, дзе яе цётка, удава князя Усяславіча, была ігуменняю. Магчыма, што гэта нават не быў сапраўдны манастыр, толькі так званая манашая слабодка пры нейкай парафіяльнай царкве ў Полацку, дзе пражывала ўдава з некалькімі манашкамі.

Гэтыя ўцёкі маглі стацца пасля 1117 г., бо Раман Усяславіч памёр у 1116 г., і толькі пасля гэтага ягоная жонка магла пайсці ў манастыр. Ігумення доўга не згаджалася прыняць Прадславу, адмаўляючы яе ўсімі спосабамі, паклікалася на яе маладосць, гожасць, суровасць манастырскага жыцця, але Прадслава тут паказалася сапраўднай унучкай Усяслава Вялікага. На адмовы ігуменні Прадслава казала, што яе нічога дачаснае ў свеце не вабіць, бо яно хутка мінае і краса хутка вяне, як веснавы цвет. І на доказ таго, што яна больш не хоча глядзець на пакінуты свет, Прадслава ўпала перад ігуменняй абліччам да зямлі і не хацела падняцца, аж пакуль ігумення не задаволіць яе просьбы. Тая, бачачы вялікую любоў Прадславы да Хрыста, і непахіснае жаданне служыць Яму, і яе паводзіны, была вельмі расчулена, але, памятаючы, што мае дачыненні з найбольш любай дачкой полацкага князя, азвалася да яе: «Дзіця маё, як я магу выканаць тваю просьбу, калі за гэта твой бацька будзе гневацца на мяне і гнеў яго зваліцца на маю галаву». На гэта Прадслава адказала: «Не бойся, валадарка і маці мая, майго бацькі, а бойся Бога».

Пасля гэткага адказу ігумення згадзілася прыняць Прадславу ў манастыр і, заклікаўшы святара, загадала пастрыгчы яе ў манашкі. У пастрыжэнні Прадслава атрымала імя Еўфрасіння, атрымала чорную манашую вопратку. Ад гэтага моманту Прадслава памерла для тагачаснага свету, а нарадзілася Еўфрасіння для духовае працы дзеля роднага краю, замкнуўшыся ў цеснай манашай келлі.

# Св. Еўфрасіння ў манастыры

## ПЕРШЫЯ КРОКІ

Нялёгкае жыццё чакала Еўфрасінню ў манастыры. Відаць, што ігуменьня Раманава, зменьваючы ёй імя, мела на ўвеце гэтыя цяжкасці, калі выбрала ёй у патронку св. Еўфрасінню Александрыйскую, дачку Пафнуція, якая таксама ўцякла ад замуства і, пераапрануўшыся за мужчыну, уступіла ў мужчынскі манастыр, дзе і жыла непазнанаю аж да смерці 25.IX.401 г.

Так і для нашае Еўфрасінні не вонкавыя цяжкасці, але ўнутранае самаапанаванне мусіла стацца штодзённым шляхам поступу ў дасканаласці і цнотах ад першых дзён яе манастырскага жыцця і аж да апошняга.

Трэба думаць, што ўцёкі Прадславы бацькі мусілі заўважыць адразу і адразу пачалі яе шукаць. Напэўна, шукалі нядоўга, бо, магчыма, нават сама ігуменьня паведаміла князю, што ягоная любая дачка цяпер у манастыры пад яе апекаю. Можна сабе лёгка ўявіць, як сумеліся бацька і маці, даведаўшыся, куды знікла іх любая Прадслава, з асобаю якое яны звязвалі столькі прыгожых, на іх думку, праектаў. Не дзіва дзеля гэтага, што ў іх сэрцах з'явіўся немалы жаль. І з гэтым жалем яны неадкладна спяшаюцца ў манастыр, а там гэты жаль мусіў яшчэ пабольшыцца, калі замест свае Прадславы пабачылі ўжо чарніцу Еўфрасінню. Жыццяпіс апавядае, што бацька з жалю рваў валасы на галаве, а маці галасіла наўзрыд, як па пакойніцы. Гэта была першая цяжкая проба для Еўфрасінні на новым жыццёвым шляху. Яна з геройскім супакоем суняла горкія слёзы маці і супакоіла бацьку. Яна просіць бацькоў не сумаваць, а радавацца таму, што іхняя дачка аддалася нябеснаму Валадару. Не праміначае дачаснае і вузкаасабістае шчасце спадзяецца асягнуць Еўфрасіння, але вечнае і на гэтым шляху быць памоцнай для шматлікіх. Колькі мусіла быць жару любові і пераконваючае сілы ў словах юнае Еўфрасінні, можна бачыць з таго, што князі спакойна пагадзіліся з Божаю воляю, падобна, як раней ігуменьня, і вярнуліся дамоў, а Еўфрасіння асталася ў манастыры, дакладна захоўваючы ўсе правілы і ўпраўляючыся ў посце і малітвах.

Аднак ціхае кантэмплятыўнае жыццё старых чарніцаў не магло надоўга здаволіць дзейны характар Еўфрасінні. У меру яе ўзрастання збольшвалася яе воля да шырэйшае дзейнасці. У хвілінах, вольных ад абавязуючых практыкаў, яна пачынае перапісваць кнігі. Гэтую думку мусілі ёй падказаць самыя абставіны. Манастыр, у якім яна знаходзілася, быў заложаны нядаўна і, напэўна, патрабаваў нямала кнігаў для хатняга ўжытку. Каб здаволіць гэтую патрэбу, Еўфрасіння ўзялася за працу перапісчыцы. Для перапісвання яна мусіла браць кнігі з адзінае бібліятэкі ў Полацку, якая знаходзілася пры царкве св. Сафіі.

Магчыма, што якраз гэтыя абставіны далі Еўфрасінні новую думку: перасяліцца ў самую царкву св. Сафіі, каб быць бліжэй да бібліятэкі. З гэтаю просьбаю яна звярнулася да тагачаснага полацкага епіскапа Іллі. Той дазволіў ёй, памятаючы, што калісьці пры ерусалімскай святыні такжа пражывалі пабожныя дзевы, між якімі была Найсвяцейшая Дзева Марыя.

## У САФІЙСКІХ МУРАХ

Св. Сафія Полацкая была найстарэйшаю і найбагацейшаю мураванаю царквою на Беларусі, пабудаванаю дзедам Еўфрасінні Усяславам II Чарадзеем. Некаторыя гісторыкі дадумваюцца, што якраз адным з ягоных «чарадзеянняў» была пабудова ў Полацку нябачанае дагэтуль аграмаднае і прыгожае мураванае царквы. На жаль, ад першапачатнае будовы да нашых часоў захаваліся толькі фундаменты і частка муру, рэшта не раз была перабудаваная і руйнаваная. Апошні раз яна была адноўленая ў XVIII в. Святасафійскія сцены былі аздобленыя фрэскамі ў стылі тых аздобаў, якія бачым на Тураўскім Евангеллі (XI в.), што відаць з рэшткаў захаванае сцяны. Самая царква знаходзілася на Верхнім замку, ці, як яго тады называлі, крамлю. Каля яе гуртавалася рэлігійнае і дзяржаўнае жыццё Полацкага княства. Пры ёй вісеў вечавы звон, а самае веча збіралася на аграмадным «дзядзінцы», які акружаў св. Сафію. Тут вырашаліся ўсе важныя дзяржаўныя справы, тут выбіраліся полацкія князі, а ў самой царкве яны прымалі прысягу, апаясваліся старасвецкім мячом і атрымоўвалі князёўскія азнакі. Царква і ўвесь замак былі абнесеныя моцнымі мурамі.

Якія багацці знаходзіліся ў св. Сафіі, можна дагадацца з таго факта, што маскоўскі цар Іван Грозны, заняўшы на нейкі час Полацк у 1563 г., вывез у Маскву толькі з самае гэтае царквы 300 вазоў серабра, золата і розных каштоўнасцяў.

У мурах св. Сафіі мусілі быць невялікія келлі; вось у адну з такіх келляў, якую жыццяпіс называе «галубцом», і перасялілася Еўфрасіння. Некаторыя гісторыкі дагадваюцца, што гэты «галубец» мусіў быць у ніжнім паверсе царквы, іншыя — наадварот. Тут Еўфрасіння з поўным самазапярэчаннем аддалася духовым практыкам. Сваё выснажанае постам цела ўзмацняла малітваю, а найбольш часу аддавала на перапісванне кнігаў, вышыванне аблачэнняў і ўсё гэта пасылала бяднейшым беларускім манастырам і цэрквам. Калі сама не адольвала ўсіх запатрабаванняў, наймала перапісчыкаў. Гэткім чынам св. Сафія ў Полацку стаецца паважным асветным цэнтрам на Беларусі. Некаторыя кнігі Еўфрасіння прадавала, але атрыманыя грошы таксама раздавала бедным і ўбогім.

Як перадае традыцыя, пры св. Сафіі перахоўваўся летапіс Полацкага княства, які мела перапісаць Еўфрасіння.

Не толькі перапісчыкі гуртаваліся каля Еўфрасінні, але таксама і ахвотнікі ды ахвотніцы навучыцца граматы. Дзеля гэтага, дзякуючы яе прысутнасці, св. Сафія сталася яшчэ больш люднаю і рухаваю, чым была дагэтуль, муры напоўніліся гоманам. Гэткі гоман не зусім быў па душы тагачаснаму епіскапу. Магчыма, што і для самое Еўфрасінні не зусім адказвала такое гамарнае асяроддзе, бо мала пакідала ёй часу аставацца ў келлі, таму яна задумала аснаваць новы манастыр. Да гэтага далучаецца выразны Божы знак св. Еўфрасінні, што яна мусіць змяніць месца пражыцця. Аднойчы ўначы ёй прысніўся сон, быццам анёл Божы ўзяў яе за руку, прывёў да мясцовасці, званае Сяльцо, дзе была епіскапская метахія (дварэц) з невялікаю дзеравянаю царквою св. Спаса, і сказаў: «Тут табе трэба пражываць, бо хоча Бог на гэтым месцы праз цябе спасці шматлікіх». Гэты сон паўтарыўся тройчы, і таму Еўфрасіння паважна задумалася над ім і цешылася, што хоць у сне бачыла анёла. За гэта яна славіла Бога і пастанавіла прыняць Ягоную волю, кажучы: «Гатова сэрца маё, гатова... як хочаш, Божа, так рабі са мною, Тваёю рабою».

Тае самае ночы епіскап меў зусім падобны сон і раніцаю прыйшоў да Еўфрасінні, каб паведаміць аб сваёй пастанове перасяліць яе ў Сяльцо. Спачатку епіскап зусім не ўспамінаў Еўфрасінні аб сваім сне. Ён казаў ёй: «Ведаеш, дачка, што царква, у якой пражываеш, ёсць саборная, тут усякія людзі збіраюцца, і табе нядобра тут быць. Затое ёсць царква св. Спаса ў Сяльцы, дзе пахаваны мае папярэднікі, полацкія епіскапы. Ці не ўспаможа табе Бог дзеля іх малітваў і твае працы, каб на тым месцы разбудавалася вялікае вогнішча для спасення шматлікіх душ?» У гэтых словах Еўфрасіння яшчэ раз пабачыла выяў Божае волі і з пакораю прыняла яе.

## МАНАСТЫР СВ. СПАСА

Пераход Еўфрасінні ў Сяльцо азначаў заснаванне новага манастыра і прызначанне епіскапскае зямлі гэтаму манастыру. Дзеля гэтага епіскап паклікаў князёў Барыса, дзядзьку Еўфрасінні, і Юрыя, бацьку яе, як таксама і вызначаных баяраў і ўрадаўцаў, паведамляючы ім аб сваім намеранні заснаваць жаночы манастыр у Сяльцы пад кіраўніцтвам Еўфрасінні і перадаць гэтаму манастыру ва ўласнасць усё тое, што ў Сяльцы належала епіскапскаму пасаду. Знаходзілася яно ўсяго за паўтара кіламетра ад Полацка на правым беразе Палаты. Князі і баяры адобрылі прапанову епіскапа і з свайго боку звярнуліся да Еўфрасінні з радаю прыняць яе. З гэтага можна дагадвацца, што Еўфрасіння не вельмі ахвотна расставалася з св. Сафіяю, хоць у жыццяпісе неаднойчы падчыркваецца, што яна з радасцю прымала словы епіскапа. Акрамя самага прызнання новазаснаванага манастыра і надання яму ўласнасці, магчыма, што епіскап спадзяваўся ад князёў атрымаць помач для яго. Гэтая нарада памагае азначыць дату заснавання манастыра не пазней 1128 г., калі ўжо князя Барыса не было між жывымі.

На дарогу Еўфрасіння атрымала толькі епіскапскае багаславенства і ноччу, каб не звяртаць на сябе ўвагі і адначасна гэтым нясведама выяўляючы свой жаль, пайшла ў назначанае месца ў таварыстве толькі аднае чарніцы, маючы з сабою толькі некалькі кнігаў для малітвы, тры баханцы хлеба і падарожны кій.

Шчыра з слязамі малілася Еўфрасіння на новым месцы

аб багаславенстве і падтрыманні. Малітва яе была хутка выслухана. У новы манастыр пачалі збірацца ахвотніцы пасвяціць усё сваё жыццё на службу Богу. У бязмежна ахвярным жыцці Еўфрасінні было нешта невымоўна чароўнае і прывабліваючае, якое з усіх куткоў краю і з усіх пластоў грамадзянства сцягвала штораз новых людзей у духовую сям'ю святое жанчыны. У новазаснаваным манастыры Еўфрасіння была і ігуменняю, і настаўніцаю, але перадусім была жывым прыкладам.

Аднойчы Еўфрасіння папрасіла сваіх бацькоў прыслаць ёй па навуку яе малодшую сястру Градзіславу (або Гардзіславу). Бацькі пусцілі, і яна навучылася ад Еўфрасінні не толькі грамаце, але і любові да духовага жыцця, да захавання дзявоцтва, да службы Богу і народу ў манастырскіх сценах. Калі ўмела калісь Еўфрасіння прамовіць да ігуменні, да бацькоў, дык цяпер змагла хутка знайсці дарогу да сэрца роднае сястры, і тая хутка згадзілася астацца ў манастыры назаўсёды. Нічога не кажучы бацькам, пастрыглася ў чарніцы і Градзіслава, прыняўшы імя Еўдакія.

Бацькі засумавалі за малодшаю дачкою і наказалі адаслаць яе дамоў, але Еўфрасіння, нічога не кажучы аб тым, што сталася, папрасіла бацькоў, каб аставілі сястру ў манастыры, бо яшчэ не зусім добра навучылася пісаць. Аднак бацькі, ведаючы характар свае старэйшае дачкі, мусілі дагадацца, што азначала гэтая просьба. Прытым хутка дайшла да іх пэўная вестка, што Градзіслава пайшла следам Прадславы. Тады бацькі з вялікім сумам і бадай што з яшчэ большым гневам з'явіліся ў манастыр да Еўфрасінні і з горкім дакорам казалі ёй: «О, дачка, што ты зрабіла нам? Прылажыла жаль да жалю і сум да суму; ці не досыць было табе самой пакінуць нас? А тут і другое наша любае дзіця лісліва выхапіла ад нас! Ці ж на гэта мы вас радзілі, ці ж на гэта ўзгадавалі, каб ужо перад смерцю, як пакойніцы ў дамавінах, у гэтых чорных вопратках і манастырскім запярці замкнуліся і пазбавілі нас тае пацехі, якое мы спадзяваліся ад вас? Замест радасці вось гэтыя горкія слёзы праліваем!»

Еўфрасіння і на гэты раз знайшла словы ўцішыць бацькоўскі гнеў і сум. З слоў бацькі відаць, які вялікі быў бацькаўскі боль, але шмат большы быў жар любові да Бога св. Еўфрасінні. З яе спакойнага адказу бацькі пабачылі, што пад чарнечымі вопраткамі крыецца шмат большая веліч, як

гэтага яны спадзяваліся, і таму вярнуліся дамоў супакоеныя і нават суцешаныя.

Яшчэ не паспела штодзённае жыццё засыпаць сваім пылам здарэння з Градзіславаю, як дачка князя Барыса Звеніслава, сабраўшы ўсе свае каштоўнасці і дарагія вопраткі, падрыхтаваныя да шлюбу, прыйшла да Еўфрасінні, кажучы: «Усе гэтыя каштоўнасці даю ў царкву св. Спаса і сама хачу Яму адзінаму служыць і ўспрыняць Ягонае ярмо і несці Ягоны цяжар».

З радасцю Еўфрасіння выканала яе просьбу і загадала пастрыгчы яе. У пастрыжэнні Звеніслава атрымала імя Еўпраксія.

## БУДОВА МУРАВАНАЕ ЦАРКВЫ СВ. СПАСА

Пад час таго, як манастыр запаўняўся новымі чарніцамі, адначасна раслі вымогі нават да вонкавага выгляду самога манастыра і асабліва царквы. Дзеравяная царква св. Спаса сталася замалою і нездавальняючай, таму Еўфрасіння пастанавіла выбудаваць на яе месцы новую мураваную царкву.

Калі нават сёння, у век так развітай тэхнікі, пабудова вымагае нямала клопатаў, дык можна сабе ўявіць, як было ў тых старых часах, калі мулярства ў нас толькі пачынала свой развой, колькі каштавала працы і старанняў Еўфрасінні, каб ажыццявіць свае планы: знайсці матэрыял, дойліда, муляраў і падобнае. Усе гэтыя перашкоды яна хутка перамагла, і царкву выбудавалі роўна за 30 тыдняў. Пры гэтай нагодзе даведваемся імя найстарэйшага ведамага паймення беларускага дойліда Івана з Полацка. І самая царква да нядаўна была найстарэйшаю памяткаю беларускага будаўніцтва, але ваенныя падзеі 1942 г. знішчылі яе, як гэта відаць з актаў Нюрнбергскага суда, дзе бальшавікі за гэты злочын абвіняюць немцаў[7].

Хуткая пабудова царквы св. Спаса мела асаблівую помач Божую. У жыццяпісе апавядаецца, што дойлід Іван часта над раннем чуў голас: «Іване, уставай ды йдзі на працу Спасавай царквы!» Не ведаючы, адкуль гэты голас паходзіць, ён думаў, што гэта Еўфрасіння будзіць яго ранінім ранам, і таму аднойчы прыйшоў да яе з жалем, чаму яна прысылае кагосьці панукаць яго так рана да працы. Еўфрасіння зразумела, што гэта для яе асаблівая помач Божая,

таму спакойна адказала: «Хоць гэта і не я пасылаю цябе будзіць і панукаць да працы, але паслухай таго голасу і рабі тое, што табе кажа, бо тое, што робіш, ёсць дзела Божае».

Калі ўжо будова была на заканчэнні, не стала цэглы для завяршэння. Немаведама, што магло выклікаць гэтую нястачу, бо цэглу выраблялі і выпальвалі ў цагельні на месцы недалёка ад самае будовы. Тады Еўфрасіння звярнулася да Бога з гарачаю малітваю аб помачы: «Божа, ты даў нам больш, дай яшчэ і менш для завяршэння Твае царквы». Назаўтра знайшлася поўная печ выпаленай цэглы, якою змаглі закончыць будову.

Сапраўды, на будову Спасавае царквы мусіла выйсці вельмі шмат цэглы, бо яе сцены, асабліва ўнутраныя слупы, сягаюць амаль двухметровай таўшчыні.

Пры гэтай нагодзе варта заўважыць, што, паводле аднагоднага сведчання ўсіх вучоных, якія раней мелі нагоду аглядаць гэтую царкву, яна з'яўлялася не толькі найстарэйшым помнікам беларускага будаўніцтва, але найлепшым выявам яго самабытнасці. Праўда, гэтая будова яшчэ насіла на сабе адбітак суровасці і часткова неагладжанасці, але яна сталася першаўзорам для далейшага будаўніцтва на нашай Бацькаўшчыне і ў суседніх краях. Тут не было таго патурання іншым чужым стылям, як гэта мела месца ў яе папярэдніцы св. Сафіі; яна ёсць арыгінальны, чыста мясцовы твор і калі мела адбітак ранейшых будынкаў, дык хіба старых замкаў і абаронных муроў. У ёй яшчэ маса прыціскае прастор. Малюсенькія вокны знаходзіліся высока пад скляпеннем. Бакавыя навы мала шыршыя, як сходы ў заходняй сцяне, яны вялі на хоры, дзе знаходзіліся дзве келлі, у адной з якіх жыла святая. Гэтыя келлі да апошняга часу захаваліся ў сваім даўнейшым выглядзе, але вонкавасць царквы ў пазнейшых перабудовах атрымала візантыйскі стыль. Апошні раз перабудоўвалася яна ў 1841 г.

Сцены царквы былі пакрыты шматлікімі малюнкамі-фрэскамі і старасветнымі напісамі.

З даўных-давён гэтая царквы ў народзе мела назоў Спаса-Юр'евіча, гэта сведчыць аб тым, што бацька Еўфрасінні, князь Юрый, такжа мусіў прычыніцца да яе пабудовы сваімі дарункамі.

Можна сабе лёгка ўявіць, якая была радасць у манасты-

ры, калі закончылі будову гэтае святыні. Пасвяціў царкву сам епіскап у саслужэнні ўсяго полацкага кліраcу і ў прысутнасці абаіх князёў — значыць, яшчэ перад 1128 г. Разам з Еўфрасінняю радаваліся і ўсе палачане ды святкавалі гэтую падзею некалькі дзён.

Для выяўлення свае шчырае падзякі Богу Еўфрасіння ўлажыла адпаведную малітву: «Ты, Госпадзе, сэрцавідча Уседзяржыцелю, зглянься на гэтую царкву, збудаваную ў імя Тваё, і на мяне, нягодную слугу Тваю, і іншых слуг Тваіх, сабраных пры гэтай царкве... і працуючых Табе, будзь нам настаўнікам, пастырам і сторажам, каб ніводнае з нас не схапіў на згубу драпежны воўк-нячысцік. Будзь нам, Госпадзе, аружжам і сцяною, каб не сталася нам ліха і рана каб не прыбліжылася да нашага цела, і не загубі нас з нашымі бяспраўствамі. На Цябе спадзяёмся, бо Ты Бог добрасардэчны і літасцівы для тых, што знаюць Цябе, і Табе славу засылаем да апошняга нашага дыхання».

Да сясцёр Еўфрасіння звярнулася з вельмі вымоўным павучэннем. Можна дагадвацца, што яно з'яўляецца не выдумкаю жыццяпісца, але, прынамсі, нейкім блізкім пераказам сапраўднага еўфрасіннінскага слова. Яно сведчыць не толькі аб дасканалым знанні Святога Пісання, але і вялікіх вымогах да чарнечага жыцця, якімі азначалася Еўфрасіння. Аднак форма і стыль гэтага павучэння маюць пазнейшыя азнакі.

«Вось сабрала я вас, як квахтуха куранят, пад крыллі свае і, быццам Божых авец на Божую пашу, пасвіцца ў Божых прыказаннях, каб і я з радасцю, а не з сумам дбала аб вашым спасенні і навучала вас, цешучыся, бачачы духоўны плод вашае працы. Ужо столькі слоў Божае навукі я сеяла на ніве вашых сэрцаў, а нівы гэтыя на адной меры стаяць, не растуць у дабротах і дасканаласці. А час жніва набліжаецца, і веялка гатовая ў гумне, якая адвее куколь ад пшаніцы. Баюся, каб вы не сталіся куколем і каб не былі адданыя неўгасаючаму агню. Малю вас, сёстры мае, пастарайцеся ўсцерагчыся ад грахоўнага куколю і ўцячы ад неўгасаючага агню: станьцеся чыстаю пшаніцаю Хрыстоваю і змяліцеся ў жорнах малітвы, пакоры і посту і чыстае любові, каб быць любым хлебам на трапезу Хрысту».

Хутка пасля заканчэння царквы св. Спаса Еўфрасіння пастаралася выбудаваць другую мураваную царкву ў імя

Прасвятое Багародзіцы, каля якое заснаваўся мужчынскі манастыр. Да нашых часоў ад гэнага манастыра не асталося нават следу, аднак, згодна з даўнейшай практыкай, звычайна ў тых выпадках, калі манастыры былі па-за горадам, будаваліся мужчынскія і жаночыя ў суседстве, каб на выпадак нападаў манахі маглі абараняць абодва манастыры. Магчыма, што якраз дзеля гэтага царква Багародзіцы і мужчынскі манастыр, які быў каля яе, зруйнаваныя дазвання. Гісторык Сапуноў дагадваецца, што царква св. Багародзіцы мусіла быць на тым месцы, дзе пазней знаходзіўся касцёл св. Ксавэрыя на магільніку.

Абедзве царквы, акрамя шматлікіх фрэскаў на сценах, былі аздоблены шматлікімі абразамі.

## Ікона Эфескае Багародзіцы

У звязку з будоваю новых святыняў св. Еўфрасіння пастанавіла здабыць для іх якіясь вызначнейшыя святасці. Паводле тагачаснае візантыйскае традыцыі, на Усходзе меліся тры іконы Багародзіцы, маляваныя апосталам Лукою: Ерусалімская, Царгародская і Эфеская. На Захадзе прыпісвалі апостальскае паходжанне іншым абразам. Відаць, што візантыйская традыцыя добра была ведама ў Полацку, бо нават полацкія князі былі нейкі час у Візантыі і між імі родны бацька св. Еўфрасінні. Адну з гэтых іконаў, у жыццяпісе кажацца — Эфескую, і задумала набыць сабе ў Полацк св. Еўфрасіння. Дзеля гэтага яна, шчыра памаліўшыся Богу аб помачы, выслала манастырскага слугу Міхася ў Візантыю з багатымі дарункамі для імператара Мануіла Комніна (1143—1180) і патрыярха Лукі Хрызоверга (1156—1169), просячы іх прыслаць для Полацка Эфескую ікону Багародзіцы, званую Адзігітрыя (Пуцяводніца).

Імператар і патрыярх, атрымаўшы шчодрыя дары, здаволілі просьбу, але, магчыма, не зусім так, як апавядаецца ў жыццяпісе. Як слушна заўважае Галубінскі, відавочна, яны не прыслалі самага арыгінала іконы, але копію, і то не з Эфескае, а з Царгародскае іконы, якая звалася Адзігітрыя. Магчыма, што якраз гэткае і было жаданне св. Еўфрасінні. Дый у самым жыццяпісе кажацца, што патрыярх Лука ра-

зам з епіскапамі і духавенствам перш багаславіў ікону ў саборы і толькі потым перадаў слузе Міхасю. Нельга падумаць, каб нават патрыярх багаславіў ікону, маляваную апосталам і ўслаўленую шматлікімі цудамі, гэта ён мог рабіць толькі тады, калі мелася справа з копіяю.

З вялікаю радасцю атрымала св. Еўфрасіння гэтую ікону і ўпрыгожыла яе золатам ды дарагімі каменнямі. Сталага месца для іконы, відаць, не было, бо ў адных рэдакцыях жыццяпісаў кажацца, што яна знаходзілася ў Спаскай царкве, у іншых — што ў Багародзічнай; гэтая разбежнасць вестак выклікана тым, што быў уведзены звычай: кожны аўторак абносіць гэтую ікону па ўсіх полацкіх цэрквах, але, напэўна, найдаўжэй яна затрымоўвалася ў Спаскай і Багародзічнай цэрквах, адкуль і выносілася. Сам звычай вынасу іконы кожны аўторак адначасна пацвярджае думку, што копія была зроблена з Царгародскае (Візантыйскае) іконы, якую такжа, паводле тагачасных звычаяў, выносілі кожны аўторак.

Што сталася пасля з гэтаю іконаю? Цяжка сказаць з пэўнасцю. Расейскія гісторыкі разам з мітрапалітам Макарыем кажуць, што ў 1239 г. пад час шлюбу маскоўскага князя Аляксандра Неўскага з дачкою полацкага князя Брачыслава перанеслі ікону ў Тарапец, дзе яна мела і астацца. Нават меўся быць пісаны акт аб яе пераносе з Полацка ў Тарапец. Затое а. Стэбельскі, апіраючыся на сведчанне Я. Сушы і Кульчынскага, гаворыць, што гэтую ікону меў забраць галіцкі князь Леў і перанесці ў Бэльзу, адкуль у 1389 г. яна была перанесена ў Чэнстахову. Каторая з гэтых вестак адказвае праўдзе, сёння нельга сцвердзіць, але ёсць факт, што іконы ў Полацку няма ад XIV в.

## Крыж Лазара Богшы

Адначасна з іконаю Багародзіцы св. Еўфрасіння атрымала з Канстанцінопаля шматлікія іншыя святасці. Дзеля перахавання гэтых святасцяў яна замовіла ў 1161 г. у выдатнага беларускага майстра Лазара Богшы вартасны крыж.

Крыж мае шасціканцовую форму, велічынёю 51 см і выкананы з серабра, золата і дарагіх каменняў. Па баках

а. Леў Гарошка.

# СЬВ. ЕЎФРАСІНЯ-ПРАДСЛАВА

**Ігуменя манастыра сьв. Спаса ў Полацку патронка Беларусі**

Выданьне Беларускае Рэлігійнае Місіі

ПАРЫЖ — 1949

Тытульны аркуш кнігі айца Льва Гарошкі.

2 Зак. 1338



**Паганскі ідал з Прыдзвіння.**



**Каменны ахвярнік з паганскага капішча на Павульскім возеры каля Полацка.**



**Фрэска Спасаўскай царквы XII ст. у Полацку. Верагодная выява найпадобнейшай Еўфрасінні.**



**Святая Еўфрасіння. Фрагмент гравюры XIX ст. са старажытнага абраза, які знаходзіўся ў Спасаўскім манастыры ў Полацку.**



Полацкая царква Спаса (Спаса-Еўфрасіннеўская) у сярэдзіне XIX ст. Тагачасная гравюра.



Такі выгляд мела найстаражытнейшая Сафія Полацкая.



**Царква Параскевы-Пятніцы XII ст. у Бельчыцах. Не захавалася.**



**Барысаглебаўская царква XII ст. у Бельчыцах. Не захавалася.**



**Полацк часоў Усяслава Чарадзея. Рэканструкцыя.**



**Мініяцюра Аршанскага Евангелля XIII ст.**



**«Рагвалодаў камень» з-пад Воршы. Гравюра XIX ст.**



**Медная пласцінка з выяваю святога Фядота. Горадня. XII ст.**



**Святыя Канстанцін і Алена. Каменны абразок XII ст. з Полацка.**



**Малюнак, знойдзены на сцяне Дабравешчанскай царквы XII ст. у Віцебску.**







Крыж Еўфрасінні Полацкай.

1 2 3 4

+ВЪЛѢ·Ѕ·НХ҃Ѳ҃ ПОКЛАДАЕ ТЬѠФРО СИНЬѦЧЬСТЬ
ЩНИ·НАДБОУД ТЬПРОКЛѦ ГЪСТОЮ ЖИВОТВОРѦ

5 6 7

НЗІНКРСТЪ·ВЪМА НАСТЪІРИСВОЕМЬ·ВЪЦРКВИ·СТГО
ЩЕЮТРОИЦЕЮ·И СТЪІМИѠ ТЦИ·Т·Н·Н СЕМИЮ

8 9

СПСА·ЧЬСТЬНОЕДРЕВОБЕ СЦѢНЬНОЕСТЬ·АКОВАНЬЕГО·
СЪБОРЪСТЪІХЪОТЦЬ·И БОУДИЕМОУЧАСТЬСЪНЮДО

ЗЛОТО·ИСЕРЕБРО·ИКАМѢНЬЕ·ИЖЬНЧЮГЪ·ВЪ·Р·ГРИВ
Ю·ИЖЕПРѢДАХСА·КТОЖЕДРЬЗНЕТЬСЪТВОРИТИ

10 11

НЪДА М·ГРИВНЪ·ДАНѢИЗНЕСЕТ
ВЛАСТЕЛИНЪ·ИЛИКНѦЗЬ·

СѦИЗМАНАСТЪІРѦ·НИКОГДАЖЕІАКОНИПРОДАТ
ИЛИПИСКОУПЪ·ИЛИИГОУМѢНЬѦ·ИЛИИНЪКОТ

12 13 14

И·НИѠДАТІ АЩЕСЕКТОПРѢСЛОУШ АЕТЬ·ИЗНЕ СЕТЬ
ОРЪІИЛЮБС ЧЛВКЪ АБОУДИЕМОУК ЛАТВАСИ ѠФР

15 16 17

ИѠМАНАСТЪІРѦ ДАНЕБОУДИЕМОУ ПОМОЩЬНИ КЪ·
ОСИНЬЮЖЕРАБА ХВА·СЪТѦЖАВЪ ШИКРСТЪ СИ

18 19 20

ЧЬСТЬ НЗІИКРСТЪ ИИВЪСЬВѢКЪИ Н ЪБОУД
И·ПРИ ИМЕТЬВѢЧ НЪЮЖИЗНЬСЪВ С

0 4см

Надпіс на крыжы святой Еўфрасінні.



Эмалевая выява Ісуса Хрыста з крыжа святой Еўфрасінні.



**Адзігітрыя Полацкая.**



**Каменны абразок з Менска. XII — пач. XIII ст.**



**Фрэска Спасаўскага храма ў Полацку. XII ст.**




**Полацкі Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.**

крыжа на сярэбраных пазлачаных бляшках знаходзіцца напіс у царкоўнаславянскай мове, які ёсць вельмі вартасным і рэдкім дакумантам з тых часоў. Дзеля нястачы царкоўнаславянскага шрыфту падаём і сам напіс у перакладзе: «У лета 6669 (гэта зн. 1161) пакладае Еўфрасіння чэсны крыж у сваім манастыры ў царкве святога Спаса. Чэснае дрэва бязвартаснае ёсць, а акаванне яго: золата і срэбра і каменне і перлы 100 грывен, а да... (тут напіс пашкоджаны) 40 грывен. Каб ніколі не выносіўся з манастыра, не аддаваўся, не прадаваўся. Калі ж хто не паслухаецца і вынесе з манастыра, каб яму не ўспамагаў чэсны крыж ні ў гэтым жыцці, ні ў будучым, і хай будзе пракляты святою і жыватворчаю Тройцаю і святымі 318 айцамі і сямю саборамі святых айцоў, і хай яго спаткае доля Юды, які прадаў Хрыста. Хто адважыцца зрабіць гэта... (зноў пашкоджана) вяльможа, ці князь, ці біскуп, ці ігуменння, ці любы іншы чалавек, хай на ім збудзецца гэтае пракляцце. Еўфрасіння ж раба Хрыстова, зладзіўшая гэты крыж, прыме вечнае жыццё з усімі святымі».

Выкліканы гэты напіс тым, што даўней грабленне цэркваў не было рэдкім з'явішчам, нават у спакойны час. Нават самі архірэі, асабліва грэкі, не раз забіралі з цэркваў вартасныя рэчы. У Полацку якраз займаў епіскапскі пасад грэк Козма (1143—1156), магчыма, ён прычыніўся да таго, што ў напісе не забыліся ўспамянуць і «біскупа».

Варта зацеміць, што тагачасная царкоўнаславянская мова ў напісе мае паважны ўплыў жывое беларускае мовы з характэрным аканнем, напр.: манастырь, акаваньіе, Офросинья, пискоупъ. Трэба думаць, што кнігі, перапісаныя св. Еўфрасінняю, усе мелі гэткія ўплывы жывое тагачаснае мовы.

Пры канцы ручкі на крыжы ёсць напіс майстра: «Госпадзе, памажы рабу свайму Лазару, званаму Богшам, зрабіўшаму гэты крыж для царквы святога Спаса і Еўфрасінні». Пачатак гэтага напісу зусім такі самы, які сустракаецца на Барысавых камянях.

На крыжы знаходзяцца выкананыя ў перагарадчатай візантыйскай эмалі абразы Хрыста, Багародзіцы і святых, а каля іх адпаведныя напісы. З напісаў такжа даведваемся аб тых мошчах, якія знаходзяцца ў крыжу: 1) частка дрэва, акропленая крывёю Ісуса Хрыста, 2) крыху большая частка

дрэва св. Крыжа, 3) камень ад гроба Багародзіцы, 4) частка мошчаў першамучаніка Сцяпана, 5) кроў св. Дзмітра, 6) частка мошчаў св. Панцялеймана.

Мастацкая апрацоўка крыжа сведчыць, што ў XII в. у нас на Бацькаўшчыне былі майстры, якія ў майстэрнасці з золатам і эмаллю асягнулі вяршок тагачаснае візантыйскае тэхнікі. Дзеля гэтага некаторыя расейскія гісторыкі стараліся вышукаць нейкую быццам полацкую традыцыю, паводле якое крыж меў быць зроблены ў Ерусаліме, а толькі прыкрашаны ў Полацку. Трэба думаць, што гэтую дагадку маглі выклікаць напісы каля святых амаль у чыстай грэцкай мове славянскімі літарамі, напр.: (а) Лукас, (а) Маркос, гагія Софія і г. д. Аднак самая форма крыжа падобная да таго, які бачым на Барысавых камянях. Беларускія словы ў напісе і самае прозвішча майстра аднагодна і ясна сведчаць, што ён увесь быў зроблены ў Полацку. Веда грэцкае мовы з'явілася ў Полацк адначасна з епіскапамі-грэкамі.

На вялікі жаль, немаведама, дзе гэты крыж знаходзіцца сёння, не ведама, якая яго спаткала доля. Каля 1930 г. паявіліся весткі ў газетах, што яго прадалі ў Швецыю. Ці сапраўды так сталася, можна будзе даведацца ў больш нармальныя часы. Аднак пракляцце, выпісанае на крыжы, не абміне бязбожнае, злачыннае рукі, якая вынесла яго з Спаскае царквы.

## Паломніцтва ў Святую Зямлю

Перш чым гаварыць аб самім паломніцтве, трэба зазначыць, што некаторыя гісторыкі, апіраючыся на той факт, што цела св. Еўфрасінні да 1910 г. знаходзілася ў Кіеўскай Пячэрскай лаўры, стараліся даказваць, што св. Еўфрасіння рабіла паломніцтва толькі ў Кіеў і там памерла. Гэтая дагадка зусім не згодная з фактамі. Аб тым, як цела святое знайшлося ў Кіеве, даведаемся потым. Усе жыццяпісы і традыцыя аднагодна сведчаць аб тым, што яна хадзіла ў Палесціну. Ведаючы дату смерці (23.V), мяркуем, што паломніцтва ў Кіеў ёй трэба было б пачынаць у красавіку, а гэта амаль немагчыма дзеля вясенняга бездарожжа.

Думка аб паломніцтве ў Святую Зямлю мусіла з'явіцца

ў св. Еўфрасінні пасля атрымання іконы Багародзіцы з Царгорада. Слухаючы апавяданне слугі Міхася аб далёкім і цікавым падарожжы і аб святынях, св. Еўфрасіння праектуе паломніцтва ў Ерусалім, каб пакланіцца Хрыстоваму гробу і там памаліцца за сябе і за родны край. Аб сваім намеры яна паведамляе ўсіх сваіх родных. Тыя на гэтую звестку з'ехаліся ў манастыр св. Спаса і стараліся адмовіць св. Еўфрасінню ад такога вялікага, цяжкога і даволі небяспечнага падарожжа. У жыццяпісах падчырквaецца, што яны малілі яе, каб «не пакідала іх і ўсяе свае Бацькаўшчыны». Святая супакоіла, што не пакіне іх, але пойдзе маліцца за іх.

Перад самым ад'ездам св. Еўфрасіння не змарнавала нагоды павялічыць лік сясцёр свайго манастыра. Калі разам з усімі роднымі прыехаў брат св. Еўфрасінні Вячаслаў з жонкаю і дзвюма дочкамі — Кірыніяю і Вольгаю, дык пасля даўжэйшае гутаркі св. Еўфрасіння заўважыла, што абедзве князёўны цікавяцца манашым жыццём. Жыццяпісец зазначае, што святая мела такі дар ад Бога: калі на каго глянула, адразу бачыла, ці ёсць у ім дабрадзейны дух і ці можа быць выбраннікам Божым. Дзеля гэтага, калі Вячаслаў астаўся начаваць у манастыры, дык святая для яго прызначыла асобны пакой, а князёўнаў паручыла сястры Еўдакіі. Астаўшыся з імі на адзіноце, звярнулася да іх з такою прапановаю: «Хачу вас заручыць бяссмертнаму Жаніху і ўвясці ў Ягонае валадарства». На гэта абедзве адказалі: «Хай станецца воля Господня і твая святая малітва; як хочаш, валадарка, так рабі з намі».

Па некалькі днях св. Еўфрасіння паклікала брата і сказала яму, што хоча пастрыгчы ў чарніцы ягоных дачок. Вячаслаў гэтаю весткаю быў вельмі незадаволены і прыгноблены і звярнуўся да яе з дакорлівым словам: «Валадарка мая, што ты надумала зрабіць мне: два плачы хочаш спрычыніць душы маёй: па табе маю плакаць, што адходзіш ад нас, і па дзецях сваіх сумаваць, што мяне пазбавяць пацехі». Княгіня ж на гэтую вестку залівалася горкімі слязамі, але ў канцы абое не змаглі супрацівіцца св. Еўфрасінні і прысталі на яе волю. Яна паклікала тагачаснага епіскапа Дыянісія (1166—1182), і ён пастрыг абедзвюх князёўнаў у царкве св. Спаса і багаславіў іх. У пастрыжэнні Кірынія атрымала імя Агата, а Вольга — Еўфімія.

Хутка пасля гэтага здарэння св. Еўфрасіння канчаткова ўстанавіла ўстаў для абаіх манастыроў, мужчынскага і жаночага, ды перадала ігуменства сваёй сястры Еўдакіі, а сама пачала рыхтавацца ў дарогу.

Памаліўшыся, св. Еўфрасіння ў таварыстве малодшага брата Давіда, сястры Еўпраксіі і слугі Міхася развіталіся з усімі блізкімі і знаёмымі ды выправіліся ў далёкі шлях. Палачане з шчырым жалем і слязамі далёка суправаджалі яе.

Які быў шлях гэтага паломніцтва, у жыццяпісе не гаворыцца, але ўспамінаецца, што па дарозе стрэнула «цара, які йшоў на мадзьяраў і адаслаў яе з вялікаю чэсцю ў Царгорад». З гэтага выходзіла, што яна выбрала шлях сухапуццем, а не тым слаўным водным шляхам «з вараг у грэкі», па якім рабіліся вялікія падарожжы.

Гэта такжа сведчыла аб тым, што паломніцтва пачалося зімою. Паводле тагачасных звычаяў, у нас вялікія падарожжы рабіліся або ранняй зімой, або раннім летам, каб абмінуць цяжкое бездарожжа. Выйшаўшы з Полацка каля Каляд, вясною можна было быць каля Візантыі. У гэтым выпадку толькі вясною св. Еўфрасіння магла спаткаць імператара. Гэтае спатканне і дазваляе дакладна азначыць дату паломніцтва і адначасна смерці. Ужо расейскі гісторык Галубінскі заўважыў, што спатканне з імператарам Мануілам Комнінам можа быць выкарыстана для ўстанаўлення даты паломніцтва, але адмовіўся ад гэтае працы, спасылаючыся на тое, што Мануіл некалькі разоў рабіў паходы супраць мадзьяраў. Тым часам з таго факта, што св. Еўфрасіння выйшла з Полацка ўжо тады, калі там епіскапам быў Дыянісій, які пастрыгаў Кірынію і Вольгу, паломніцтва не магло быць раней 1166 г., бо ён незадоўга да гэтага часу заняў полацкі пасад, але, з другога боку, імператар Мануіл апошні паход супраць мадзьяраў рабіў такжа ў 1167 г. У гэты паход ён выйшаў на Вялікдзень 8 красавіка, вось жа якраз і мог спаткацца з св. Еўфрасінняю дзесьці на абшары свае імперыі хутка пасля выхаду. Як бачым, факты зусім добра годзяцца між сабою, таму 1167 г. трэба прыняць як пэўную дату паломніцтва св. Еўфрасінні. Перадапошні паход Мануіла быў у 1163 г., распачаўся летам — гэтым самым яго нельга пагадзіць з фактамі, паданымі ў жыццяпісе. Гэтаксама трэба адкінуць падаваныя дагэтуль даты 1173 і 1175

як зусім беспадстаўныя, зрэшты, яны і падаваліся толькі як прыблізныя, а не як пэўныя.

Вяртаючыся далей да самага паломніцтва, бачым, што св. Еўфрасіння пасля сустрэчы з імператарам накіравалася ў Царгорад, праўдападобна, у суправаджэнні імператарскіх прадстаўнікоў. Там яе сустракалі з почасцямі, але гэта не затрымала яе доўга ў Царгорадзе. Яна адведала вялікую царкву св. Сафіі, купіла дарагіх кадзілаў, залатую кадзільніцу і, узяўшы багаславенства ад патрыярха, паспяшыла ў Ерусалім. Не было ў характары св. Еўфрасінні затрымоўвацца доўга нават у слаўным Царгорадзе, калі галоўная мэта падарожжа — Ерусалім — яшчэ была ўперадзе.

У Царгорадзе было лёгка знайсці магчымасць хутка даехаць у Палесціну, таму ўжо ў канцы красавіка св. Еўфрасіння разам з сваімі спадарожнікамі ступіла на Святую Зямлю.

Набліжаючыся да Ерусаліма, св. Еўфрасіння выслала свайго слугу з просьбаю да тамтэйшага патрыярха, каб адчыніў ёй «Хрыстовую браму». Тут, праўдападобна, маецца на ўвеце «Залатая брама», якая знаходзіцца ва ўсходняй часці Ерусаліма з боку Элеонскае гары, праз каторую, паводле пазнейшае традыцыі, Хрыстос перад сваімі мукамі ўрачыста ўваходзіў у Ерусалім у вербную нядзелю. Гэта брама вядзе на плошчу Амара, і ў часе, калі Ерусалімам валодалі туркі, хрысціянам туды ўступ быў забаронены. Аднак пад час паломніцтва св. Еўфрасінні ў Ерусаліме панавалі рыма-каталіцкія цары крыжаносцаў, у руках якіх знаходзілася ўлада між 1099—1187 гг. Трэба думаць, што і самая просьба аб адчыненні «Залатой брамы» хутчэй адносілася да тагачаснага цара Амальрыха I (1162—1173). Ён, як і ягоныя папярэднікі, быў у далёкім спародненні з нашымі князямі праз жонку французскага караля Генрыха I Ганну Яраслаўну (1019—1054). Магчыма, што гэты далёкі ўспамін, а на дадатак яшчэ і даручэнне ад імператара Мануіла Комніна, пляменніца якога была жонкаю Амальрыха, спрычыніліся да таго, што просьбу св. Еўфрасінні ахвотна выканалі. Шчодры падарунак ад святое, відаць, такжа меў сваё значэнне, бо гэты кароль ведамы з таго, што быў ласы на грошы і почасці, а св. Еўфрасіння ніколі пасланца не высылала з пустымі рукамі.

Увайшоўшы праз «Залатую браму» ў Ерусалім, св. Еў-

фрасіння перапрасіла Хрыста за гэткі крок і разам з усімі сваімі спадарожнікамі пайшла пакланіцца Хрыстоваму Грабу. Туды прыходзілі яны на малітву тры дні падрад. У канцы св. Еўфрасіння абкадзіла Гроб прынесенымі з Візантыі кадзіламі, шчодра абдарыла святыню, пакінула на Гробе ў дарунак ад Беларусі залатую кадзільніцу і звярнулася да Хрыста з малітваю, каб умерці ў гэным святым горадзе. З усяго паступовання св. Еўфрасінні відаць, што гэтая просьба не была пустым жаданнем славы, але найбольш актам геройства: аддаць жыццё сваё ў ахвяру за родны край, падобна, як Хрыстос аддаў жыццё за ўвесь людскі род.

## Смерць св. Еўфрасінні

Малітва яе была выслухана, бо, прыйшоўшы ад св. Гроба ў манастыр св. Багародзіцы, у якім была затрымаўшыся, яна адразу занемагла. Лежучы хвораю, св. Еўфрасіння шчыра дзякавала Богу за тое, што і гэтым разам выслухаў яе малітву, і пачала рыхтавацца да смерці. Перад смерцю яна вельмі жадала быць на Іардане, аднак хвароба ўжо не дала ёй магчымасці пайсці туды, дзеля гэтага яна выслала сваіх спадарожнікаў, каб, прынамсі, прынеслі ёй вады з Іардана. Калі тыя вярнуліся з іарданскаю вадою, св. Еўфрасіння ўстала з ложка ім на спатканне, напілася вады, акрапілася ёю і легла зноў ды пачала маліць Бога, каб хутчэй прыняў яе душу.

У часе гэтае хваробы ёй з'явіўся анёл і паведаміў, што Бог выслухаў яе малітвы, прыняў яе ўсю працу і што на спатканне яе душы ўжо чакаюць анёлы ў небе.

З вялікай радасцю і бязмернай удзячнасцю ўспрыняла св. Еўфрасіння гэтую вестку і паслала ў манастыр св. Савы прасіць тамтэйшага архімандрыта, каб далі ёй месца на пахаванне. Архімандрыт вельмі прыхільна прыняў пасланца, але не мог здаволіць ягонае просьбы, бо, паводле волі св. Савы, у манастыры было забаронена хаваць жанчын. Ён параіў пасланцу звярнуцца ў Тэадозіеў манастыр св. Багародзіцы, у якім спачывалі: маці св. Савы, маці св. Тэадозія, маці св. бяссрэбранікаў Кузьмы і Дзям'яна ды іншыя выдатныя жанчыны. Св. Еўфрасіння скарыстала параду і,

атрымаўшы згоду тамтэйшага архімандрыта, шчыра дзякавала Богу за такую вялікую чэсць спачываць між святых жанчын. Яна закупіла сабе месца ў прытворы і дамавіну ды спакойна чакала апошняе хвіліны.

Калі на дваццаць чацвёрты дзень хваробы яна адчула блізкі канец, заклікала святара, выспавядалася і запрычашчалася і хутка аддала сваю святую душу Богу 23 травеня 1167 года.

З чэсцю пахавалі св. Еўфрасінню ў раней закупленым гробе. Невясёлыя вярталіся спадарожнікі св. Еўфрасінні ў родны Полацк, несучы сумную вестку аб смерці святое. Усе палачане з вялікім жалем успрынялі гэтую сумную вестку і пастанавілі святкаваць памяць св. Еўфрасінні, славячы Трыадзінага Бога за тое, што маюць сваю заступніцу ў небе.

## Дзейнасць св. Еўфрасінні

Пераказваючы ў кароткіх словах жыццё св. Еўфрасінні, не раз прыходзілася звяртаць увагу на розныя дробныя жыццёвыя здарэнні, за якімі калі-нікалі быццам губляўся агульны абраз яе дзейнасці, таму неабходна звярнуць асобную ўвагу на галоўны кірунак гэтае дзейнасці, каб абраз самое святое стаў перад нашымі вачыма ў яснейшым святле.

Поле дзейнасці св. Еўфрасінні было вельмі шырокае і даволі ўрадлівае. Да гэтага спрычыніліся тры дзейнікі: яе ўроджаная здольнасць, высокая асвета і асаблівая ласка Божая. Усё гэта натхняла яе да важных і адважных пачынанняў і, не зважаючы ні на якія перашкоды і цяжкасці, не знеахвочвала яе аж датуль, пакуль не асягала намечанае мэты.

Аб надзвычайных прыродных здольнасцях св. Еўфрасінні сведчыць яе нахіл у ранняй маладосці да глыбокіх разважанняў над сэнсам жыцця; яе нахіл да навукі і лёгкае ўспрыманне граматы, а найважнейшае — дык гэта тое, што яна мела нязломную волю развіць гэтыя свае здольнасці як магчыма найлепш і ахвяраваць іх на службу Богу і народу. Мы бачылі, што ані багацце, ані слава, ані княжыя почасці, ані абяцанкі зямнога шчасця, ані бацькоўская любоў, ані

нават слёзы родных і любых бацькі і маці не адвялі св. Еўфрасінні ад пастановы ахвяраваць усё сваё жыццё Богу. У гэтым і ёсць яе веліч, што ўсе свае здольнасці, усе магчымыя почасці і дачасную славу яна *сведама і дабравольна прынесла ў ахвяру Богу за асвячэнне і асвечанне свайго народа.*

Яна не шкадуе сілаў на развіццё сваіх здольнасцяў, каб гэтым самым яе ахвяра была большая і свяцейшая. Мы бачылі, што св. Еўфрасіння дома атрымала толькі пачатковую асвету, але потым з першага свайго манастыра яна перасяляецца ў Свята-Сафійскую царкву, дзе была вялікая бібліятэка, і там саматужна здабывае вышэйшую асвету, якую тады агулам можна было здабыць, і адначасна дакладае ўсе сілы для пашырэння гэтае асветы між сваіх суродзічаў. Яна не толькі перапісвае кнігі, але такжа і перакладае іх з грэцкае і лацінскае моў на сваю родную, каб гэткім чынам узбагаціць сваю літаратуру. Пад яе рукою кожная чорная літарка на белым аркушу пергаменту замянялася ў ясны праменьчык, які разліваўся цудоўным ззяннем і разыходзіўся шырока па беларускай зямлі.

Божая ласка бачна падтрымоўвала на кожным кроку яе кволыя жаночыя сілы і гартавала да вялікіх учынкаў. Ніводнае яе пачынанне не асталася недаконченым. У яе жыцці ёсць ясны прыклад, як здзейсніваюцца словы Хрыста: «Шукайце перш валадарства Божага і справядлівасці Яго, а ўсё іншае даложыцца вам».

За светлым прыкладам св. Еўфрасінні паўставалі, разрасталіся адзін за другім жаночыя і мужчынскія манастыры, пры іх паўставалі школы, прытулкі для ўбогіх, хворых і сіратаў.

З манастыра св. Спаса ў Полацку пачынае ад XII в. крынічыць рэлігійнае і культурнае аднаўленне краю. Мы бачылі, што там быў сабраны немалы гурток асвечаных манашак-князёўнаў, сёстраў св. Еўфрасінні, якія не шкадавалі сілаў, каб ісці верна следам за заснавальніцаю св. Спаскага манастыра. Трэба думаць, што гэткім жа следам пайшоў і мужчынскі манастыр св. Багародзіцы.

Каб шукаць з людскога гледзішча, у чым быў сакрэт плоднае працы св. Еўфрасінні, дык трэба дагадвацца, што ён быў у своеасаблівым падыходзе да справы пашырэння асветы і хрысціянства. Яна абрала шлях не змагання з

старымі традыцыямі, як гэта рабілі чужынцы на нашых землях, але асвячэння ўсяго таго, што агулам хрысціянства магло асвяціць. Гэты падыход ясна відаць у будове царквы св. Спаса, у якой першы раз у гісторыі беларускае культуры была спалучана мулярская візантыйская тэхніка з тагачасным беларускім народным будаўніцтвам, прычым гэтае народнае будаўніцтва было адухатворанае і накіраванае да высокіх ідэалаў. Тое самае сталася і з народным мастацтвам, якое было спалучана з іканаграфіяю. Гэткім чынам можна было лёгка ахапіць хрысціянізацыю краю аж да найніжэйшых народных пластоў уключна, і гэтым самым быў зроблены паважны крок уперад у гісторыі беларускае культуры агулам і хрысціянізацыі Беларусі ў асаблівасці. Нічога тады дзіўнага, што з іменем св. Еўфрасінні блізка звязаны імёны першага беларускага дойліда Івана з Полацка і мастака Лазара Богшы — гэтыя імёны сведчаць вымоўна, што дзейнасць св. Еўфрасінні стварыла добры грунт для развіцця народных талентаў.

Дабрадзейны ўплыў св. Еўфрасінні не абмяжоўваўся толькі рэлігійным і культурным полем, ён следны такжа ў грамадскім і дзяржаўным жыцці. Ужо хоць бы дзеля таго, што полацкія князі былі яе найбліжэйшаю раднёю, між князямі і св. Еўфрасінняю былі вельмі блізкія суадносіны, у якіх часта можна заўважыць дабрадзейны ўплыў святое. Гэты ўплыў перадусім меў на мэце палагодзіць мірным спосабам усякія непаразуменні між князямі, «бо не хацела бачыць, каб былі ў суцяжніцтве між сабою князь з князем, ці баярын з баярынам, ці просты чалавек з сваім бліжнім, але хацела, каб усе былі як адна душа»,— кажа жыццяпісец.

Зусім канкрэтны выпадак гэтае годнае дзейнасці святое гісторыкі дабачваюць у паводзінах князя Васількі (1132—1143) супраць Усевалада Мсціславіча, бацька якога спрычыніў столькі няшчасця для полацкіх князёў. Калі Усевалад праходзіў каля Полацка ў Пскоў, Васілька мог лёгка напасці на яго і адпомсціць за нядаўнія крыўды, аднак замест помсты ён выйшаў насустрач Усеваладу і прыязна гасціў яго. Відаць, што гэтая «любоўная помста» была для Усевалада больш даймаючая, як усякая іншая, крывавая, бо ў выніку гэтага спаткання паўстала супольная прысяга не ўспамінаць таго, што было раней. Абодва князі гэтую прысягу датры-

малі — рэдкае з'явішча на тыя часы. Для св. Еўфрасінні гэта было вялікім дасягненнем.

Св. Еўфрасіння была ў блізкіх адносінах не толькі з сваімі князямі, але такжа і з візантыйскім імператарам Мануілам Комніным, з якім вяла карэспандэнцыю ў грэцкай мове. Некаторыя гісторыкі з гэтага факта дагадваюцца зусім слушна, што яна мусіла садзейнічаць у рэлігійнай палітыцы імператара Мануіла, якая накіроўвалася на паеднанне Усходняе і Заходняе Цэркваў. На нашых землях тады яшчэ не было і следу варожасці між Цэрквамі, але, відаць, дзякуючы ўплыву святое, нават епіскапы-грэкі ў Полацку, як, напр., Козма (1143—1156), не рабілі нічога, каб гэтую варожасць распальваць.

Шырокае поле дзейнасці св. Еўфрасінні беспярэчна мусіла высока падняць аўтарытэт не толькі Полаччыны, але агулам усяе Беларусі ў вачах візантыйскага імператара і патрыярха, ужо не кажучы аб суседніх княствах.

У канцы трэба зазначыць, што побач усіх пералічаных вышэй учынкаў святое, яе малітва, ахвярнасць і самазапярэчанне, разам з падобнымі ўчынкамі яе супадзвіжніцаў, вымольвалі ў Бога тую раўнавагу для Бацькаўшчыны, без якое жыццё стае хаатычным.

Светлы прыклад, ахвярнае жыццё, рухавая дзейнасць, шчырая малітва і бязмежнае самазапярэчанне св. Еўфрасінні прычыніліся для прыгожага росквіту хрысціянскіх цнотаў у нашым народзе, ушляхотнівалі пачуццё дабра і красы, збольшвалі рэўнасць да спасення душы, лагодзілі звычаі і абычаі, уздымалі асвету і культуру беларускага народа — таму так высока цэніць і шчыра любіць народ гэтую сваю святую.

## Культ св. Еўфрасінні

### ПРЫЗНАННЕ СВЯТАСЦІ

Жыццё і дзейнасць першае ігуменні манастыра св. Спаса ў Полацку Еўфрасінні-Прадславы для ўсіх, хто толькі яе ведаў, былі настолькі цнатлівыя, чыстыя і богабаязныя, што адразу пасля яе смерці ўсе палачане прызналі яе святою і пачалі святкаваць ейную памяць 23 травеня.

Кананізацыя святых ва ўсёй усходняй Царкве, а тым самым і ў нас да XIV веку не мела тых фармальнасцяў, якімі яна азначаецца цяпер; гэтая справа належала да мясцовага епіскапа і праводзілася вельмі проста. Лепш кажучы, гэта было прызнанне агульнае думкі святароў і вернікаў, калі яны пачыналі некага ўважаць за святога, паколькі гэта гадзілася з духам Царквы.

Адносна Еўфрасінні, дык думка аб яе святасці была ўсюды адназгодная, як гэта выразна відаць з жыццяпісу, дзе дослоўна кажацца, што палачане, даведаўшыся аб яе смерці, «многа плакавшэ, воспрыяша совершаці памяць ея». Ад таго дзень яе памяці 23 травеня стаецца днём радасці. Ужо першы жыццяпісец складае на чэсць св. Еўфрасінні цудоўны гімн, якім канчае свой жыццяпіс:

«Якою моваю, браты, годзіцца нам пахваліць светазарную памяць прэпадобнае нявесты Хрыста — Еўфрасінні?! Яна ж была памоцніца пакрыўджаным, сумуючым — пацеха, нагім — адзявальніца, хворым — адведвальніца; проста кажучы, усім усё была. Сэрца ж сваё Еўфрасіння паіла боскаю мудрасцю. Еўфрасіння — кветка, што не вяне, з райскага саду; Еўфрасіння — небаўзлётны арол, які пралятаў ад захаду да ўсходу, як сонечны прамень, які прасвяціў усю Полацкую зямлю. Дык хай, браты, хваліцца Солунь Дзімітрам, Вышгарад — мучанікамі Барысам і Глебам, а я ж хвалю: шчаслівы ты, горад Полацкі, узрасціўшы такую расціну, прэпадобную Еўфрасінню; шчаслівыя і людзі, якія жывуць у тым горадзе; шчаслівыя бацькі твае; шчаслівае лона, з якога выйшла прэпадобная спажа Еўфрасіння; шчаслівае нараджанне і шчаслівы ўзрост твой і подзвіг твой; шчаслівыя і манастыры твае; шчаслівыя людзі, якія жывуць у манастырах Усяміласцівага Спаса і Прачыстае Багародзіцы; шчаслівыя людзі, якія паслужылі прэпадобнай нявесце Хрыста — Бога нашага. Маліся, прэпадобная, аб грамадзе сваёй да Бога, бо Яму належаць усякая слава, чэсць і паклон...»

У гэтай пахвале аўтар жыццяпісу, відаць, сам палачанін, адлюстроўвае агульную думку сваіх суродзічаў, якія цешыліся, што нарэшце іхнія рэлігійна-нацыянальныя памкненні Бог дазволіў праявіць у светлай постаці св. Еўфрасінні.

Магчыма, што прызнанне святасці адбылося яшчэ за жыццём епіскапа Дыянісія (1167—1182). Думку гэту можа

пацвердзіць той факт, што ў тым часе быў напісаны першы жыццяпіс святое і хутка быў пашыраны не толькі па ўсёй Беларусі, але і шырока па-за межамі. Да нашых часоў і дайшлі якраз розныя небеларускія перарóбкі першапачатнага жыццяпісу.

У Ерусаліме, дзе памерла св. Еўфрасіння, такжа яе адразу пасля смерці ўважалі святою. Калі адзінаццаць гадоў пасля яе смерці, у 1178 г., манахі з Тэадозіевага манастыра пры набліжэнні туркаў уцякалі з Ерусаліма, дык як адзін з вялікіх скарбаў забралі з сабою мошчы св. Еўфрасінні і перавезлі іх у Кіеў. У расейскай праваслаўнай Царкве святасць Еўфрасінні афіцыяльна была прызнаная толькі ў 1547 г. на Маскоўскім саборы.

## КУЛЬТ СВ. ЕЎФРАСІННІ Ў ПРАВАСЛАЎНАЙ ЦАРКВЕ

Доўгі час св. Еўфрасіння лічылася мясцовай полацкай святою. Але таму, што Полацк у XII веку быў культурным цэнтрам усяе Беларусі, дык і культ св. Еўфрасінні з найдаўнейшых часоў быў пашыраны па ўсёй Беларусі як патронкі краю.

Відаць, што гэтая нацыяналізацыя святое Еўфрасінні прычынілася да таго, што доўгі час яе культ нават у блізкіх суседніх народаў быў амаль няведамы.

На Украіне, не зважаючы на тое, што мошчы св. Еўфрасінні знаходзіліся ў Кіеве аж да 1911 г., яе культ быў пашыраны вельмі мала. Яна ўспаміналася толькі ў агульным богаслужэнні 28 жніўня і на другой нядзелі Вялікага посту разам з святымі, мошчы якіх знаходзіліся ў Дальняй Тэадозіевай пячоры. У восьмай песні канона на чэсць гэтых пячорскіх угоднікаў, які ўлажыў Мялецій Сірыга, у трэцім трапары кажацца: «Еўфрасінію, радованіе Полацкае і дзевам сіяніе, Хрысце мой. Табе прывожу малітвенніцу, яе жэ радзі спасі мя». У дзень 23 травеня большасць літургічных кнігаў, выданых у Кіеве, найчасцей не ўспамінае св. Еўфрасінні. У XIX в. русіфікацыя Праваслаўнае Царквы на Украіне, падобна як і на Беларусі, была значна ўзмоцненая, а гэтым самым — і культ святых; вось жа і культ св. Еўфрасінні быў узяты ў рамкі расейскае імперыялістычнае палітыкі.

У Расеі да XVI в. не было зусім ніякага культу св. Еўфрасінні. Выдатны расейскі царкоўны гісторык Галубінскі найвыразней аб гэтым кажа, што «для Маскоўскае Русі Еўфрасіння была, так бы сказаць, чужая». Толькі калі маскоўскія цары распачалі захопніцкія войны з Вялікім Беларускім (Літоўскім) княствам, тады на Маскоўскім саборы ў 1574 г. жыццяпіс св. Еўфрасінні быў упісаны ў Чэцці-Мінеі на дзень 23 травеня. Дзіўна, аднак, што ў «Степенной Книге» дата смерці святое, а тым самым і дата яе памяці, азначалася на 24 травеня, а ў зборніку Троіцкае Лаўры — на 25 травеня. Гэта можа сведчыць толькі аб тым, што ў Расеі св. Еўфрасіння была ўпісана ў літургічныя кнігі больш дзеля прапаганды, чым для культу. І сапраўды, у святцах дваццаці служэбнікаў маскоўскага выдання з XVII в. св. Еўфрасіння не спатыкаецца. Толькі ад XVIII в. у некаторых большых служэбніках маскоўскага выдання пачынаюць друкаваць 23 травеня пасля прэп. Міхаіла Сінадскага і знайдзення мошчаў Леонція Растоўскага, таксама «прэп. Еўфрасінню».

Асобная служба ў гонар св. Еўфрасінні расейскага ўкладу была зацверджана толькі ў 1893 г.: акафіст толькі ў 1900 г. напісаны ераманахам Нікадзімам. Такое позняе пашырэнне культу св. Еўфрасінні ў расейскай праваслаўнай Царкве тлумачыцца тым, што святая была ў вялікай пашане ў беларускай уніяцкай Царкве, таму нават пасля скасавання уніі , пакуль яшчэ ў народзе былі жывыя уніяцкія традыцыі, расейскія ўлады былі ацярожныя з культам св. Еўфрасінні.

Варты ўвагі такі дробны факт, што абраз св. Еўфрасінні, намаляваны ў 1839 г. беларускім мастаком Токаравым, родам з Бешанковіч, дзесьці так «загінуў», што і следу па ім знайсці нельга. Абраз прадстаўляў святую ўва ўвесь рост. У левай руцэ яна трымала крыж, а правай паказвала на азнакі княжай улады: карону і мантыю. Абраз быў прызначаны для Полацкай Сафіі.

## КУЛЬТ СВ. ЕЎФРАСІННІ Ў КАТАЛІЦКАЙ ЦАРКВЕ

Магчыма, што ў некаторых праваслаўных вырыне пытанне: якім чынам св. Еўфрасіння магла трапіць у лік каталіцкіх святых? Зусім проста. Паводле аднагоднага сведчання ўсіх

каталіцкіх гісторыкаў, Беларусь да XIII в. была ў лучнасці з Рымам, таму не толькі св. Еўфрасіння, але ўсе нашы святыя з XII в. і пачатку XIII в., якія ўважаліся крыху большымі за мясцовых святых, прызнаны такжа каталіцкімі святымі. У Рымскім Мартыралегіёне іхніх імёнаў не ўспамінаецца, падобна як не ўспамінаецца шматлікіх усходніх святых нават з першых вякоў, бо даўней на Захадзе, як і на Усходзе, святцы запаўняліся перадусім сваімі святымі, а з суседніх цэркваў упісваліся толькі больш ведáмыя святыя. Толькі калі кананізацыю святых пачалі праводзіць паводле спецыяльных прыпісаў, тады ўсіх кананізаваных святых пачалі ўпісваць у Рымскі Мартыралегіён.

Калісь у часопісе «Крывічанін» (№ 1 за 1918 г.) была надрукавана дробная зацемка, што быццам св. Еўфрасіння мела быць урачыста кананізаваная папаю Рыгорам X на другім Ліёнскім саборы ў 1274 г. Цяжка сказаць, адкуль аўтар тае зацемкі ўзяў гэты факт, бо вестак з другога Ліёнскага сабора захавалася вельмі мала.

На саборы быў кананізаваны архіепіскап Эдмунд Кантуарыйскі; аб Еўфрасінні не ўспамінаецца ні слова. Магчыма, што аўтар зацемкі проста пераблытаў св. Еўфрасінню Полацкую з яе пазнейшаю наступніцаю ў манастыры св. Спаса св. Параскеваю Полацкаю, якую, праўдападобна, меў кананізаваць папа Рыгор X у 1273 г. Канчаткова гэтую справу можна было б выясніць у ватыканскіх архівах. Спробы ў гэтым кірунку рабіліся, але да ніякіх пажаданых вынікаў не давялі, бо ватыканскія архівы з XIII веку некамплектныя.

Аднак факт застаецца фактам, што св. Еўфрасіння, паводле векавое традыцыі, прызнаная святою ў Каталіцкай Царкве, і ў сучасных літургічных рымскіх выданнях для Усходняе Каталіцкае Царквы яна ўпісана на сваім месцы.

Варта, аднак, зацеміць, што ўкраінскія грэка-каталіцкія літургічныя кнігі не ўспамінаюць св. Еўфрасінні, падобна як і іншых беларускіх святых з XII веку, бо яны для Украіны рахаваліся чужымі. Толькі апошнімі гадамі ў некаторых папулярных выданнях жыццяў святых, напр., «Садочек українских святих», знаходзіцца жыццяпіс св. Еўфрасінні, аднак таму, што гэтая папулярызацыя не годзіцца ані з літургічнымі кнігамі іхняга выдання, ані з іхнімі гістарычнымі традыцыямі, дык такія спробы расцэньваюцца толькі як

«жаданне ўваскрасіць замёршую памяць», бо самае прызнанне святасці Еўфрасінні было ў Грэка-каталіцкай Царкве з найдаўнейшых часоў.

## Рэлігійныя адносіны на Беларусі ў XII веку

Прызнанне святасці прападобнае Еўфрасінні Полацкае ды іншых беларускіх святых з XII в. як у Праваслаўнай, так і ў Каталіцкай Царкве мае для нас аграмаднае значэнне. Гэта з'яўляецца выявам духу аднаго з важных стагоддзяў нашае гісторыі.

Аднак гэты факт вымагае некаторых выясненняў, бо падзел Цэркваў праз доўгія вякі стварыў у народных масах пагляд, які атаясамлівае лацінскі абрад з каталіцтвам, а ўсходні — з праваслаўем. Дзеля гэтага прызнанне беларускіх святых усходняга абраду ў Каталіцкай Царкве для некаторых можа быць незразумелым. Але затое стане ясным, калі прыпомнім, што сёння ў Каталіцкай Царкве, акрамя лацінскага абраду, ёсць аж 14 розных усходніх абрадаў з некалькімі мільёнамі вернікаў. Трэба толькі перанесціся думкаю ў часы да падзелу Цэркваў, каб пераканацца, што і раней не было іначай. Першымі славянскімі апосталамі агульна ўважаюцца святыя браты Кірыл і Мяфод, якія хоць і прыйшлі з Візантыі і пашыралі хрысціянства ўсходняга абраду, але залежалі ад Рыма, і св. Мяфод нават атрымаў біскупскае свячанне з рук папы Іаана VIII. Вучні гэтых святых братоў разышліся потым з Маравіі па ўсіх суседніх славянскіх краінах. Пад уплывам іхняе пропаведзі адбывалася афіцыйнае прыняцце хрысціянства. Усходнія славяне, значыць, і беларусы, прынялі хрысціянства ў X веку — перад падзелам Цэркваў, які стаўся ў 1054 г. Як глядзелі на гэты падзел беларускія князі? Яны добра ведалі ганарлівасць візантыйскіх імператараў і гэтак жа добра ведалі аб розных непаразуменнях Візантыі з Рымам, таму і падзел Цэркваў уважалі за хатняе непаразуменне між візантыйскім і рымскім валадарамі, якое ўжо здаралася не раз раней.

Дзеля гэтага хрысціянства на Беларусі пашыралася пасля падзелу Цэркваў так, як і раней. На богаслужэннях і

далей успаміналіся і папа рымскі, і патрыярх візантыйскі. І далей распаўсюджваліся жыццяпісы рымскіх святых, асабліва жыццё Аляксея, чалавека Божага. У суседнім Ноўгарадзе залічаецца ў лік святых Антоній Рымлянін (1147), які прыйшоў з Рыма ў 1106 г.

Тагачасныя народныя масы не бачылі ніякае істотнае розніцы між усходнім і заходнім хрысціянствам. Ноўгарадскі святар Кірык у сваіх «Запытаннях» з XII в. найвыразней кажа, што тамтэйшыя жанчыны носяць сваіх дзяцей да хросту без розніцы ці да сваіх, ці да варажскіх (лацінскіх) святароў. Няма сумніву, што ў нас не было інакш. У нас выразна архірэяў называлі біскупамі, як гэта бачна з напісу на крыжы св. Еўфрасінні. Да таго, як сведчыць расейскі даследнік жыціяў святых Г. Фядотаў, пашану да святых князёў Русь пераняла з Захаду, «нават рымска-нямецкага Захаду, з ягоным культам святых каралёў і феадальных рыцараў. І гэта было адною з шматлікіх з'яваў, якія паказваюць на духовую блізіню старое Русі з Захадам». Варта падчыркнуць, што так кажа праваслаўны гісторык.

На доказ праўдзівасці гэтага сцверджання можна прывесці шмат фактаў.

Акрамя вышэй пералічаных, можна ўспомніць такія агульна ведамыя факты, як: прыняцце свята перанясення мошчаў св. Міколы (9.V), устаноўленага ў 1089 г. папаю Урбанам II; выбар у 1147 г. на мітрапаліта ўсяе Русі Кліма Смаляціча без згоды візантыйскага патрыярха і багаслаўленне гэтага мітрапаліта мошчамі св. Клімента-папы. Праф. Паўлаў у «Византійским Временнику» з 1879 г. падае цікавы апіс аднаго «Номоканона» з XII в., дзе пасля 28 канона Халкідонскага сабора славянскі перапісчык заўважае, што гэты канон не быў прызнаны блажэнным папаю Львом I і таму не мае сілы, а далей даказвае пяршынства рымскага архірэя.

Калі гэтыя факты аб прыязных адносінах да рыма-каталіцызму ў XII в. супольныя для ўсіх усходніх славянаў, дык Беларусь з гэтага гледзішча асабліва вырозніваласяся. Летапісы ўсіх тагачасных полацкіх князёў называюць «заходнікамі». Калі да полацкага князя Уладзіміра ў 1186 г. з'явіўся нямецкі місіянер Майнгард, каб атрымаць дазвол на місійную працу між ліваў, якія тады былі ў залежнасці ад Полацка, дык не толькі атрымаў гэты дазвол, але яшчэ

быў шчодра ўзнагароджаны рознымі дарункамі, аб чым не забыўся ўспомніць у сваёй хроніцы Генрык Латышскі. На жаль, брэменскія купцы, якія йшлі следам за Майнгардам, пачалі прыгнятаць наверненых ліваў і выклікалі незадавальненне і бунт, для здушання якога прыехалі крыжакі, а з імі прыехала няшчасце на доўгія стагоддзі. Наследкі гэтага няшчасця не выдыхаліся і да сённяшняга дня. Аднак гэтыя пагубныя ўплывы, якія спрычыніліся да вытварэння варожасці да Захаду, запачаткаваліся ў XIII в., а мы вяртаемся яшчэ да XII в., з якога маем найбольшы лік беларускіх святых.

У тым часе прыязныя адносіны полацкіх князёў да каталіцкага Захаду былі чымсьці самазразумелым: нават у візантыйскім імператарскім двары тады часта пераважваў заходніцкі курс. Большасць візантыйскіх імператараў XII в. часта ўзнаўлялі перагаворы з Рымам аб паеднанні. Нашы князі аб гэтым добра ведалі, бо нейкі час самі былі ў Візантыі. З гэтага гледзішча асабліва вызначаўся Мануіл Комнін (1143—1180), які вёў ажыўленыя перагаворы з папаю Аляксандрам III аб паеднанні. Асабліва ў гадах 1166—1167 (якраз пад час паломніцтва св. Еўфрасінні ў Ерусалім) было напісана шмат лістоў у справе ажыццяўлення паеднання Цэркваў, якое мела стацца ў 1167 г. Пры гэтай нагодзе папа меў надаць Мануілу тытул рымскага імператара і каранаваць яго. Тагачасны візантыйскі патрыярх Лука Хрызоверг (1156—1169) такжа не быў супраць пагаднення. Але розныя праекты супольных крыжовых паходаў і супольных войнаў крыжавалі гэтую справу і адкладалі яе з дня на дзень, а тым самым і абцяжвалі яе да немагчымасці ажыццяўлення. Аднак самыя старанні мелі жывое рэха і на Беларусі праз перапіску св. Еўфрасінні з імператарам і патрыярхам.

Ці можа пасля гэтага быць дзіўным, што ў гэткіх абставінах у жыццяпісах беларускіх святых з XII в. няма найменшае азнакі непрыхільнасці да Рыма? Наадварот, ёсць недвузначныя сляды прыхільнасці і пашаны.

Аб настроях і думках св. Еўфрасінні ўжо гаварылася не раз — гэтыя настроі мусілі быць такія, якія бачым у полацкіх князёў, бо яна была іхняю дараднiцаю. А настроі гэтыя былі такія, што падыктавалі летапісцам назваць полацкіх князёў заходнікамі.

Аб думках св. Кірыла Тураўскага сведчаць ягоныя казанні, між якімі ёсць адно аб св. Кліменце, папе рымскім, вельмі прыхільнае да каталіцызму. Такім жа мусіў быць і св. Лаўрын — жыццяпісец св. Кірыла.

Св. Аўрам Смаленскі памёр на пачатку XIII в., але ён вырас з атмасферы XII в., і таму яго можна залічыць да супольнае групы. Ён штодзень правіў службу Божую паводле заходняга звычаю і вельмі вызначаўся культам да святое Эўхарыстыі. Св. Ігнат, субяседнік св. Аўрама, напэўна, ішоў слядамі свайго вялікага субяседніка.

Варта зазначыць, што на абшары Беларусі ў XII в. не было ніякае літаратуры, варожае да заходняга хрысціянства, відаць, дзеля таго, што не было да гэтага адпаведнага грунту. Гэтая адсутнасць палемічнае літаратуры ў тым часе, калі ў суседняй Украіне грэцкія мітрапаліты выступалі ўжо некалькі разоў супраць «латынян», не было выпадковым з'явішчам. Не памылімся, калі скажам, што рэлігійны супакой ёсць істотная беларуская азнака духу гэтае эпохі. Варта толькі прыпомніць зацемку з жыццяпісу св. Еўфрасінні, як яна не шкадавала старанняў, каб гадзіць пасвараных князёў, баяраў і купцоў, каб у гэтай годчай дзейнасці беларускае святое ўбачыць выяў яе ўнутранага настрою. Гэткім жа годчым духам быў прасякнуты і св. Кірыл Тураўскі — верны вучань св. Іаана Залатавуста.

У гэтым супакою беларуская царква перажывала адну з найпрыгажэйшых старонак свае гісторыі, і таму гэты век заслугоўвае асаблівай увагі ўсіх даследнікаў беларускага рэлігійнага жыцця.

## Патронка Беларусі

Даўней не толькі кожная краіна, але нават кожны горад, кожная арганізацыя, а рыцары, дык кожны асобна, мелі сваіх нябесных апекуноў-патронаў. Гэты пабожны звычай яшчэ ў сіле і сёння, хоць і не ў такой ступені, як калісь. Сёння кожная хрысціянская краіна мае аднаго або некалькі святых, якіх уважае за сваіх нябесных заступнікаў перад абліччам Усявышняга. Асабліва ў тых цяжкіх момантах, калі краіна адчувае, што яе дачасныя сілы і дачасныя апе-

куны з'яўляюцца недастатковымі, народ звяртаецца да сваіх нябесных апекуноў з мольбамі аб помачы.

Паводле гэтага агульнага звычаю, і Беларусь з даўныхдавён мела некалькі сваіх нябесных святых апекуноў-патронаў: святую Еўфрасінню-Прадславу Полацкую, святую Параскеву Полацкую і святога Казімера. З бегам часу культ св. Казімера на Беларусі пашырыўся толькі між рыма-каталіцкім насельніцтвам, набіраючы асаблівага характару ў Віленшчыне і Лідчыне. Аднак і там свята Казюка сталася больш кірмашовым днём.

Культ св. Параскевы быў калісь вельмі пашыраны па ўсёй Беларусі: з дазволу духоўнае ўлады яе ўсюды лічылі патронкаю краю. Аднак таму, што дзень яе памяці святкаваўся таго самага дня, што і св. Параскевы, званае Пятніцаю (яна была замучаная ў 290 г. у Іконіі пад час праследавання Дыяклецыяна), пасля скасавання уніі расейскія ўлады лёгка змаглі перанесці культ св. Параскевы Полацкае на асобу св. Параскевы Пятніцы, культ якое і сёння вельмі пашыраны на Беларусі, а св. Параскева Полацкая мала дзе ўспамінаецца.

Культ св. Еўфрасінні, як аб гэтым гаварылася раней, таксама не заўсёды быў на аднолькавым узроўні. Што, аднак, для нас важна, дык гэта тое, што яна з найдаўнейшых дзён і аж да сёння заўсёды лічылася галоўнаю патронкаю Беларусі, як аб гэтым успамінае а. Іван Мартынаў у сваім творы (пісаным на лаціне) «Царкоўны грэка-славянскі год» на с. 138.

Нельга дакладна азначыць дату, калі беларусы пачалі ўважаць св. Еўфрасінню патронкай краю, але можна дагадвацца, што гэта сталася ад самага пачатку яе культу на Беларусі. Выбіраючыся ў Ерусалім, св. Еўфрасіння пацяшала сваіх суродзічаў, што не пакідае іх, але ідзе маліцца за іх. Гэтыя развітальныя словы глыбока запалі ў душы палачан. Жывой св. Еўфрасіння з Ерусаліма не вярнулася; нават яе мошчы доўгія стагоддзі заставаліся на чужыне — таму ўвайшла ў сілу і ў векавую традыцыю яе абяцанка: маліцца за родны край. Сама святая ўзяла на сябе гэткі абавязак. Хораша кажа аб гэтым Н. Зорын у сваім творы «Минувшее и настоящее г. Полоцка»: «Нябесная апякунка беларускага краю св. княжна Еўфрасіння, паводле слоў паэта,

Шматпакутны вобраз айчыны далёкай
Захоўвае вечна ў мроях глыбока».

Пасля ўпадку беларускае дзяржаўнасці ўсе акупацыйныя ўлады, якія па чарзе змяняліся на Беларусі, сваёю рэлігійнаю палітыкаю паважна прычыніліся да заняпаду рэлігійнага жыцця. Гэта ў сваю чаргу адбілася вельмі некарысна на кульце святых роднага краю; некаторыя зусім пайшлі ў няпамяць, іншыя ўспаміналіся толькі ў некаторых ваколіцах. Калі ж настаў час беларускага адраджэння, дык адраджэнскі рух хутка пашырыўся такжа на беларускай рэлігійнай ніве. З гэтага часу датуецца сціплая, але вельмі важная зацемка ў часопісе «Крывічанін» (№ 1 за 1918 г., с. 16), якая быццам аднаўляла старыя традыцыі, кажучы: «Не ўсім ведама, што патронкай Беларусі з'яўляецца св. Еўфрасіння-Прадслава, княжна Полацкая, ігумення манастыра св. Спаса...» Пасля 32 гадоў, калі быў напісаны гэты сказ, шмат змянілася ў беларускім грамадскім і рэлігійным жыцці. І змянілася ў тым кірунку, што цяпер на чэсць св. Еўфрасінні як патронкі Беларусі будуюцца беларускія святыні нават на эміграцыі, яе святы абраз штораз часцей красуецца на беларускіх нацыянальных сцягах, імя яе вымаўляецца з пабожнай пашанай, а яе асоба ззяе як прыклад хрысціянскага жыцця.

Для закранутае тут тэмы варта зацеміць, што ў канцы XIX в. і асабліва між першаю і другою сусветнымі войнамі ў Заходняй Беларусі польскія ўлады рабілі шмат старанняў, каб пашырыць культ св. Андрэя Баболі як патрона Беларусі. Відаць, з гэтаю мэтаю перанеслі святкаванне ягонае памяці на 23 травеня — актаву ягонае смерці (16.V), аб чым зазначана ў кананізацыйным дэкрэце. Аднак таму, што гэтыя старанні найчасцей праводзіліся такім чынам, быццам асобаю святога мучаніка меліся асвяціць паланізацыйны наступ на Беларусь,— вынік іх быў зусім адваротны да таго, як сабе намецілі нашы суседзі. На Беларусі св. Андрэй Баболя ўважаўся патронам Польшчы. У беларускіх рыма-каталіцкіх календарыумах ягоная памяць успамінаецца 16 травеня без ніякіх азначэнняў.

Гэткім чынам, сёння астаецца адзіная св. Еўфрасіння-Прадслава як нябесная патронка Беларусі. Для народа гэты факт тым больш важны, што яна прызнаная святою і ў Каталіцкай, і Праваслаўнай Царкве. Да таго яе постаць

настолькі велічная і крыштальна чыстая, што нават бязбожнікі, вышукваючы розныя закіды супраць усходнеславянскіх святых у кнізе Паазерскага «Русские святые перед судом истории», не знайшлі ў асобе св. Еўфрасінні ніякае прыдзіркі ці плямы.

Калісь Ф. Багушэвіч, паясняючы назоў нашага краю, гаварыў, што Беларусь у сваёй гісторыі бездакорна чыстая. Такая ж і наша нябесная патронка.

# Мошчы св. Еўфрасінні

## ПЕРАНЯСЕННЕ З ЕРУСАЛІМА

Не менш цікавая за жыццё св. Еўфрасінні гісторыя яе святых мошчаў.

Хутка пасля смерці св. Еўфрасінні для Ерусаліма насталі неспакойныя часы. Туркі пачалі пагражаць Святой Зямлі. Шматлікія манахі, якія тады знаходзіліся ў Ерусаліме, перад турэцкаю небяспекаю стараліся загадзя пакінуць святое месца. Незадоўга перад гэтым замяшаннем мошчы св. Еўфрасінні на нейкі час былі перанесены з Тэадозіевага манастыра ў манастыр айцоў кармелітаў. Аб гэтым факце знаходзіцца кароткая зацемка ў Папэброхія. Кармеліты прынялі полацкую святую за св. Еўфрасінню Александрыйскую, дачку Пафнуція, і ўпісалі яе ў свае літургічныя кнігі.

Нядоўга аставаліся святыя мошчы прападобнае ў айцоў кармелітаў, бо ўжо ў 1187 г. турэцкі султан Саладзін займае Ерусалім. Магаметанская ўлада варожа адносілася да хрысціянства, але напачатку хрысціянам было дазволена спакойна выязджаць з Палесціны і забіраць з сабою свае святасці. З гэтага скарысталі ўсходнеславянскія манахі і выехалі з Ерусаліма, забіраючы, як вялікі скарб, нятленныя рэшткі св. Еўфрасінні.

Як і калі перабралі яны мошчы ад айцоў кармелітаў, ніякіх вестак няма.

Манахі мелі намер перанесці мошчы проста ў Полацк, як аб гэтым сведчыць народны пераказ. У гэтым падарожжы яны мелі ўжо даехаць аж да Турава, але тагачасныя варожыя адносіны між кіеўскімі і полацкімі князямі пераш-

кодзілі далейшаму падарожжу. Манахі вярнуліся ў Кіеў і палажылі святыя мошчы ў Дальніх Пячорах Кіеўскага Пячэрскага манастыра пры царкве Дабравешчання. Там святыя мошчы спачывалі доўгія вякі ў сярэбранай дамавіне. Крышка дамавіны была адчыненая і прымацаваная к сцяне, а мошцы закрытыя пакрывалам. У галавах знаходзіўся абраз святое, і перад ім заўсёды гарэла лампадка.

Можна дагадвацца, што манахі, едучы з Ерусаліма, адразу затрымаліся ў Кіеве і далей не спрабавалі ісці, бо ў тым часе, калі адбывалася гэтае падарожжа, гэта значыць пасля 1187 г., на Украіне і ў паўдзённай Беларусі былі вельмі неспакойныя часы. Нядаўна перад тым у 1185 г. полаўцы разбілі злучаныя дружыны северскіх князёў на чале з Ігарам Святаславічам; гэтую сумную падзею ўславіў аўтар несмяротнае паэмы «Слова аб палку Ігаравым». Пасля гэтага полаўцы доўга непакоілі Украіну і паўдзённую Беларусь. У Полацку ў тым часе княжыў Уладзімір Валадаравіч (1180—1217), княжанне яго было параўнаўча спакойным, таму, калі б манахі маглі дайсці да Турава, напэўна дайшлі б і да Полацка. Аднак факт астаецца фактам, што мошчы асталіся ў Кіеве.

Некаторыя выдатныя царкоўныя гісторыкі ўжо даўно звярнулі ўвагу, што нават у найдакладнейшых апісаннях Кіева-Пячэрскае лаўры нічога не кажацца аб тым, якім чынам і калі былі перанесены туды мошчы св. Еўфрасінні. Гэта, магчыма, выясняецца тым, што мошчы былі там змешчаны толькі да часу і толькі пераходам, як гэта выходзіць з успомненага вышэй пераказу.

## СТАРАННІ ПЕРАНЯСЕННЯ Ў ПОЛАЦК

Доўга аставаліся нятленныя мошчы св. Еўфрасінні ў Кіеве. На гэта зложылася шмат гістарычных прычын.

Дробныя войны ўдзельных князёў XII в. у XIII в. замяніла татарская небяспека. Беларусі татары не занялі, але часам заходзілі даволі глыбока на беларускія абшары. У страху перад татарамі каля 1234 г. манастыр св. Спаса апусцеў. Тагачасная ігумення св. Параскева Полацкая пераехала аж у Рым і там памерла ў 1239 г. ды залічана папаю Рыгорам X у лік святых.

Манастыр доўга пуставаў, таму аб пераносе не магло

быць і гутаркі. Потым, калі зноў з'явіліся манашкі ў манастыры св. Спаса, Беларусь перажывала рэлігійны заняпад, а да гэтага ад XVI в. далучаюцца амаль бесперарыўныя войны з Маскоўшчынаю. У 1563 г. Полацк займае Іван Грозны; усё багацце з манастыра св. Спаса, як і агулам з Беларусі, вывозіцца ў Маскву; манастыр пусцее зноў.

У 1580 г. Сцяпан Батура выганяе расейскія войскі з Полацка[8], але манастыр св. Спаса ў Сяльцы з усёю маёмасцю аддае езуітам.

У XVIII в. беларускія уніяцкія мітрапаліты не раз стараліся ўзнавіць манастыр св. Спаса, але іхняе палажэнне пагоршвалася з дня на дзень, і таму яны не змаглі ажыццявіць сваіх намераў.

У 1821 г. расейская ўлада выганяе езуітаў з межаў свае імперыі[9]; царкву св. Спаса разам з манастырскімі маёмасцямі перадаюць у рукі піяраў, але ўсяго на некалькі год, бо ўжо ў 1832 г. манастыр з усёю маёмасцю перадаецца кадэцкаму корпусу, а царква св. Спаса замяняецца на праваслаўную і 7.VIII.1833 г. перасвячаецца. У 1835 г. пераносіцца ў Полацк праваслаўная епархія, якая пераймае ад кадэцкага корпуса манастырскую маёмасць, а ў 1840 г. у Сяльцы адчыняецца праваслаўны жаночы манастыр.

Ад гэтага часу палажэнне манастыра св. Спаса быццам усталявалася, аднак доўгі час не было гутаркі аб пераносе мошчаў у манастыр св. Еўфрасінні. Калі потым распачаліся такія старанні, расейскія ўлады катэгарычна гэтаму супрацівіліся. Толькі ў 1870 г. (28.XI) у адказ на старанні полацкага праваслаўнага епіскапа Савы і з дазволу Свяцейшага Сінода кіеўскі мітрапаліт Арсеній пераслаў у Полацк сярэдні палец правае рукі св. Еўфрасінні. Гэтая частка мошчаў 23.V.1871 г. была змешчана у Прэабражэнскай царкве Спаскага манастыра ў Сяльцы.

Супраць пераносу ўсіх мошчаў св. Еўфрасінні яшчэ ў 1909 г. падымаліся шматлікія ўрадавыя расейскія галасы пераважна такога зместу: «Каталікі, як ведама з гісторыі, схільны прызнаць прэп. Еўфрасінню святою свае царквы. Таму можна нават баяцца, каб планаваным пераносам мошчаў прэп. Еўфрасінні з Кіева ў Полацк не спрычынена было вялікіх непрыемнасцей і шкодаў для праваславія» (Титов. «Труды Кіевской Дух. Акад.», т. IV, 1910 г., с. 544).

## ПЕРАНЯСЕННЕ МОШЧАЎ У ПОЛАЦК

Не зважаючы на розныя перашкоды рэлігійнага і палітычнага характару з боку расейкіх уладаў, Беларусь не магла забыцца аб мошчах свае патронкі, і пры кожнай нагодзе як з Полацка, так і з іншых мест Беларусі ішлі просьбы да духоўных уладаў аб пераносе мошчаў св. Еўфрасінні з Кіева ў Полацк.

Гэтыя просьбы вельмі ажывіліся і памножыліся пасля таго, як на Кіеўскім місійным з'ездзе, у якім удзельнічала 30 праваслаўных ерархаў і каля 300 святароў, была падтрымана думка аб пераносе мошчаў св. Еўфрасінні ў Полацк. Тады па ўсёй Беларусі на з'ездах і духавенства, і вернікі рабілі пастановы і пасылалі просьбы ў Свяцейшы Сінод аб перанясенні мошчаў св. Еўфрасінні. Тагачасны полацкі епіскап Серафім такжа далучыўся да агульнага голасу.

Свяцейшы Сінод у канцы не меў іншага выхаду, як прадставіць цару ўсе гэтыя просьбы, і гэтым разам цар згадзіўся даць дазвол на перанос. Уласціва, няма чаго дзівіцца такой асцярожнасці расейскіх уладаў адносна асобы св. Еўфрасінні. Яны ж дакладна разумелі, што маюць дачыненне з «нябеснаю апякункаю Беларусі», як гэта часам зазначалася ў тагачаснай расейскай прэсе, хоць афіцыяльна гэтая ж прэса мусіла ўнікаць слова «Беларусь» і магла гаварыць толькі аб «Полацкім краю».

Адначасна з дазволам на перанос мошчаў была распачатая прапаганда, каб гэтая ўрачыстасць сталася «ўмацаваннем праваславія ў Полацкім краю і важным дзейнікам у барацьбе праваславія з каталіцтвам» (Титов, усп. твор, с. 453).

Праграма і план урачыстасцяў былі распрацаваны напярод з найбольшаю магчымаю дакладнасцю. Урачыстасці пераносу мошчаў мелі працягвацца ад 10 красавіка да 22 травеня 1910 г.

Дзеля перавозу мошчаў св. Еўфрасінні былі прызначаны два дзяржаўныя караблі: «Головачев» і «Киев», першы для саміх мошчаў, а другі для суправаджаючых асобаў.

Паводле намечанае праграмы і плану, адбываліся ўрачыстасці пераносу сапраўды з нечуванаю веліччу. Тагачасная прэса падавала дакладныя апісанні гэтых урачыстасцяў, і вялікая шкода, што размеры гэтае працы не дазваляюць

змясціць тых апісанняў. Коратка можна сказаць, што нятленныя рэшткі св. Еўфрасінні былі вынесены з Кіева, суправаджаныя найбольшымі рэлігійнымі ўрачыстасцямі, якія агулам былі магчымыя. Па дарозе з Дальніх Пячораў да Дняпра абапал дарогі былі пастаўлены вайсковыя шыхты. Тагачасная расейская ўлада і Царква аддавалі св. Еўфрасінні сапраўды царскія почасці. Відаць, Божы правід паказаў, што святая полацкая княжна і сціплая ігуменння Спаскага манастыра як нябесная патронка Беларусі годная гэтых почасцяў.

Па Дняпры караблі з мошчамі св. Еўфрасінні праплылі 695 вёрст, затрымоўваючыся па дарозе ў гарадах: Рэчыцы, Рагачове, Старым Быхаве, Магілёве і Оршы. Далей, аж да Полацка, перавозілі мошчы сухапуццем, а да манастыра св. Спаса зноў у караблі па рацэ Палаце.

Усё падарожжа суправаджалася богаслужэннямі пад час затрымак. Увесь шлях, дзе правозілі мошчы, абступалі аграмадныя натоўпы вернікаў. Варта ўвагі, што ў гэтых урачыстасцях удзельнічалі вялікія расейскія князі і княгіні, між імі была нават родная сястра царыцы, а вялікі князь Канстанцін рэпрэзэнтаваў самога цара — гэты факт кажа сам за сябе, якое вялікае значэнне прыпісвалі расейскія ўлады пераносу мошчаў св. Еўфрасінні.

Так, пасля 743-гадовае разлукі, у дзень яе свята 23 травеня 1910 года, манастыр св. Спаса ўжо ў зусім адменных умовах, як калісь, вітаў нятленныя рэшткі свае першае ігуменні. З урачыстымі богаслужэннямі пры аграмадным напłыве вернікаў з далёкіх куткоў Беларусі і з удзелам шматлікага духавенства і прадстаўнікоў царскага расейскага ўрада мошчы св. Еўфрасінні былі пастаўлены ў царкве св. Спаса ў вялікай дамавіне між калонамі раўналегла да іканастаса.

## ДАЛЕЙШАЯ ДОЛЯ МОШЧАЎ СВ. ЕЎФРАСІННІ

* * *

Нядоўга заставаліся ў супакою нятленныя мошчы св. Еўфрасінні ў Спаскай царкве. Відаць, што святая мусіла падзяліць цярпенні роднага краю.

Хутка пасля выбуху кастрычніцкае рэвалюцыі бязбожная рука пачала ганьбіць святыя месцы і агулам усё святое. І вось 7 ліпеня 1922 г. у «Витебских известиях» № 127

з'явіўся артыкул: «Полацкія курсанты аб мошчах св.Еўфрасінні». Артыкул пачынаўся: «Мы, курсанты, чырвонаармейцы і камандны склад кадраў...» (Цытую паводле «Пшэглёнду Повшэхнэго», 1927 г., с. 74). Далей у артыкуле гаварылася, што яны аглядалі мошчы св. Еўфрасінні і што ў дамавіне знайшлі толькі струхлелыя косці. Што з гэтымі «касцямі» зроблена, у артыкуле не гаворыцца. Потым у прынагодных гутарках з палачанамі можна было даведацца, што дамавіну св. Еўфрасінні разам з спрафанаванымі мошчамі перанеслі ў музей. Дзе яна сёння? У сучасных абставінах цяжка даведацца[10]. Аднак трэба спадзявацца, што, дзякуючы малітвам і заступніцтву св. Еўфрасінні, хутка прыйдзе час, калі праўда выйдзе на дзённае святло.

## Цуды св. Еўфрасінні

Хоць і неабавязкова, але вельмі часта святасць людзей выяўляецца навонках надзвычайнымі ўчынкамі, якія перавышаюць прыродныя людскія магчымасці і называюцца цудамі. У сучаснай царкоўнай практыцы для залічэння ў лік святых вымагаецца побач геройскіх цнотаў пад час жыцця святога яшчэ два цуды, учыненыя дзякуючы заступніцтву данага святога. Аднак нельга думаць, што цуды — гэта істотная азнака святасці. Ёсць аграмадная колькасць святых, напрыклад, мучанікаў з часоў першага хрысціянства, з імёнамі якіх не звязаны ніводзін цуд. Істотнаю азнакаю святасці чалавека ёсць геройская цнота ў дачасным жыцці, а цуды ўважаюцца Божым знакам для выяўлення гэтае цноты.

Святасць Еўфрасінні Полацкае выяўлялася перадусім у паважным ушляхотніваючым уплыве на асяроддзе, у якім жыла, і на агульнаграмадскае жыццё. Аднак і цудаў не пашкадаваў Бог, каб уславіць яе.

У жыццяпісе св. Еўфрасінні апавядаецца толькі пра два цудоўныя здарэнні; абодва звязаныя з будоваю царквы св. Спаса. Першае — гэта закліканне будаўнічага Івана, каб спяшаўся з будоваю царквы; другое — гэта цудоўнае памнажэнне цэглы для заканчэння царквы. Аб абодвух гэтых здарэннях ужо апавядалася раней у апісанні жыцця св. Еўфрасінні.

Звычайна найбольш цудадзейную сілу выяўляюць святыя пасля свае смерці, і вялікую ролю пры гэтым маюць мошчы. Відаць, дзеля таго, што цела св. Еўфрасінні знаходзілася далёка на чужыне і ў пашырэнні яе культу было шмат перашкодаў гістарычна-дзяржаўнага характару, дык яна не ўславілася цудамі па смерці. Яе ніколі не называлі цудатворцаю. Аднак, дзякуючы яе заступніцтву, цуды дзеяліся, толькі няма вестак, ці займаўся хто да гэтага часу рэгістрацыяй гэтых цудаў.

Карыстаючыся з выпадковых вестак, даведваемся, што адно такое цуда сталася пад час пераносу мошчаў святое з Кіева ў Полацк. Гэтае цуда было дакладна праследжана і навукова сцверджана. Весткі аб ім падае сябра Віцебскае навуковае камісіі Н. Кайгародаў і доктар мед. А. М. Мансветаў — абодва асабіста займаліся справаю цудоўнага выздараўлення чарніцы Н. (поўнага імені чамусьці не падаюць). Успомненая чарніца Н. Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра ў Сяльцы доўгі час хварэла на круглы верад страўніка, часта мела страўнікавыя крывацечы і ваніты з крывёю, дзеля гэтага была вельмі выснажаная і абяссіленая. Узімку 1910 г. яна заўсёды была ў ложку, ледзьве магла падымацца, аджыўлялася толькі вадкаю стравою, і ў канцы ўжо хвароба так даймала, што болі страўніка даводзілася сунімаць наркотыкамі. Агульны стан здароўя пагоршваўся з дня на дзень, і доктар А. Мансветаў не меў надзеі на яе аздараўленне. Вясною 1910 г., перад унясеннем мошчаў св. Еўфрасінні ў Полацк, лекар стараўся падбадзёрыць хворую і зрабіў ёй два ўколы сперніну праф. Пэля, але ад гэтага хворай не было ніякага паляпшэння, і 19 травеня яна ледзь-ледзь магла ўзняцца ў ложку, наракала на галавакружэнне, ацёк у нагах, на слабасць, болі, ваніты з крывёю і на пролежні.

Калі 22 травеня прынесены былі мошчы св. Еўфрасінні з Полацка ў Сялец і пастаўлены ва Уздзвіжанскай царкве, тады пасля ўсяночнае аграмадныя натоўпы вернікаў доўга па чарзе цалавалі мошчы святое. Хворая чарніца Н. такжа захацела ўшанаваць мошчы св. Еўфрасінні і прасіла, каб яе завялі ў царкву. Дзве сястры-чарніцы выканалі яе просьбу і пасля кароткае малітвы за хворую ўзнялі яе на памост, дзе знаходзіліся мошчы, і хворая прыхілілася да мошчаў і пацалавала руку св. Еўфрасінні. У гэткім палажэнні яна затрымалася колькі хвілін непарушна і сагнуўшыся. Раптам

хворая пачула ў сабе якуюсьці незвычайную сілу і бадзёрасць, сама ўзнялася і выпрасталася без усякае помачы сясцёр і сама сышла з памоста, на якім знаходзіліся мошчы, сама выйшла з царквы, славячы Бога і св. Еўфрасінню за цудоўнае аздараўленне ад доўгатрывалае хваробы.

Вестка аб гэтым хутка разнеслася па ўсёй ваколіцы. Доктар Мансветаў, даведаўшыся аб аздараўленні, наступнага дня (23 травеня) прыйшоў у манастыр, каб навочна пераканацца ў праўдзівасці здарэння. Калі ён уваходзіў у манастыр, яму на сустрэчу бегла ягоная ранейшая безнадзейна хворая пацыентка, чарніца Н.: ніякіх азнакаў хваробы ў яе ўжо не было. Доктар Мансветаў дадае, што гэная чарніца лячылася раней у іншых лекараў у Полацку і нават ездзіла ў Кіеў і аб яе безнадзейным стане могуць сведчыць усе гэтыя лекары разам з чарніцамі манастыра і некаторымі жыхарамі Полацка і Сяльца. Сам лекар шчыра перакананы, што ў «гэтым выпадку маюцца дачыненні з з'явішчам, якое пераходзіць межы людскога разумення».

Магчыма, што ў манастырскай хроніцы былі запісаны іншыя падобныя выпадкі, але сам манастыр сёння не існуе, і хроніка немаведама дзе.

Адносна вышэйапісанага цуда сябра Віцебскае навуковае камісіі Н. Кайгародаў заўважае: «Ледзь паспела св. і прападобная Еўфрасіння, Княжна Полацкая ў святых сваіх мошчах уступіць пад скляпенні свае абіцелі, як вачавідкі выявілася цудадзейная сіла яе святых мошчаў над адною з сёстраў манастыра, якая з вераю чакала яе павароту».

А ўвесь беларускі народ чакае ад свае патронкі большага цуду і верыць, што міласэрны Бог ажыццявіць гэтыя надзеі дзякуючы заступніцтву святое Еўфрасінні.

## ПРЫЧЫНКІ ДА БЕЛАРУСКАЕ МІФАЛОГІІ

Да гэтага часу пытанне дахрысціянскага веравання беларускіх плямёнаў распрацавана вельмі мала. Гэта тым больш дзіўна, што адносна дахрысціянскіх вераванняў славянаў наогул ёсць аграмадная літаратура*. На жаль, большая частка тых твораў нават і не ўспамінае аб беларусах. Следам за тымі аўтарамі некаторыя даследнікі беларускае прагісторыі, якія займаліся беларускай міфалогіяй, рабілі нямала памылак, і тым самым яны абавязваюць пазнейшых даследнікаў звярнуць належную ўвагу на той старадаўны перыяд нашае гісторыі і выявіць аб ім, прынамсі, тое, што магчыма ў сучасных абставінах. Дахрысціянская вера нашых продкаў мае аграмаднае значэнне для разумення духовага аблічча беларускага народа, калісь і для разумення шматлікіх абрадавых асаблівасцяў у пазнейшых часах, бо агульнавядома, што шматлікія дахрысціянскія абрады, якія не пярэчылі хрысціянскім праўдам веры, перайшлі ў хрысціянскую Царкву, быццам схрысціянізаваліся.

Крыніцаў для гэтых доследаў ёсць шмат, і прытым яны даволі багатыя: этнаграфічныя беларускія зборнікі, зборнікі народнае творчасці і паасобныя доследы на гэтую тэму. Але, на жаль, ёсць такжа шмат цяжкасцяў, з якіх найважнейшымі з'яўляюцца:

1) Адсутнасць пісаных дакументаў адносна веры нашых продкаў з дахрысціянскіх часоў.

---

* Вось больш ведамыя творы ў галіне славянскае міфалогіі:

Berhardi W. Bausteine zur slawischen Mythologie // Jordans Jahrbuch f. Lit. T. I. 1844.

Bruckner Al. Mitologia slowianska. Krakow, 1918.

Gorgowicz E.S.Mitologia slowianska w zarysie. Lwow, 1872.

Jagic V. Zur slawischen Mythologie // Archiv fur slawischen Philologie. Band XXXVII. Berlin, 1920.

Leger L. La Mythologie slave. Paris, 1901.

Machek Vaclav. Essai comparatif sur la mythologie slave // Revue des etudes slaves. Tome XXIII. Paris, 1947.

Mansikka V.J. Die Religion der Ostslaven. I. Quellen. Helsinki, 1922.

Sadnik L. Die Religion der Slawen im Altertum im Lichte der heutigen Forschung // Blick nach Osten. T. 1, 1948.

Schwenck K. Mythologie der Slawen. Frankfurt, 1853.

Thomas H. Die slawische und baltische Religion vergleichend dargestellt. Breslau, 1934.

2) Пазнейшыя весткі з тых часоў калі і сустракаюцца, напрыклад, у летапісах, дык яны маюць вельмі агульны характар.

3) У часе ўтварэння цэнтральных княстваў, як Полацкае і Кіеўскае, былі спробы зляплення вераванняў паасобных пляменняў у нейкую адну сінкрэтычную рэлігійную сістэму. Напрыклад, у Кіеве Уладзімір Святы з гэтаю мэтаю пабудаваў пантэон і пазбіраў туды ўсіх важнейшых багоў ад усіх заваёваных плямёнаў. Эксперымент не ўдаўся, але ў летапісах з'явілася пэўная блытаніна, якая перашкаджае дакладна азначыць боствы паасобных плямёнаў.

4) Ведама, што адносна некаторых багоў нашы продкі, як, зрэшты, і іншыя плямёны, трымаліся звычаю табу, гэта значыць не называлі іх імёнаў у пэўных абставінах. Беларусы і да сёння рэдка калі ў гутарках успамінаюць чорта ці нячысціка перад сном, а калі ўспамінаюць, дык адразу дадаюць: «Не пры вас кажучы». На Палессі і да сёння рэдка можна пачуць, каб хто галасна вымаўляў імя Трасцы-Шухны, бо стары пераказ цвердзіць, што яна вельмі чуткая і злуецца на таго, хто называе яе імя, дзеля гэтага яе часам называюць Цёткаю, але такжа нягаласна.

5) Дзякуючы табу, паасобныя боствы мелі падвойныя, а нават і патройныя імёны. У выніку чаго аб некаторых імёнах вельмі мала што ведама, а міфы аб іх і зусім страціліся.

6) Некаторыя даследнікі славянскае міфалогіі, сведама

---

Unbegaun B.O. La religion des anciens Slaves // Les religions des Celtes, des Germains et des anciens Slaves. Paris, 1948.

Urbańczyk S. Religia pogańska Słowian // Biblioteka Studium, Słowiańskiego Universytetu Jagiellońskiego. Kraków, 1947.

Афанасьев А. Поэтические воззрения славян на природу. Т. 1—3. Москва, 1856—1869.

Болсуновский К. Б. Памятники славянской мифологии. Вып. II. Киев, 1914.

Касторский М. Начертание славянской мифологии. С.-Петербург, 1841.

Костомаров Н. Славянская мифология. Киев, 1847.

Срезневский И. Святилища и обряды языческого богослужения древних славян по свидетельствам современным и преданиям. Харьков, 1846.

Сырцов. Мировоззрение наших предков. Ч. 1. Мифология. Кострома, 1897.

Фамицын А. С. Божества древних славян. С.-Петербург, 1884.

Шеппиг А. Мифы славянского язычества. Москва, 1849.

ці нясведама, шукалі падабенства між славянскімі старымі боствамі і боствамі іншых народаў: індыйскімі, нямецкімі, перскімі, рымскімі і іншымі багамі і міфалогіямі. Сапраўды чагосьці новага гэткія студыі не прынеслі, а блытаніны дадалі.

7) Нястача пісаных дакумантаў з дахрысціянскіх часоў давала і дае шырокае поле для творчае фантазіі пісьменнікаў. У выніку з'явіліся творы, якія не маюць ніякае навуковае вартасці і адкідаюцца, як фантастычныя. Так было не толькі ў нас, але і ў іншых народаў. Напрыклад, Брукнер з абурэннем адзываецца аб польскіх пісьменніках і летапісцах, якія «выдумалі цэлы польскі і прускі Алімп (якога ў XV ст. не было і следу), а іншыя слепа ім паверылі»[11]. Адносна беларускай міфалогіі так сказаць нельга, але здараюцца выпадкі, калі немагчыма разрозніць, дзе канчаецца народная творчасць і дзе пачынаецца фантазія пісьменніка.

8) Зборнікаў беларускае народнае творчасці, у якіх знаходзіцца багаты матэрыял адносна беларускай міфалогіі, ёсць параўнаўча шмат, але толькі невялікую частку з іх можна знайсці ў заходнееўрапейскіх бібліятэках.

Зразумела, што, маючы гэткія цяжкасці, нельга апрацаваць тэму як след і да таго яшчэ ў рамках часопіснага артыкула, але дзеля важнасці самое тэмы варта падаць, прынамсі, у галоўных рысах тое, што можна сабраць з апублікаваных да гэтага часу і даступных матэрыялаў.

У падручніках гісторыі Беларусі і ў агульных нарысах аб беларускім народзе, дзе закранаюцца справы найстарэйшае веры нашых продкаў, звычайна кажацца, што ў іх была паганская вера, якая азначалася абагаўленнем сілаў прыроды і мнагабоствам. Пры тым пералічаюцца больш ведамыя багі. Такі пагляд не зусім згодны з праўдаю, бо паганства з яго мнагабоствам ёсць пазнейшая стадыя рэлігійнага жыцця народа, а найстарэйшая вера ўсіх славянскіх плямёнаў, у тым ліку і беларускіх, быў монатэізм — адзінабоства. Весткі аб гэтым былі ведамы з даўных-давён, толькі некаторыя даследнікі, будучы ў палоне фальшывых гіпотэзаў аб паходжанні рэлігіі, не хацелі прымаць тых вестак.

Усім даследнікам славянскай міфалогіі і прагісторыі добра ведамае сведчанне грэцкага гісторыка Пракопія з Цэзарэі (VI ст.), які, гаворачы аб старой веры славянаў і антаў, кажа: «Яны ўважаюць, што толькі адзін Бог, стварыцель маланкі, ёсць валадар над усімі». І не менш ведамае сведчанне Гельмольда з XII ст. аб тым, што славяне «паміж шматлікіх багоў вылучаюць аднаго, найбольш магутнага, які займаецца толькі небам і камандуе іншымі».

Ад даўна былі ведамыя нават назовы вярхоўнага боства ў некаторых славянскіх плямёнаў, напрыклад, у сербаў і лужычан — Прабог, у палабян — Трыглаў.

Але ўсе гэтыя і іншыя сведчанні даўжэйшы час некаторыя гісторыкі і даследнікі намагаліся адпрэчыць як «выдумку пазнейшых часоў». Аднак больш уважныя доследы дагістарычнага мінулага славянаў прынеслі шмат фактаў, якія без сумліву сведчаць аб тым, што найстарэйшаю вераю нашых продкаў быў монатэізм. І як ні дзіўна, але апошнім часам нават і савецкія гісторыкі мусілі прызнаць, што «бог громаў і маланкі... Пярун ёсць прадукт пазнейшае дыферэнцыяцыі, дакладней кажучы — дызасацыяцыі больш старых тэаганічных уяўленняў чалавека, звязаных з нябёсным агнём наогул і з самым небам. Вышэй Перуна і старэй за яго павінен быў быць нейкі бог Неба, як вярхоўнае боства, як адзін вялікі Бог[12]. Гэты ж гісторык, Дзяржавін, прызнае існаванне ідэі адзінага Бога ў балтыйскіх славянаў, апіраючыся на сведчанне Гельмольда[13].

Не пералічаючы вынікаў навейшых доследаў іншых гісторыкаў, успомнім толькі выснаўкі Мачака, які абагульнівае найнавейшыя доследы аб найстарэйшай веры славян у гэткіх словах: «У найстарэйшым перыядзе супольнага жыцця славянаў прызнаецца існаванне найвышэйшага нябеснага боства, якое называлася Небам, Ясным, Светам... Гэтае боства было нябеснае, а не зямное ці падземнае, яно было патрыярхальнае, не матрыярхальнае».

Праўда, яшчэ ў некаторых папулярных кніжках бязбожнага напрамку можна стрэнуць сцверджанні адносна дахрысціянскае веры славян у духу аджыўшых гіпотэзаў, але ўжо той факт, што нават паважнейшыя гісторыкі ў бязбожнай дзяржаве выказваюць беспадстаўнасць гэтых гіпотэзаў, звальняе нас ад лішняе палемікі, якая да таго

4 Зак. 1338

не належыць да тэмы гэтага артыкула. Пяройдзем адразу да разгляду вестак аб найстарэйшай веры нашых продкаў.

Багатаю і найбольш вартаснаю крыніцаю адносна найстарэйшае і перадхрысціянскае веры нашых продкаў з'яўляецца беларуская вусная народная творчасць і фальклор. Ёсць шмат беларускіх казак, якія сваім пачаткам, без сумніву, сягаюць дагістарычных часоў. Між імі ёсць казкі аб сатварэнні свету і нашае зямлі. У адной такой казцы гаворыцца, што перад сатварэннем зямлі аднойчы Бог хадзіў па небе. «Аж бачыць, вісіць нейкі пузыр, а ў пузыры нешта пішчыць. «Хто там?» — пытае Бог. З пузыра адказваюць: «Бог». — «А хто ж я?» — пытае Бог. «Ты над багамі Бог»,— быў адказ з пузыра». І далей апавядаецца, як яны тварылі зямлю. Характэрна, што ў казцы не называецца імені таго «над багамі Бога». Відаць, што нашы продкі ад найдаўнейшых часоў іменем Бога і называлі найвышэйшую істоту. У казках, дзе Бог з'яўляецца людзям у выглядзе старэнькага чалавека (а такіх казак шмат), ён называецца такжа проста — Бог. Тут маюцца на ўвазе толькі тыя казкі, у якіх няма ніякіх слядоў мнагабоства і такжа ніякіх слядоў хрысціянства. Калі ж у далейшым пачала развівацца паганская рэлігія з яе мнагабоствам, з'явілася патрэба імёнаў для тых боствў і для найвышэйшага Бога.

Прычыны з'яўлення мнагабоства (політэізму) вельмі глыбокія і разнаякія. Іх даследавалі шматлікія вучоныя, але да агульнапрынятай высновы не дайшлі. Праўда, большасць з тых вучоных абасноўвала свае доследы на міфалогіях больш ведамых народаў, а славянскіх міфалогіяў ведала або замала, або і зусім не ведала.

Найбольш істотнаю прычынаю з'яўлення мнагабоства і стварэння міфалогіі ў славянскіх народаў трэба лічыць вобразнасць народнае творчасці і, зразумела, гэткага ж спосабу думання. Нашы продкі ўсе свае спасцярогі, важнейшыя думкі і асабліва вышэйшыя разумовыя паняцці, а таксама і духовыя перажыванні выказвалі вобразна і персаніфікавана. Часта ў народнай творчасці кожны сказ мае глыбейшы сэнс, як аб гэтым выразна сведчыць пераказаная Старым Уласам палеская легенда «Не спанатрыў», дзе прыгожа апісваецца, як сын дрэнна разумеў рады

бацькі, не думаючы аб іхнім глыбейшым сэнсе, і праз гэта бяднеў. Калі для сучасных пісьменнікаў персаніфікацыі і розныя алегорыі з'яўляюцца важным творчым сродкам для ажыўлення нейкае апісанае сцэны ці для аблягчэння ўспрыняцця думкі, дык у тых даўніх часах, калі думкі пераказваліся толькі вусна, для аблягчэння ўспрымання і запамінання вобразнасць была неабходнаю ва ўсіх відах народнае творчасці і для выказвання рэлігійнага светагляду. Адгэтуль з'явілася персаніфікацыя сілаў прыроды, а з часам залічэнне іх да вышэйшых істотаў.

Раз запачаткаваны працэс узняцця персаніфікаваных сілаў прыроды ў далейшым мог хутка давесці да абагаяўлення. Тваранне Богам прыродных стыхіяў выказвалася ў форме роджання — гэткім чынам паасобныя багі і багіні лучыліся ў сем'і, з'яўляліся божычы і багавіцы. Генеалагічнае дрэва багоў разрасталася. Але вельмі характэрна, як убачым далей, што не ўсе багі з беларускага Алімпа маюць азначаныя месцы ў тэаганічным дрэве — ці праз тое, што іхнія спародненні забыліся, ці іх зусім не было, як для звычайных увасобленых сілаў прыроды. Але калі прасочым радаводы тых багоў, аб якіх захаваліся весткі ў беларускай міфалогіі, дык дойдзем зноў да пачаткавага монатэізму, з якога пачало разрастацца тое радаводнае дрэва багоў.

Усе беларускія плямёны і, магчыма, яшчэ некаторыя суседнія плямёны прабогам, або «Богам багоў», лічылі *Белбога*, якога часта такжа называлі *Белуном*. Таму што, паводле міфалогіі, ён быў родзічам усіх багоў, дык часам яго называлі *Дзедам*. Займаўся ён толькі нябеснымі справамі, і дзеля гэтага яго не раз называлі проста *Неба*. З міфаў аб ім ведама толькі, што ён свайму сыну Перуну даў нябесны малаток, каб зваяваў Чарнабога.

Назваўшы Белбога, трэба адразу зазначыць, што ёсць некалькі паважных даследнікаў, якія катэгарычна запярэчваюць яго існаванне ў старой славянскай міфалогіі і наогул. Напрыклад, нямецкі даследнік Нерынг цвердзіць, што Белбог першы раз успамінаецца толькі ў XVII ст. у адной нямецкай хроніцы. Следам за Нерынгам, але яшчэ больш катэгарычна выступае супраць Белбога польскі вучоны Ал. Брукнер: «Белбога з пальцаў сабе толькі потым немцы высcалі»[14]. Не менш рашуча адкідае Белбога і некалькі

іншых багоў пазнейшы нямецкі даследнік Вінэкэ, уважаючы яго выдумкаю, звязанаю з назовамі мясцовасцяў. Названыя даследнікі маюць немалы аўтарытэт у навуковым свеце, з іхняю думкаю нельга не лічыцца, аднак у сваіх творах датычна беларускае міфалогіі яны не спасылаюцца ні на якія беларускія крыніцы, і беларускае міфалогіі яны зусім не ведаюць. Таму іхняе негатыўнае становішча адносна Белбога ў іншых славянскіх міфалогіях можна лічыць абаснаваным, але адначасна іхні ж аўтарытэт як навукоўцаў можа быць доказам, што Белбог быў творам выключна беларускае міфалогіі, якое яны не ведалі.

Найбольш вестак адносна Белбога сабраў Кіркор, апіраючыся на багаты беларускі фальклор і старыя пераказы. Вось што ён піша: «Беларусы захавалі памяць аб галоўным добрым Богу, бацьку неба Белбогу, прабогу, айцу Перуна, каторага яны называюць *Белуном*. Аб велічы і высокім значэнні Белбога ў іх складанае паняцце. Але паэтычны настрой беларуса і ягоная схільнасць увасабляць абстрактныя прадметы дазволіла яму прыдаць нават рэчавы вобраз Белуну. Беларус запэўнівае, што Бялун часам сходзіць на зямлю, што ён паказваецца як стары з доўгаю белаю барадою, у белай вопратцы і з кіем у руках. Ён літасцівы, робіць толькі дабро. Бялун паказваецца толькі днём, калі свеціць сонца. Калі ж ён стрэне ў лесе падарожнага, што зблудзіў, дык выведзе на дарогу... Пад час жніва ён любіць з'яўляцца на нівах і нават памагаць жанцам. Часам Бялун любіць і пажартаваць, але заўсёды як той, што робіць дабро, дае багацце. Часам ён з'яўляецца ў жыце з вялікім мяшком на носе. Наглядзеўшы добрага работніка ці работніцу, ён кліча яго да сябе рукою і просіць уцерці яму нос. Калі той дакранецца да носа, раптам з мяшка пасыплецца золата, і Бялун знікае. Аб такім шчаслівым беларусы кажуць: «Мусіць, пасябраваў з Белуном». Падобнае апісанне, толькі менш падрабязнае, падае Афанасьеў і, між іншым, цытуе старую беларускую прыказку: «Цёмна ў лесе без Белуна».

А цяпер само напрошваецца пытанне: як жа магло стацца, што ў нашых продкаў яшчэ ў дахрысціянскіх часах памяць аб вярхоўным Богу пайшла ў забыццё? Сталася вельмі проста. Калі разросся Алімп беларускіх багоў, дык народ пры розных нагодах пачаў звяртацца да дру-

гарадных багоў, якіх лічылі бліжэйшымі, а да таго бога, які займаўся толькі небам, адпала патрэба звяртацца. Гэткая рыса пабожнасці назіраецца не толькі ў нашых продкаў, але даслоўна ва ўсіх народаў свету і не толькі калісь, але нават і цяпер. Бо ж і сёння вернікі рэдка калі звяртаюцца да Бога-Айца, але затое вельмі часта звяртаюцца да розных святых у залежнасці ад характару свае просьбы. Недарма з'явілася жартоўная прыказка: «І Бог не ўкрые, як святыя дапусцяць».

Вельмі неспакойныя калісь часы і частыя міжсобныя войны нашых продкаў зрабілі вельмі папулярным бога вайны і грому — *Перуна*, сына Белбога. Пярун — гэта адзін з нешматлікіх багоў, якія былі ведамы ўсім славянскім плямёнам. Паводле ўяўлення беларусаў, ён меў у руках два вялікія жарновыя камяні і біў адным аб другі. Мог забіваць людзей. Між беларускіх плямёнаў культ Перуна быў распаўсюджаны даволі шырока.

Братам Перуна лічыўся *Зюзя* — страшны бог зімы. У міфах яго апісваюць як сівога дзеда з доўгаю барадою, босага, у белым кажусе, без шапкі, з жалезнаю булавою ў руках. Калі ён злуецца, б'е булавою ў пень, і мароз трашчыць.

Жонкаю Перуна была *Жыва* або — інакш — *Сіва*. Дзеля таго, што яе лічылі вельмі спагадліваю да людзей, дык называлі такжа *Цёцяю*, а па мужу — проста *Грамавіцаю*. З яе імем звязаны цікавы міф. Калі Зюзя ў часе свайго панавання зімою вельмі дакучаў людзям маразамі, дык Грамавіца сыходзіла на зямлю, каб радзіць сына Дажбога-Хорса, бога сонца, які меў перамагчы Зюзю. Але Зюзя даведваўся аб намерах Грамавіцы, перамяняўся ў мядзведзя і разам са злымі духамі — Завеямі, перамененымі ў ваўкоў, ганяўся за ёю, каб знішчыць нованароджанага Дажбога. Грамавіца, уцякаючы ад іх, перамянілася ў белую казу і схавалася ў кустах, дзе і нарадзіла Дажбога. У звязку з гэтым міфам на Беларусі быў звычай вадзіць казу пад час калядных святаў, які астаўся і ў хрысціянскіх часах, прыняўшы толькі іншае прызначэнне. Аб часе з'яўлення міфа Кіркор заўважае: «Беларускі міф паходзіць з часоў, якія папераджалі дуалізм, так што праследавацелем з'яўляецца не Чарнабог, але блізкі да яго падземны цар Сіціўрат-Карачун».

Жыва-Цёця лічылася багіняю лета. Яе прадстаўлялі прыгожаю жанчынаю са спелымі каласамі на галаве і з пладамі ў руках. Яна навучыла людзей абрабляць зямлю, жаць і апрацоўваць лён. Пасля перамогі над цёмнымі сіламі Цёця сыходзіла на зямлю, каб упрыгожыць яе зеленню і кветкамі. На яе чэсць спраўлялі свята Кустоў. Частка абрадаў таго свята асталася ў хрысціянскай Сёмусе.

Сын Перуна і Жывы-Цёці *Дажбог-Хорс* — бог сонца, даўца ўсякага багацця і спору. У звязку з вышэйуспомненым міфам ён быў вельмі папулярны. Літаратура аб ім даволі багатая, бо ён, як і Пярун, быў ведамы амаль ува ўсіх славянскіх плямёнах.

Жонкаю Дажбога была *Лада-Лёля*. Міф аб іхнім сужэнстве апісаны ў адной старой беларускай песні. Лада была дачкою марскога цара. З твару яна была вельмі прыгожаю, мела залатую касу, ездзіла па моры ў залатой лодцы, вяслуючы сярэбранымі вёсламі, і плюхала вадою на Дажбога, які цікаваў на яе з неба. Дажбог улюбіўся ў Ладу і пайшоў да марскога цара, каб той дазволіў жаніцца з ягонаю дачкою. Але марскі цар моцна пабіў Дажбога, так што яго завязлі назад ледзь жывым. Праз некаторы час Дажбог ачуняў і не пакінуў думкі аб жанімстве з Ладаю. Гэтым разам яму дапамог верны слуга. Пры гэтай нагодзе народная творчасць востра высмейвае жаночы гон да модных убораў, на які хварэюць нават і багіні. Слуга, ведаючы добра жаночую натуру, разлажыў на беразе мора розныя дарагія строі і ўборы, у тым ліку і прыгожыя зялёныя чаравічкі. Лада залюбавалася чаравічкамі, выйшла на бераг, каб іх сабе ўзяць, але тут яе схапілі і завязлі Дажбогу. Лада-Лёля дзеля свае прыгажосці называлася часам Ляля, яна лічылася багіняю вясны. Да сёння захавалася пагаворка адосна прыгожых і стройных дзяўчат: «Прыгожая, як Лёля».

Важнае месца ў беларускай міфалогіі займаў *Чарнабог* — злы бог. Аб ім успамінае ўжо ў XII ст. Гельмольд. Але яго, падобна як Белбога, шмат якія даследнікі дагістарычнага мінулага Беларусі катэгарычна адкідаюць. З беларускіх даследнікаў адкідаў Чарнабога Н. А. Янчук — пры нагодзе літаратурнае крытыкі песні «Быў на Русі чорны бог»[15]. На ўсе іхнія закіды вельмі слушна заўважыў ведамы чэшскі вучоны Нідэрле, што існаванне шматлікіх

мясцовасцяў, якія маюць нейкую сувязь з іменем Чарнабога, ставяць па-за ўсякі сумніў сведчанне Гельмольда, што гэтага бога славяне калісь прызнавалі. Аднак міфы аб Чарнабогу, калі і былі, дык даўно забыліся.

Жонкаю Чарнабога лічылася *Марана* — багіня смерці, аб ёй такжа не ведама ніякіх міфаў.

Бадай што найбольш папулярным між беларускіх паганскіх багоў быў сын Дажбога і Лады *Ярыла* — бог прарастання палёў, любові, сілы і адвагі. Яго прадстаўлялі маладым, прыгожым юнаком у белай пелярыне і з вянком кветак на галаве. Ён едзе на белым кані, трымаючы ў правай руцэ людскі чэрап, а ў левай — жменю аржаных каласоў. Па загаду маці Лады Ярыла адчыняў вароты неба і прыязджаў на зямлю. З яго прыездам пачыналася сапраўдная вясна. У звязку з Ярылам існаваў міф аб пахаванні бога. У чэсць Ярылы ў канцы красавіка дзяўчаты ладзілі вясёлую ўрачыстасць: адну дзяўчыну ўбіралі за Ярылу, апрануўшы яе белаю прасцінoю, быццам мантыяю, на галаву клалі вянок з палявых кветак, саджалі на белага каня і навокал вадзілі карагод, пеючы:

А дзе ён нагою,
Там жыта капою,
А дзе ён зірне,
Там колас зацвіце...

Праўдападобна, што беларускі герб Пагоня выводзіць свой пачатак ад Ярылы.

Жонкаю Ярылы лічылася *Вясна* — багіня вясны, цяпла і ласкі.

Адносна іншых паганскіх багоў з дахрысціянскага беларускага Алімпа мала што ведама. Міфы аб іх загінулі зусім, але ёсць падставы дагадвацца, што калісь аб іх нашы продкі мелі багатую міфалогію, з якое бралі пачатак або проста звязваліся шматлікія абрады і звычаі, сляды якіх можна было яшчэ бачыць у навейшых часах на Каляды, Новы год, Вялікдзень, Радаўніцу, Сёмуху, св. Юр'я, Дзяды і інш. Аб некаторых з тых багоў, акрамя прынагодных назоваў іхных імёнаў, звестак не захавалася, аб іншых дайшлі частковыя апісанні. Таму што іхнія генеалагічныя сувязі няведамыя, пералічым іх у альфабэтычным парадку.

*Аўсень* — якісьці бог сонца. У далейшым пабачым, што багоў сонца было некалькі ў залежнасці ад пораў года.

*Волас*, або *Велес* — скоцкі бог, бог багацця і дастатку, ён жа меў апеку над пастухамі і спевакамі ды і сам меў дуду. Ведамы быў такжа ў іншых славянскіх плямёнах, успамінасцца ў летапісе.

*Дамася* — багіня хатняга вогнішча. Жыла за печчу і была ў нейкім спародненні з Палясяю.

*Дзева* — праўдападобна, гэта чацвёртае імя Лады.

*Дзедзя, Дзедка* — бог агню. Гэта маленькі дзядок з ногцік і барадою з ласкуток, аб ім была загадка: «Чырвоны Дзедзя па жэрдачцы едзе».

*Дзіванна* — якаясьці няведамая бліжэй багіня.

*Дзянніца* — жонка месяца.

*Жыжаль* — падземны бог агню.

*Жыцень* — бог жыта, гаспадар поля, ён жа бог восені ў выглядзе маленькага дзеда, строгага, з трыма вачыма, скудлачанымі валасамі. Лічылі, што ён жыве ў кустах каля поля, адгэтуль і прыказка: «Пакланіся кусту, дасць табе хлеба лусту».

*Каляда* — багіня, аб якой ёсць шмат розных дагадкаў у звязку з святамі Калядаў, але нічога больш-менш пэўнага не ведама. Некаторыя даследнікі яе атаясамліваюць з Грамавіцаю, іншыя лічаць асобнаю багіняю.

*Карачун-Сіціўрат* — смертаносны бог, яго часам атаясамліваюць з богам зімы Зюзяю.

*Кон* — гэта якісьці магутны дух, які вызначыў долю для ўсіх, нават для багоў.

*Купала* — адзін з багоў сонца, праўдападобна, летняга сонцастаяння. Ён быў цесна злучаны з іншым богам — *Янам*, малаведамым, хоць аб ім часта ўспамінаецца ў так званых купальскіх песнях. Адна з іх пачынаецца словамі: «Сёння Купала, а заўтра Ян». Кіркор атаясамлівае Купалу з *Ладам*.

*Лад* — веснавы бог жанімства, ласкі, любові і дабрабыту, быў у нейкім спародненні з Ярылам.

*Лель* — малаведамае боства.

*Макоша*, або *Макош* — дагадваюцца, што гэта была багіня пражы і стрыжэння авец.

*Пагода* — багіня надвор'я.

*Паляндра* — багіня псуцця, гніцця і гнілое гарачкі.

*Паляса* — багіня поля. У адной казцы апавядаецца, што яна памерла і давала аб гэтым знаць Дамасі.

*Пасвіст* — бог непагоды і хмараў.

*Рада* — багіня розуму.

*Рой, Спарыш, Багач* — праўдападобна, гэта розныя імёны бога ўраджаю.

*Сварог* — бог неба і агню. Часта яго атаясамліваюць з Дажбогам. Аб ім існуе багатая бібліяграфія, і аб ім успамінаюць летапісы.

*Сварожыч* — сын Сварога, якісьці бог сонца.

*Сім* — аб ім захаваўся толькі няясны ўспамін.

*Стрыбог* — бог ветру. Аб ім успамінаецца ў «Слове аб палку Ігаравым».

*Тур* — спароднены з Ярылаю бог сонца, ураджаю і сілы.

*Яшчар* — злы бог хваробаў.

Акрамя вышэйпералічаных багоў, у беларускай міфалогіі ўспамінаюцца шматлікія духі:

*Вадзянік* — дух водных нетраў, жыў у вірах.

*Дамавік*, або *Дамавы* — у некаторых ваколіцах Беларусі гэта хатні дух, які атаясамліваюць з Хатнікам, але ва Усходняй Беларусі гэта асобная істота, што жыла не ў хаце, а ў хляве, як гэта відаць з абраду ахвяраў, якія яму прыносіліся пад час поўні месяца. Тады пяклі хлеб і з першае баханкі, якую даставалі з печы, гаспадар адразаў акраец, саліў яго і ноччу йшоў з ім у хлеў. Уваходзячы ў хлеў, казаў: «Дамавік дамавы! Прымі ад мяне хлеб-соль, любі маіх лашадзей і жалуй. І я буду цябе любіць і жалаваць».

*Злыдні* — злыя хатнія духі. Прыказка аб іх кажа: «Упрасіліся злыдні на тры дні, а і за тыдзень не выжывеш». Цяпер гэтую прыказку ўжываюць у пераносным значэнні.

*Змора* — дух, што мучыць сонных людзей.

*Кадук* — злы дух, які спрычыняў няшчасныя выпадкі.

*Копша* — магільны дух, грабар. Прыказка кажа: «З грашыма і Копшы дагодзіш». Дзеля гэтага калісь пакойнікам укладалі ў рукі грошы.

*Лясун* — лясны дух.

*Начніцы* — маленькія злыя духі ночы. Цяпер гэтае імя замацавана за адным відам кажаноў.

*Мара* — злы дух, які зводзіў людзей, адгэтуль выраз — марочыць галаву.

*Падвей* — гэта дух, які круціўся ў вірах і мог наслаць людзям хваробы-падвеі.

*Перапалох* — дух, які страшыў людзей. Яго можна адагнаць загаворамі.

*Трасца-Шухна* — дух, які насылаў трасцу.

*Хатнік* — хатні дух у выглядзе старэнькага дзядка з сівою барадою і доўгімі сівымі валасамі, апрануты ў каптан, падпяразаны дзягаю. Устае рана і пужае пеўня, будзіць гаспадара да працы. Жыве на печы або пад печчу. Наогул печ у беларускай хаце лічылася месцам жыхарства ўсіх хатніх і сямейных духаў, дзеля гэтага ў старым вясельным абрадзе быў звычай, што маладая перад выездам з роднае хаты ў хату маладога абымала печ, развітваючыся гэткім чынам з хатнімі духамі. Яшчэ да нядаўна ў хаце забаранялася гаварыць дрэнныя словы і наогул тое, што магло б абразіць хатніх духаў. Нават існавала пагаворка: «Сказаў бы, але печ у хаце».

*Хлеўнік* — шкодны дух, які псуе статак, заезджвае коней ці кароў. Чамусьці ён баіцца сарокі.

*Чур*, або *Шчур* — сямейны і наогул родавы дух, які ахараняў граніцы родавых земляў.

Паміж беларускіх міфалагічных істотаў ёсць яшчэ шмат духаў продкаў: адны прыхільныя — дзяды; другія шкодныя — вупары, вадзяніцы, купалкі, вісельнікі, пакутнікі і інш.

Некаторыя з вышэйпералічаных багоў былі ведамыя ў іншых славянскіх народаў: Пярун, Дажбог, Велес, Каляда, Сварог, але большасць з іх былі ведамыя толькі ў беларускай міфалогіі.

Што да ідалаў-статуяў вышэйпералічаных міфалагічных істотаў, дык іх на Беларусі знойдзецца няшмат. У 1684 г. знойдзена статуя з чыстага золата; археолагі дагадваюцца, што гэта быў ідал Перуна. Анак няма сумніву, што калісь іх было шмат, і такжа няма сумніву, што яны пераважна былі дзераўляныя, таму і загінулі бясследна, толькі пасля некаторых больш ведамых і, магчыма, каменных статуяў асталіся ўспаміны ў назовах мясцовасцяў. У калішнім Круглевіцкім павеце над ракою Сойм ёсць вёска Бажок, а недалёка ад Клецка ёсць цэлая група вёсак, якія атрымалі назовы ад паасобных частак каменнае статуі нейкае багіні. З прыняццем хрысціянства статую разбілі, але ваколічныя

сяляне пазабіралі сабе яе часткі, і ад гэтага іхнія вёскі атрымалі такі назовы: Вялікая Балвань, Галавачы, Зубкі, Цыцкавічы, Пузава.

Са спіса беларускіх міфалагічных істотаў відаць, што беларускі Алімп быў залюднены даволі багата, але паміж іх толькі адзін Пярун меў ваяўнічы характар. Злых багоў было такжа мала; крыху больш было злых духаў, але наогул у беларускай міфалогіі пераважалі істоты спакойныя — гэта вымоўна адлюстроўвала характар беларускага народа.

У параўнанні з іншымі славянскімі народамі беларуская міфалогія азначаецца сваім багаццем, але яна не мае нейкае суцэльнасці, як гэта было, напрыклад, у грэкаў і рымлян. А з цягам часу, у залежнасці ад таго, як колькасць боствaў і духаў пабольшвалася, сувязь паміж бoствамі ўсё больш разрывалася. З'явіліся такжа родавыя і пляменныя боствы, якія паглыблялі пляменны падзел. Гэты падзел аблягчаўся яшчэ тым, што ў паганскія часы нашы продкі не мелі зарганізаванага стану святароў і, праўдападобна, наогул паганскіх святаў-казляроў, як іх тады называлі, было мала. Яны абавязкова былі толькі ў большых населеных пунктах — гарадах і тых месцах, дзе былі больш ведамыя ідалы, перад якімі ў пэўныя азначаныя святы прыносіліся ўрачыстыя ахвяры. Звычайна ж ролю святара ў кожнай сям'і выконваў найстарэйшы ў родзе. Гэты звычай даў рэлігійную аснову патрыярхальнаму ладу ў беларускіх сем'ях. Яшчэ да нядаўна бацька сям'і выконваў традыцыйныя абрады на Каляды, на Вадохрышча, на Дзяды і інш. Да таго тыя нешматлікія казляры, якія калісь існавалі, не мелі ніякае ерархіі. Некаторыя гісторыкі былі схільныя думаць, што, прынамсі, беларускае племя крывічы мела ў паганскія часы ерархічны лад святароў: крывэ і крывэйта, але больш праўдападобна, што гэта была ерархія летувіскіх плямёнаў і, магчыма, такжа люцічоў-волатаў.

З усяго вышэй сказанага бачна, што развіццё паганскае веры нашых продкаў, ад маменту з'яўлення мнагабоства, ішло ў кірунку ўпадку. Але грамадскае жыццё нашых продкаў ужо на зары гісторыі вымагала нямала арганізаванасці, каб перамагчы ўсе ўнутраныя і вонкавыя наступы варожых сілаў. Можна дагадвацца, што гэты разлад абумовіў той факт, што нашы продкі прынялі хрысціянства без

ніякага націску зверху, а прыняўшы яго, ні разу не мелі паганскае рэакцыі.

Не будзе лішнім дадаць, што прыняцце хрысціянства ў мамент выразна зазначанага ўпадку паганства сталася для беларускага народа не толькі жыватворчаю крыніцаю надпрыродных ласкаў у духовым жыцці, але было наогул магутным дзейнікам уздыму ў жыцці народа. Пры тым хрысціянства, адхіліўшы асноўныя памылкі паганства, якія вялі народ да ўпадку, не знішчала дагістарычнага мінулага нашага народу; нават і ў рэлігійных практыках яно захавала шматлікія старыя абрады, прыстасаваўшы іх да асноўнае мэты людскога жыцця: наблізіць чалавека да Бога.

У сучасным стане доследаў мала што ведама аб пачатках хрысціянства на Беларусі. На жаль, мала ёсць надзеі, каб было магчыма пазнаць дакладней гэты цікавы перыяд нашае гісторыі. Гэты артыкул мае на мэце коратка падаць да ведама тое, што сцверджана дасюлешнімі доследамі.

Апавяданне Лаўрэнціеўскага летапісу аб тым, што быццам апостал Андрэй меў праязджаць праз нашу Бацькаўшчыну водным шляхам «з вараг у грэкі», каб з Сінопы, якая ляжала на беразе Чорнага мора, трапіць у Рым, сёння агульна прызнана наіўнаю легендаю, створанаю ў Кіеве ў XII в. на ўзор візантыйскае легенды з VII в. аб тым жа апосталу. У самім жа летапісе ёсць месцы, якія выразна супярэчаць гэтай легендзе, кажучы, што «апосталы на Русь не прыходзілі... толькі ап. Паўла быў у Істрыі». Да таго ў легендзе ёсць такжа нямала супярэчнасцяў. Без дай прычыны летапісец застаўляе апостала вылазіць на Кіеўскіх гарах і багаславіць іх, а аб волаках, дзе ўсе мусілі вылазіць з чаўноў, не ўспамінаецца ні слова. Апостал, які ў сваім вандроўным жыцці бачыў столькі звычаяў і абрадаў, прыйшоўшы ў Ноўгарад, замест таго каб навучаць людзей, насміхаецца з іхніх звычаяў. Хоць аб апосталу Андрэю захаваліся толькі легендарныя жыццяпісы, але і тыя нічога не ўспамінаюць аб ягоным падарожжы ў Рым праз водны шлях «з вараг у грэкі».

Легенда была створана ў часе варажнечы Кіева з Ноўгарадам і змагання Кіеўскае мітраполіі з візантыйскім цэнтрам за большыя правы, таму яе аўтар жадаў паказаць Візантыі, што ўжо быццам ад апостальскіх часоў тут было хрысціянства, якое лучыла ўсходніх славянаў з Рымам праз варагаў. Таму, аднак, што гэтая легенда вельмі наіўная, прыхільнікі рымскага цэнтра ніколі на яе не спасылаліся. Расейскія праваслаўныя гісторыкі толькі часткова спасылаліся на яе, а сёння агулам яе залічаюць да легендаў без ніякае гістарычнае вартасці. Гэта тым больш пэўна, што аб падарожжы апостала па ўсходнеславянскіх землях няма ані ўспамінаў, ані следу.

Наш народ выступае на гістарычнае відовішча чыста паганскім. Гэтае паганства мела своеасаблівую форму, аднак таму, што пасля стараннеяў Уладзіміра ў 980—987 гадах

аб'яднаць усе ўсходнеславянскія плямёны, пачынаючы ад іхніх рэлігіяў, паасобныя веравызнавальныя формы гэтых плямёнаў паважна змяшаліся ў кіеўскім пантэоне на Перуновай гары, і цяжка сёння дакладна азначыць веравызнавальныя формы нашых продкаў.

Варты, аднак, асаблівае ўвагі той факт, што паганскае веравызнанне нашых продкаў, побач з абагульненнем шматлікіх сілаў прыроды, вылучае аднаго вярхоўнага Бога, як гэта можна выразна бачыць з казкі аб стварэнні свету, дзе бог неба спатыкаецца з такою сілаю, якая кажа аб сабе: «А Я над багамі Бог». Казка не падае імені гэтага Бога, відаць, яно было забаронена як татэм, аднак Яму прыпісвае стварэнне свету.

Гэты выразны след першапачатковае монатэістычнае (аднабожнае) рэлігіі нашых продкаў у значнай меры ўмагчымліваў прыняцце хрысціянства.

Аднак на пытанне, калі нашы продкі прынялі хрысціянства, сёння, падобна як і ў мінулым стагоддзі, прыйдзецца адказаць словамі гісторыка В. Данілевіча: «Аб часе прасвячэння Полацкае зямлі хрысціянствам няма ніякіх вестак у нашых летапісах». Аднак гэтага адказу нельга так разумець, быццам у нас агулам няма вестак аб часе прыняцця хрысціянства нашымі продкамі.

Справа ў тым, што ў нас не было прымусовага хросту, як гэта было ў іншых народаў, таму летапісцы не маглі звязаць пачатку хрысціянства ў нашай Бацькаўшчыне з ніякаю датаю. Грамадскі лад нашых плямёнаў быў такі, што ніяк не дазваляў насільнага хросту. У іншых краінах князі прымусам хрысцілі сваіх падданых, а беларускія князі гэтага рабіць не маглі, бо залежалі ад веча, і калі нешта часам хацелі ўводзіць супраць волі веча, тады ім іхнія ж падданыя «паказвалі пуць» — выганялі. Становішча нашых князёў так выказаў Я. Купала:

З вольнай дружынаю князь на пасадзе
Вольнаму люду законы пісаў.
Слухалі князя, а князь што не ўладзіў,—
Слухаў, што веча яму звон казаў.

Гэткім парадкам хрысціянства ў нас не было накінута з гары, але паволі пашыралася знізу. Гэтымі нізамі не бы-

лі шырокія масы, але перадусім жыхары гарадоў. (Масы вясковага насельніцтва яшчэ доўга трымаліся свае старое веры.) Праўда, князі ў гэтым пашырэнні не былі апошнім дзейнікам, наадварот, яны аднымі з першых прымалі хрысціянства і сваім аўтарытэтам у значнай меры прычыняліся да ягонага пашырэння. Дзякуючы гэткаму спосабу хрысціянізацыі ў нас не было паганскае рэакцыі, як гэта было ў Балгарыі, потым у Польшчы і Мадз'яршчыне.

Першым бясспрэчна хрысціянскім князем на Беларусі быў Ізяслаў (987—1001) і яго маці Рагнеда (у манастве Анастасія). Летапісы так адзываюцца аб Ізяславе: «Быў жа гэты князь ціхі і лагодны, і пакорны, і літасцівы, і вельмі любіў і шанаваў святарскі чын і манашы, і пільна гарнуўся да Святога Пісання». Але аб тым, як ён пашыраў хрысціянства, нічога не гаворыцца.

Ішло хрысціянства на Беларусь рознымі шляхамі, аднак найважнейшым з іх быў гандлёвы шлях «з вараг у грэкі». Праз яго ездзілі купцы з усяго тагачаснага культурнага свету, тут вандравалі розныя дружыны, гэтым жа шляхам вярталіся і палонныя. Можна дагадвацца, што першымі місіянерамі ў нас былі якраз купцы і нявольнікі. Яны калі не прапаведавалі, дык, прынамсі, азнаёмлівалі людзей з новаю вераю і тым самым падрыхтоўвалі грунт для яе.

За час прыняцця хрысціянства, акрамя таго, што нельга азначыць нейкаю дакладнаю датаю, можна і трэба прыняць самы канец дзесятага веку, гэта значыць час хросту першых князёў. Якраз у гэтым часе адчуваецца моцная хваля росту хрысціянства з краінаў колішняе Рымскае імперыі на паўночны ўсход.

Гэта можна ясна бачыць з хронікі тагачасных падзеяў:
823 г. Місійнае падарожжа біскупа Эбо ў Данію.
826 г. Хрост дацкага караля Гарольда.
829 г. Місія св. Ансгара ў Швецыю.
845 г. Хрост 14 чэшскіх ваяводаў у Ратысбоне.
859 г. Ансгар назначаецца першым біскупам Швецыі.
858—861 гг. Місія святых Кірыла і Мяфода між хазарамі.
863 г. Місія святых Кірыла і Мяфода ў Маравіі.

866 г. Першы епіскап у Тмутаракані.
866 г. Хрост балгарскага князя Багарыса.
867 г. Хрост кіеўскага князя Аскольда.

885 г. Пераход з Маравіі ў Балгарыю вучняў святых Кірыла і Мяфода.

912 г. Нарманскі ваявода Ролен прымае хрост з рук руенскага архібіскупа.

941 г. Успамін аб тым, што ў дружынах «рускіх» князёў ёсць хрысціяне.

950 г. Прыход місіянераў у Мадз'яршчыну.
955 г. Хрост кіеўскае князёўны св. Вольгі.

961 г. Св. Адальбэрт прыязджаў у Кіеў і праз Ноўгарад ад'ехаў назад у Нямеччыну.

966 г. Хрост польскага караля Мешка I.
973 г. Першы біскуп у Празе Чэшскай.
988 г. Хрост кіяўлян.
989 г. Хрост Ізяслава і Рагнеды.

1004—1009 гг. Місійныя падарожжы св. Бруна ў Мадз'яршчыну, Русь і Прусію.

Адгэтуль бачна, як хваля хрысціянізацыі паволі налягала на беларускія землі і ў канцы X веку поўнасцю ахапіла іх. Таму гэты час і належыць уважаць пачаткам хрысціянізацыі нашых продкаў. Няма ніякага сумніву, што паасобныя хрысціяне маглі спатыкацца ў гарадах значна раней. Ужо ў 905 г. была ў Канстанцінопалі пры царкве св. Мамы калонія «рускіх» купцоў. Але хрысціянства як дзяржаўнае веравызнанне стаецца ў нас толькі ў самым канцы X веку. З гэтым годзяцца ўсе гісторыкі. Разбежнасці ў поглядах выяўляюцца толькі тады, калі пачынаюць пытацца: хто меў большы ўплыў на нашых продкаў у насаджванні хрысціянства? Да гэтага маглі прычыніцца грэкі, варагі і балгарскія святары.

Грэкі былі хрысціянамі з апостальскіх часоў і як гандлёвы народ даходзілі да найдальшых куткоў Еўропы. Але адносіны нашых продкаў да грэкаў былі вельмі непрыхільныя за іх купецкае круцельства і тым самым не спрыялі пашырэнню хрысціянства. Летапісы аднaзгодна сведчаць

аб тым, што грэкаў у нас не любілі. З палітычных меркаванняў усходнеславянскія князі ахвотна ўваходзілі ў зносіны з Візантыяю як культурным цэнтрам і прымалі адтуль мітрапаліта і нават паасобных епіскапаў, але да іх дзейнасці адносіліся з засцярогаю. Як ні дзіўна, але старанні мітрапалітаў-грэкаў завесці грэцкую мову ў богаслужэннях асталіся дарэмнымі. Царкоўная ўправа, паводле візантыйскага ладу, такжа не прынялася. Наадварот, сам мітрапаліт, найчасцей грэк, і ўсе епіскапы свае кліросы мелі зарганізаваныя на ўзор капітулаў пры лацінскіх біскупах.

Другім рухавым народам, які быў добра ведамы нашым продкам, былі варагі. Іх можна было спатыкаць у дружынах амаль кожнага князя. Яны ўсё новымі і новымі хвалямі прыязджалі з Скандынавіі. Але ад другой палавіны X веку Скандынавія стала хрысціянскай лацінскага абраду. Таму нічога дзіўнага, што ў гэткіх варажскіх дружынах часта спатыкаліся лацінскія духоўныя. Найлепшы доказ гэтага бачым у Тураўскім княстве, куды Уладзімір выслаў свайго найстарэйшага сына ад грэкіні-ўдавы па Яраполку — Святаполка. Святаполк разам з жонкаю, дачкою польскага караля Баляслава, прывёз лацінскага біскупа Райберна, родам немца, і хрысціў дрыгавічоў у лацінскім абрадзе, аж пакуль бацька не пайшоў за гэта на сына вайною. Цікава адцеміць, што ў Ноўгарадзе такжа летапісец аж двойчы ўспамінае «Піскупью» вуліцу (1049 і 1167), хоць аб самім біскупу вестак не падае. Але ўжо ў XI в. усе варагі на Русі былі ўсходняга абраду: гэты абрад пашыралі між мясцовым насельніцтвам. Ад іх усходняе хрысціянства атрымала назоў «рускае веры».

Трэцім і найважнейшым дзейнікам у пашырэнні хрысціянства і ўласцівымі хрысціянізатарамі былі святары. Хто былі гэтыя святары? З таго факта, што ва ўсіх усходніх славянаў богаслужэбная мова ад самага дзесятага веку ўжывалася старабалгарская, трэба дагадвацца, што і святары мусілі паходзіць з Балгарыі. Першы кодэкс царкоўнага права «Номоканон» у царкоўнаславянскай мове з XII в. такжа зусім падобны да таго, які ўжываўся ў Балгарыі. Характэрны ён, між іншым, тым, што не мае 28-га правіла Халкідонскага сабора, якога не зацвердзіў папа Леў I. Пэўна,

што гэтых святароў было няшмат, але яны былі ці не адзінымі працаўнікамі, якія прасвячалі і навучалі народныя масы. Метад іхняе працы быў тым жа, які запачаткавалі святыя славянскія апосталы Кірыл і Мяфод, якія, трымаючыся ўсходняга абраду, трымаліся адначасна Рымскага цэнтра. Відаць, што нават епіскапы-грэкі супроць іх былі бяссільныя.

Яшчэ ў XII в. ёсць выразныя сляды ўплыву святых Кірыла і Мяфода на Беларусі. Доказам гэтага можа быць казанне св. Кірыла Тураўскага «Пахвальнае слова Кліменту Рымскаму». Культ св. Клімента на славянскіх землях звязаны з асобамі Кірыла і Мяфода, бо гэта яны знайшлі мошчы гэтага святога папы ў Корсуні і доўгі час вазілі іх усюды з сабою. Відаць, што св. Кірыл Тураўскі мусіў быць пад моцным уплывам вучняў святых Кірыла і Мяфода. Можна дагадвацца, што з пашаны да іх імя ў манастве змяніў на Кірыла.

Калі тут закранаецца справа лацінскага і ўсходняга абрадаў, дык неабходна зрабіць адну заўвагу. Сучасны падзел Цэркваў на каталіцкую і праваслаўную ўжо так уеўся ў нашу сведамасць і падсведамасць, што не раз і ў найстарэйшыя часы па прывычцы хочацца бачыць гэты падзел нават там, дзе яго ніколі не было. Вось жа ў імя праўды трэба сцвердзіць, што ў X веку, калі пачало прымацца хрысціянства на Беларусі, як Усходняя, так і Заходняя — Рымская Царква, акрамя розніцы абрадаў і дробных дысцыплінарных непаразуменняў, тварыла адну царкву, якая называлася Святая Праваслаўная Каталіцкая Царква. Так было аж да 1054 г. Абедзве яны да часу падзелу былі аднолькава жыццёвыя, аднолькава экспансіўныя. З вышэйзмешчанае хронікі відаць, як яны абедзве робяць наступ на паганскія краіны. Іхнія місіянеры часта спатыкаліся паміж сабою, іхнія інтарэсы часта зачэпліваліся і пераблытваліся, але адзінства не трацілася. Таму хоць святыя Кірыл і Мяфод былі выпраўлены на місійную працу між славян з Візантыі, але калі стрэнуліся з непрыхільным становішчам немцаў і абмовамі з іх боку, дык ідуць апраўдвацца ў Рым і там не толькі атрымоўваюць пацверджанне правільнасці свае працы, але яшчэ папа Адрыян II падымае Мяфода да годнасці архіепіскапа.

Вельмі характэрная рыса, што амаль адразу пасля падзелу 1054 г. Візантыйская царква траціць той місійны гон, якім азначаліся абедзве царквы да гэтага часу. Рымская царква захавала яго да апошніх дзён. Сам назоў цэркваў такжа падзяліўся: Візантыйская царква пачала карыстацца пераважна назовам Праваслаўная, а Рымская звярнула большую ўвагу на Каталіцызм (Сусветнасць).

Для тых народаў, якія толькі нядаўна пачалі хрысціянізавацца, як гэта было на нашай Бацькаўшчыне, падзел Цэркваў яшчэ доўгі час быў незаўважальным. Адносіны з Рымам доўгі час у нас былі гэткія самыя, як і раней, імя рымскага патрыярха-папы і далей успаміналася на богаслужэнні, папскія паслы прыходзілі да князёў, князі высылалі сваіх паслоў у Рым. Да самага XIII в. нашы князі свабодна ўваходзілі ў сужэнскія звязкі з заходнімі князямі як адзінавернымі без ніякіх засцярогаў з боку Рыма.

Епіскапы-грэкі на нашых абшарах бачылі добра гэтае, на іх пагляд «неправаслаўнае», становішча і стараліся супрацьдзейнічаць, выдаючы пару пасланняў супроць «латынян», але поспех іх быў малы. Тым больш што падзел Цэркваў адбыўся якраз тады, калі Кіеўская мітраполія была ў нязгодзе з Візантыяю з-за мітрапаліта Іларыёна.

Гэтыя факты для пазнейшых расейска-праваслаўных летапісцаў былі зусім не даспадобы, таму яны іх абмінаюць маўчанкаю. Сапраўды вельмі дзіўна, што нават аб першых епіскапах на Беларусі не маем ніякіх вестак. Амаль усе гісторыкі дагадваюцца, што на абшары Беларусі з найдаўнейшых часоў мусілі быць тры епархіі: Полацкая, Тураўска-Пінская і Смаленская. Да найстарэйшых епархіяў належыць Полацкая. Сапуноў на аснове паважных фактаў устанаўляе дату заснавання Полацкае епархіі на 992 г. Але дзіўна, што першы епіскап, аб якім успамінаюць летапісы, ёсць Міна, які быў хіратанізаваны ў Кіеве 13.XII.1105 г. Аб папярэдніках няма ні слова, толькі ў жыццяпісе св. Еўфрасінні гаворыцца, што тыя папярэднікі былі.

Тое самае бачым і ў Смаленку. Першым епіскапам, аб якім находзім весткі ў летапісе, быў грэк Мануіл Кастрат (1137—1169), а епіскапы ўжо напэўна былі ў 1101 г. і служылі ў каменнай царкве Багародзіцы.

Аб Тураве яшчэ менш вестак знайшлося ў летапісах. Толькі св. Кірыл Тураўскі (1130—1182), дзякуючы сваёй небудзённай славе, заслужыў на ўспамін.

Можна думаць, што мусіла быць нешта не даспадобы пазнейшым чужым летапісцам у асобах першых епіскапаў, калі не ўспамянулі аб іх. На жаль, старыя беларускія летапісы, якія маглі б выясніць не адну загадкавую для нас справу, загінулі ў Полацку пад час заняцця яго Іванам Грозным у 1563 г.

У сціслым звязку з пашырэннем хрысціянства стаіць пашырэнне царкоўнага мураванага будаўніцтва. Да найстарэйшых памятак нашае архітэктуры адносіцца Благавешчанская царква «на ніжнім замку» ў Віцебску, пабудаваная, магчыма, у канцы X або ў XI веку і адноўленая Альгердам у XIV в. У Полацку найстарэйшаю каменнаю царквою мусіла быць царква Багародзіцы, пабудаваная ў 1007 г.; туды былі перанесены целы князёў Ізяслава і Усяслава Ізяславіча. У тым жа Полацку ў канцы XI в. быў збудаваны Сафійскі сабор, каля 1150 г. — Барысаглебскі сабор і Пятніцкая капліца Бельчыцкага манастыра, каля 1161 г. — Спаса-Еўфрасіннеўская царква.

У Смаленску найстарэйшаю мураванаю царквою была царква Багародзіцы, аб якой успамінаецца ўжо ў 1101 г., а наступная — царква Архангела Міхаіла, пабудаваная ў 1191—1194 гг.

У Горадні да найстарэйшых мураваных памятак належыць Каложская царква, пабудаваная ў XI або, найпазней, у XII в.

Варта асаблівае ўвагі, што гэтыя святыні будаваліся беларускімі дойлідамі. На жаль, пайменна ведамы толькі полацкі дойлід Іван, аб якім успамінаецца ў жыццяпісе св. Еўфрасінні. Яны сведчаць вельмі вымоўна, які паважны крок ужо ў XI веку зрабілі нашы продкі пад уплывам хрысціянства і як у пары з духовым развіццём ішла наперад матэрыяльныя культура народа.

Няма найменшага сумніву, што адначасна з пашырэннем хрысціянства паўставалі на абшарах Беларусі манастыры. Ужо ў канцы X в. мусіў быць дзесьці ў Полацку або каля

Полацка якісьці манастыр, у які ўступіла Рагнеда. У XI в. мусілі быць манастыры ў Полацку, Смаленску і Тураве. Таму варта звярнуць увагу на манастыры, што яны ў нас былі першымі школамі і рассаднікамі кніжнае асветы. Там не толькі навучаліся грамаце, але там жа перапісваліся кнігі, рыхтаваліся кадры архірэяў і святароў, там і князі мелі сваіх дараднікаў.

Вось такія нешматлікія весткі, якія дайшлі да нас адносна пачатку хрысціянізацыі нашае Бацькаўшчыны. Адгэтуль відаць, як мала яшчэ даследжана нашае мінулае і як шмат ёсць там пытанняў, якія чакаюць сваіх даследнікаў, якія б шчырым сэрцам адкрылі праўду, незалежна ад таго, ці падабаецца яна каму, ці не.

Беларускі народ прыняў хрысціянства ў візантыйскім абрадзе і таму спачатку фармаваў сваю набожнасць паводле візантыйскіх рэлігійных традыцый, у якіх культ Багародзіцы пасля перамогі над іканаборчаю ерассю быў моцна развіты. Дзеля гэтага асаблівая пашана да Багародзіцы на Беларусі такая даўняя, як і само хрысціянства. Пераважная большасць першых цэркваў, пабудаваных у беларускіх гарадах, былі прысвечаны Багародзіцы. Праўдападобна, самая першая царква на Беларусі, якая была збудована ў Полацку дзесь у канцы X ст., была Багародзічная. Аб ёй у 1007 г. кажацца, што яна «старая». У Тураве пабудована першая царква ў канцы X ст. у гонар св. Спаса, але хутка, у тым жа X ст., пабудована другая царква ў гонар Багародзіцы. У Пінску паводле мясцовае традыцыі мела быць у канцы X ст. Багародзічная царква пры Ляшчынскім манастыры.

У наступным XI ст. першыя цэрквы ў гонар Багародзіцы з'явіліся ў гарадах: Віцебску — Дабравешчанская, Драгічыне — Багародзічная (зруйнаваная ў XIII ст. мечаносцамі), Камянцы — Дабравешчанская, у Мельніку — Багародзічная. У XII ст.: у Смаленску (1101) — Успення Багародзіцы і некалькі цэркваў невядомага прысвячэння, аб якіх нічога не кажацца ані ў летапісах, ані ў пераказах, хоць яны былі збудаваныя ў XII ст., але аб іх ведама толькі з археалагічных раскопкаў (Менск, Горадня, Драгічын).

Пад час заснавання епіскапскіх пасадаў князі звычайна выдавалі так званыя ўстаноўчыя граматы, якія з'яўляюцца вельмі вымоўнымі дакументамі адносна культу Багародзіцы ў тых часах. У грамаце князя Уладзіміра з 1005 г. аб устанаўленні Тураўскае епархіі кажацца: «...и пставихъ первого епископа Фому, и придахъ села, винограды, земли бортныя, волости со всеми придатки... Святому Спасу и Святей Богородице». Гэтая грамата захавалася толькі ў Кіева-Пячэрскім Патэрыку архімандрыта Трызны (1647—1656). Устаноўчая грамата смаленскага князя Расціслава Мсціславіча з 1150 г. некалькі разоў падчырквае, што ўтрыманне, якое князь абавязваецца даваць епіскапу, ёсць быццам данінаю для Багародзіцы: «А се даю святен Богородици и епископу десятину от всех даней Смоленских... Яз, грешны сын Мьстиславль, надеялся на матерь божью, на святую Богородицу, уставляю сию епископью»[16].

На жаль, не захавалася ўстаноўчае граматы полацкага князя, але можна дагадвацца, што яна была падобнаю да Тураўскае і, магчыма, нават служыла ўзорам для смаленскага князя, паколькі была значна старэйшаю.

З боку вернікаў ад найдаўнейшых часоў праяўлялася вялікае зацікаўленне да асобы Марыі. Дзеля гэтага калісь былі шырока распаўсюджаны розныя апокрыфы з жыцця Багародзіцы, у якіх нашы продкі шукалі дапаўнення тых скупых вестак з жыцця Багародзіцы, якіх няма ў Евангеллях. І так шырока былі вядомы ў старой беларускай літаратуры XII—XIV стст. апокрыфы: «Як хадзіла Багародзіца па муках», «Слова Івана Багаслова аб усыпенні Багародзіцы», апакрыфічнае «Першаевангелле Якава» аб дзяцінстве Багародзіцы і яе бацьках.

Следам за апокрыфамі з'явілася шмат чыста беларускіх вусных народных твораў адносна Багародзіцы: казак і легендаў, у якіх Марыя выступала галоўнаю дзеючаю асобаю або сама, або разам з Хрыстом. У гэтых казках адлюстроўваецца пагляд, што заступніцтва Марыі прычыняецца да ўласкаўлення некаторых грэшнікаў. Напрыклад, у адной казцы аб канцы свету кажацца, што на Страшным Судзе Багародзіца будзе аж тройчы прасіць свайго Сына, каб злітаваўся над меншымі грэшнікамі, і за кожным разам Ісус Хрыстос будзе выслухоўваць яе просьбу, мілаваць некаторую частку грэшнікаў. Толькі пасля трэцяе просьбы пашле рэшту грэшнікаў на вечныя мукі. У іншай казцы гаворыцца, што Багародзіца аднойчы зрабіла ў райскім агародзе бяздонную студню аж у пекла і праз яе тайком перацягвала пакутнікаў на неба. Асабліва прыгожая казка «Марка пякельны» апавядае, што аднойчы Хрыстос з Марыяю ў выглядзе старэнькіх падарожнікаў былі хрышчонымі бацькамі ў аднаго вельмі беднага селяніна і потым запрасілі свайго хросніка Марка да сябе ў госці. Марка ехаў у госці, сам не ведаючы куды, праз пекла ў рай. Па дарозе бачыў усялякія мукі, а ў раі — шчаслівае жыццё. Хрыстос і Багародзіца яго шчодра частавалі і выправілі назад на гэты свет з наказам, каб навучаў людзей жыць па-хрысціянску, каб яны не траплялі на вечныя мукі ў пекла. Нямала ёсць іншых казак, у якіх Багародзіца прадстаўляецца як турботная Маці, якая ніколі не забываецца аб сваіх духовых дзецях на гэтым свеце.

Ёсць таксама шмат беларускіх загадак і прыказак, у якіх успамінаецца Багародзіца.

У абрадавых і бытавых беларускіх народных песнях вельмі часта выступае Багародзіца ў вобразе Маці, якая спяшаецца на помач туды, дзе людзі самі ўжо нічога не могуць. Дзеля гэтага амаль кожнае багародзічнае свята на Беларусі суправаджалася нейкімі асаблівымі пазалітургічнымі абрадамі.

На Грамніцы (2 лютага) у каталіцкіх і праваслаўных святынях свянцалі свечкі, якія потым запальвалі пад час розных хатніх урачыстасцяў: пад час вячэры на Куццю, на Дзяды, а таксама іх давалі ў рукі ўміраючым як знак шчырага жадання пад апекаю Багародзіцы і з святлом грамнічнае свечкі дайсці непамыльна ў валадарства Багародзіцы — у неба.

На Дабравешчанне (25 сакавіка) у некаторых ваколіцах Беларусі захоўваўся старадаўні звычай «клікаць вясну». Гэта звычай з дахрысціянскіх часоў, які прыстасаваўся да ўслаўлення Багародзіцы ў карагодных песнях. Варта ўспомніць, што ў гэты дзень усюды ўстрымоўваліся ад працы, хоць звычайна якраз тады пачынаюцца гарачыя веснавыя работы ў полі. Прыказка кажа, што «На Дабравешчанне нават і птушкі гнязда не ўюць».

На Успенне Багародзіцы, якое папулярна называецца Першая Прачыстая (15 жніўня) пасля службы Божае ў цэрквах свянцалі розныя зёлкі разам з каласамі збожжа. Потым зёлкі ўжывалі як лекі, а каласы збожжа захоўвалі да часу сяўбы і тады іх выціралі ў сявеньку ды першаю жменяю сыпалі ў раллю.

На Другую Прачыстую — Раство Багародзіцы (8 верасня) асаблівых абрадаў няма, але гэты дзень лічыцца пачаткам асенняе сяўбы, і да таго ў кліматычных умовах Беларусі звычайна тады пачынаецца масаваеападанне лісця. Таму і кажацца ў прыказцы: «Прыйшла Прачыстая, усё паціснула».

На Пакровы (1 кастрычніка) апошні раз выганяюць на пашу каровы.

Амаль усе багародзічныя святы ўвайшлі ў беларускі народны каляндар і ў гаспадарчыя прыметы. Вось некаторыя з іх: «На Граманіцы палавіна зіміцы», «Калі на Граманіцы певень пад плотам нап'ецца вадзіцы, дык на Юр'я вол наесца травіцы», «Калі на Граманіцы капае з страхі, не

спадзявайся ў леце пацехі», «Прыйшоў Багач (8 верасня), кідай рагач (саху), бяры сявеньку і сей памаленьку», «Прыйшоў Багач, рыкнуў рагач, прыйшла Пакрова, рыкнула карова», «На святыя Пакровы будзь к зіме гатовы», «На Пакровы заганяй у хлеў каровы».

Падобна як у шматлікіх хрысціянскіх краінах, так і на Беларусі вернікі ўважаюць Багародзіцу за заступніцу і хадайніцу перад Богам у атрымоўванні ласкаў, якіх ніхто іншы вымаліць не можа. Праўда, з гэтага пункту гледзішча на Беларусі, як і ва ўсім свеце, вернікі найчасцей звяртаюцца да Бога ў момант вялікага цярпення. Ведама: як трывога, дык да Бога. І ў гэтых выпадках плывуць асабліва гарачыя малітвы аб помачы праз пасрэдніцтва Багародзіцы. У час эпідэміяў, засухаў, пажараў ці іншых стыхійных няшчасцяў звяртаюцца да Багародзіцы як да найлепшае Маці і апошняга ратунку. У некаторых няшчасцях гэтыя малітвы суправаджаюцца асаблівымі абрадамі. Напрыклад, у час пажараў, калі да гэтага далучаецца вецер і паўстае пагроза пашырэння пажару, абносяць навокал загароджаных будынкаў ікону Багародзіцы, прамаўляючы пры гэтым багародзічныя малітвы.

У візантыйскай рэлігійнай традыцыі пасля іканаборчае ерасі (VIII—IX стст.) была моцна развіта пашана да іконаў. З гэткаю азнакаю хрысціянства з'явілася на беларускіх абшарах у канцы X ст., і мясцовая традыцыя кажа, што ў тым часе ўжо была цудатворная ікона Багародзіцы ў Заслаўі. А ў XII ст. вядомыя цудатворныя багародзічныя іконы былі: у Смаленску — Адзігітрыя — ад 1103 г., Уміленне — ад 1103 г., Свірская — ад 1195 г., у Полацку — Корсунская — ад 1128 г., у Купяцічах — ад 1182 г., у Пустыні каля Мсціслаўя — Патрыяршая, у Бары каля Усвяты — Цэзарская. У далейшым лік цудатворных іконаў Багародзіцы на Беларусі ўсцяж павялічваўся і асабліва ўзрос пасля таго, як амаль уся Беларусь стала каталіцкаю пасля Берасцейскае рэлігійнае уніі. У XVII ст. уславіліся цудамі багародзічныя іконы ў Баркулабаве, Будславе, Вольнай, Гавязне, у в. Забелы, Казіміраўцы, Каложы каля Горадні, Кодне, Кашубінцах, Лясной, на Крэстагорскім полі каля Менска, у Ракаве, Рудні, Старчыцы і Эйсмонтах. Да таго больш дваццаці старых цудатворных іконаў губляюць свой пачатак у сівой мінуўшчыне.

Усяго на Беларусі перад першаю сусветнаю вайною было ведама шэсцьдзесят цудатворных багародзічных іконаў і адна статуя. Некаторыя з іх былі шырокавядомыя не толькі на Беларусі, але і ў суседніх краінах. Шмат беларускіх цудатворных багародзічных іконаў было каранована 19 верасня 1730 г. у прысутнасці нарочнага пасланніка папы Клімента XII на «Каралеву беларускага народа».

Святыні, дзе знаходзяцца цудатворныя іконы, ёсць месца прошчаў; туды сходзяцца паломнікі з блізкіх і далёкіх ваколіц. Асабліва годны ўвагі факт, што перад цудатворнымі іконамі можна было часта бачыць, як поруч моляцца і праваслаўныя і каталікі, незалежна ад таго, у якой святыні гэтая ікона знаходзілася. У праваслаўных і ўсходнекаталіцкіх святынях, акрамя літургічна прыпісаных абразоў Багародзіцы, быў яшчэ абраз Божае Маці, умацаваны стоцьма на невялічкім століку ў форме пераноснага алтарыка. На адваротным баку была ікона Хрыста або патрона царквы. Гэты пераносны алтарык заўсёды насілі пад час працэсій на двух дручках чатыры дзяўчыны, і вернікі складалі на гэты столік перад абразом Багародзіцы свае ахвяры.

Ды не толькі святыні, але кожная беларуская хата да 1917 г. мела шмат абразоў святых і між імі абавязкова быў абраз Багародзіцы. З гэтага гледзішча і каталікі і праваслаўныя беларусы нічым не розніліся між сабою. Усюды абразы абавязкова завешваліся прыгожа вышытымі ручнікамі — набажнікамі, а ў некаторых ваколіцах, напрыклад на Случчыне, абраз устаўляўся ў мастацка выробленыя бажніцы.

Калі бацькі выпраўлялі дзяцей да шлюбу, або ў вялікую дарогу, ці на вайну, дык найчасцей багаслаўлялі іх іконаю Багародзіцы, сімвалічна выказваючы гэтым абрадам, што перадаюць сваіх дзяцей у апеку Нябеснае Маці. Гэта быў глыбока ўзрушаючы момант — калі сын станавіўся на калені перад бацькамі, а маці здымала абраз з набожнікам, акружала ім тройчы галаву сына, вымаўляючы пры гэтым словы багаславенства, давала яму пацалаваць абраз, і толькі пасля гэтага самі бацькі цалавалі сваё дзіця.

З дагматычнага гледзішча культ Багародзіцы на Беларусі азначаўся тым, што ад даўніх часоў была агульна распаўсюджаная вера ў непарочнае зачацце Марыі. Праўда, гэтая вера была верным захаваннем старых візантый-

скіх традыцый, паводле якіх у літургічных тэкстах Марыя называлася: «Прачыстая», «Пренепорочная», «Нескверная», «Пронареченная», «Едино Непорочная», «Новое Небо», «Адзіна Бязгрэшная» і падобнае. Паводле гэтае традыцыі, Багародзіцу беларусы называлі проста Прачыстаю і гэтым словам азначалі святы Успення Багародзіцы (Вялікая, або Першая Прачыстая) і Нараджэння Багародзіцы (Малая, або Другая Прачыстая). Беларускія багасловы захоўвалі верна гэтую традыцыю нават між праваслаўных і ў часе дагматычных спрэчак між каталікамі і праваслаўнымі. Напрыклад, 2 лютага 1650 г. заснавалася ў Полацку праваслаўнае брацтва моладзі, якое ў сваім статуце вымагала ад братчыкаў, каб яны пасвячалі сябе Непарочнаму Зачаццю Найсвяцейшае Дзевы Марыі. Варта зазначыць, што статут гэтага брацтва зацвердзіў 10.VI.1651 г. магілёўскі праваслаўны епіскап Іосіф Канановіч-Гарбацкі (1650—1653), які перад тым быў нейкі час прафесарам і рэктарам Магілянскае акадэміі. І яшчэ што варта ўвагі: епіскап Іосіф перад сваёю хіратоніяю даў пісьмовае забавязанне мітрапаліту «старацца аб тым, каб у нашым народзе расцвіталі навукі для асветы моладзі, каб яна магла быць апірышчам і служыць святой Усходняй Царкве, распаўсюджваючы славу Божую і захоўваючы праваслаўе». Відавочна, для дасягнення гэтае мэты мела служыць новазаснаванае брацтва з культам непарочнага зачацця Багародзіцы.

Калі ў Маскоўшчыну пад уплывам пратэстантызму пачалі пранікаць фальшывыя пагляды адносна Багародзіцы, дык у абарону непарочнага зачацця выступіў выдатны беларускі вучоны, які працаваў у Маскве, Сымон Полацкі (1629—1680). Свае пагляды ён выказаў у кнігах: «Жезл правления» і «Вечеря душевная», у якой, між іншым, чытаем: «Пречистая Дева Мария чиста есть... яко свободная отъ всякия вины греховныя, отъ всякого порока душевного, чиста отъ греха, иже волею Адамлею содеяся, и въ нас чрез рождения приходит, и именуется грех первородный. И того бо, по некиим умствованию прежде зачатия си очистися». На жаль, у пазнейшым жыцці Праваслаўнае Царквы на Беларусі прасякнулі пратэстанцкія ўплывы адносна непарочнага зачацця і іншых багародзічных праўдаў веры. Праўда, гэта сталася пасля прылучэння Беларусі да Расеі. Аднак пакуль на Беларусі існавала Усходнекаталіцкая

Царква, культ Багародзіцы ўвесь час праяўляўся вельмі моцна ў народным жыцці. Тварыліся шматлікія багародзічныя песні, якія спяваліся і ў святынях, і ў хатах. Некаторыя з іх былі надрукаваныя ў т. зв. Багагласніках, а некаторыя распаўсюджваліся як вусная народная творчасць.

Багародзічныя праўды веры ў Каталіцкай Царкве развіваюцца адпаведна з агульнымі прынцыпамі развіцця догмаў, і гэтае развіццё ў свой час знаходзіла вымоўнае адлюстраванне ў беларускім рэлігійным жыцці. З даўніх часоў у цэрквах усходняга абраду на вялікіх іканастасах на цэнтральныя месцы ў трэцім ярусе заўсёды ўмяшчалі Багародзіцу з Спрадвечным Дзіцем, а ў XVIII ст. на гэтым месцы пачалі маляваць укаранаванне Багародзіцы. Наогул ажыўлены культ Багародзіцы на Беларусі выяўляўся такжа ў павелічэнні колькасці цэркваў і капліцаў, прысвечаных Багародзіцы.

Скасаванне Усходнекаталіцкае Царквы ў 1839 г. адбілася вельмі адмоўна на рэлігійным жыцці беларускага народа наогул, а тым самым і на кульце Багародзіцы, бо ў тым часе ў Расейскай Праваслаўнай Царкве моцна адчуваўся пратэстанцкі ўплыў. Характэрна, напрыклад, што перад першаю сусветнаю вайною трэцяя частка каталіцкіх святыняў лацінскага абраду на Беларусі была прысвечана Марыі, праваслаўных жа святыняў — менш чым чацвёртая частка.

У канцы варта зазначыць, што беларусы ў сваёй набожнасці да Найсвяцейшае Дзевы Марыі лічаць Яе не толькі пасрэдніцаю невычарпальных Божых ласкаў, заўсёднаю заступніцаю, але такжа глядзяць на Яе як на найбольш велічны ўзор хрысціянскага жыцця. Калісь, у дачасным жыцці, Марыя самааддана служыла Богу, ахвяруючы сябе самую для выконвання Божае волі, а ў канцы ахвяравала свайго Боскага Сына для збаўлення свету. Так і беларуская жанчына-маці, ідучы за прыкладам Марыі, лічыць ахвярнасць неабходнаю ўмоваю суладнага сямейнага жыцця, таму і малітвы да Багародзіцы суправаджае рознымі ахвярамі.

Сёння, калі паўсюдна збольшваецца пашана да Багародзіцы, варта звярнуць увагу на выяў пашаны беларускага народа да Багародзіцы ў мінулым. Адным з вымоўных выяваў гэтае пашаны ёсць вялікая колькасць слаўных іконаў і абразоў, да якіх штогод сходзіліся вернікі з бліжэйшых і далейшых ваколіцаў, каб аддаць паклон Богу праз пасрэдніцтва найсвяцейшае Заступніцы. Вось іхні спіс у альфабэтным парадку:

*Балыкінская* ікона Божае Маці знаходзілася ў в. Мазалеўшчына, за 13 км ад Мсціслаўя. Уславілася аздараўленнем хворых. Паходжанне няведамае. Святкаванне 30 чэрвеня і на Дзесятуху (дзесятая пятніца па Вялікадні). Копіі гэтае іконы знаходзіліся: у Мсціслаўскім жаночым манастыры, у Старадубе, у Новых Баровічах і ў Маскве.

*Баркулабаўская.* Паходзіць з XVII ст. і да вайны знаходзілася ў Буйніцкім Святадухавым манастыры, за 7 км ад Магілёва. Яе меў падараваць туды князь Пажарскі, калі праходзіў з маскоўскім войскам праз Беларусь. Святкаванне 11 ліпеня. Цяпер знаходзіцца ў Стара-Быхаўскай царкве.

*Барунская.* Знаходзілася ў Барунскім манастыры Ашмянскае акругі на Віленшчыне. Дня святкавання не мае.

*Беластоцкая.* Да апошняе вайны яна знаходзілася ў Беластоцкім манастыры. Дня святкавання не мае.

*Белацаркоўская.* Знаходзілася ў Троіцкай Белацаркоўскай парахвіяльнай царкве Сенненскае акругі ў Магілёўшчыне. Дня святкавання не мае.

*Будслаўская.* Паходзіць з XVII ст. Знаходзілася ў мясцовай парахвіяльнай царкве ў капліцы св. Барбары на галоўным алтары.

*Бялыніцкая.* Яна ведамая з XIII ст. і выяўляе Божую Маці: на левай руцэ Яна трымае Дзіцятка Ісуса, а ў праавай — скіпетр. Да вайны знаходзілася ў мужчынскім Мікалаеўскім манастыры ў Бялынічах, за 30 км ад Магілёва. Уславілася шматлікімі цудамі. Святкаванне 12(25) красавіка.

*Вальнянская.* Ікона даволі старая і знаходзілася ў Святатроіцкай царкве Менскае епархіі. Пры царкве была хроніка з запісамі цудаў ад 1660 да 1701 гадоў. Дня святкавання не мае.

*Васількаўская.* Паходзіць з XV ст. і прадстаўляе Багародзіцу ў маліцвеннай паставе з мячом у грудзях. Адносна яе паходжання ёсць такі пераказ. Якогась жабрака Васіля пакінула ягоная дачка-праваднíца ў лесе каля в. Васількаў



**Полацк. Верхні замак. Канец XIX ст.**

5 Зак. 1338




**Спасаўская вуліца ў Полацку з відам на Мікалаеўскі сабор. Пачатак XX ст.**



**Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр з боку ракі Палаты.**



Кіеў развітваецца з мошчамі святой Еўфрасінні. Красавік 1910 г.



**Святары нясуць раку з мошчамі ў ваколіцах Полацка. 21 траўня 1910 г.**



**Сустрэча мошчаў святой Еўфрасінні на мяжы горада.**



**Хросны ход на Чырвоным мосце ў Полацку.**



**Унясенне мошчаў у Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр.**



Полацк. Віцебская вуліца з відам на Мікалаеўскі сабор і помнік воінам 1812 года (знішчаны ў 1932 г.).




**Сілуэты полацкага сярэднявечча.**



**Полацкі Мікалаеўскі сабор (колішні сабор святога Стэфана). Узарваны ў 1964 г.**

Полоцкъ. Часовня по дорогѣ въ Спасо-Евфросиніевскій монастырь.

**Капліца па дарозе ў Спаса-Еўфрасіннеўскі манастыр. Не захавалася.**

Видъ на Спасо-Ефросиньевскій монастырь, изъ за рѣки Полоты.

**Манастырская ідылія. Пачатак XX ст.**



**Царква святой Еўфрасінні Полацкай у горадзе Саўт-Рывэр, ЗША.**

**«Святая Еўфрасіння Полацкая». Праца беларускай мастачкі з ЗША Галіны Русак.**

за 10 км ад Беластока. Ноччу яму з'явілася ў сне Божая Маці і загадала раскапаць пясок на тым месцы, дзе ён спаў, і знойдзенаю там вадою прамыць вочы. Ён так зрабіў і пачаў бачыць. Пры тым ён быў моцна здзіўлены, што перад ім на дрэве знаходзіўся абраз Багародзіцы якраз такі, які бачыў у сне. Над раскапанаю ямаю ён збудаваў будку і там паставіў абраз. Потым на тым месцы пабудована дзераўляная царква, а ў 1864 г. — каменная. Святкаванне 24 кастрычніка, 16 лістапада і на Дзесятуху.

*Васькаўская.* Яе знайшоў Іван Дзядзько каля 1760 г. на дзікай грушы на абтоку Васькава каля в. Малішковічы над Прыпяццю ў Мазыршчыне. На месцы знаходкі мясцовы памешчык Казімер Аскерка пабудаваў Крыжаўздвіжанскую царкву. Потым арыгінал іконы перанесены ў Ельскую Троіцкую царкву, а ў Васькаве асталася копія. Святкаванне ў Праводную нядзелю.

*Віленская* Адзігітрыя (правадырка па шляхах). Паводле легендарнага пераказу, яе намаляваў апостал Лука, і яна доўгі час знаходзілася ў візантыйскіх імператараў як сямейная святасць. Калі Сафія, апошняя прадстаўніца з роду візантыйскіх Палеалогаў, выходзіла ў 1472 г. замуж за маскоўскага вялікага князя Івана III (потым цара), дык прынесла яе з сабою ў Маскву. У 1495 г. Іван III, выдаючы сваю дачку Алену замуж за вялікага князя Аляксандра, багаславіў яе тою іконаю. Па смерці Алены ікона была пастаўлена на яе грабніцы ў Прачысценскім саборы ў Вільні. Потым яна была перанесена ў Святатроіцкі манастыр і памешчана ў іканастасе. На жаль, у 1864 г. акадэмік Васільеў перамаляваў яе, пакрываючы стары малюнак тоўстым пластом хварбы. Намалявана ікона на чатырох дошках, з іх сярэднія — кіпарысавыя, а крайнія — бярозавыя. Святкаванне 14(27) красавіка.

*Віленская Вастрабрамская.* Адносна яе паходжання ёсць два пераказы. Адзін кажа, што быццам яе ўзяў з Корсуня вялікі князь Альгерд у 1363 г., куды зайшоў з сваім войскам. Вярнуўшыся ў Вільню, ён перадаў ікону жонцы Юльяне, а яна ў сваю чаргу перадала яе ў Троіцкі манастыр. Іншы пераказ цвердзіць, што ікона з'явілася на гарадской браме 14 красавіка 1431 г. немаведама адкуль. На іконе Маці Божая намаляваная без Дзіцятка Ісуса. На Усходзе пастановаю Эфескага сабора такія іконы былі забаронены, таму яе паходжанне трэба шукаць на Беларусі, бо і самыя рысы аблічча Бага-

6 Зак. 1338

маці не маюць нічога ўсходняга — гэта прыгожае беларускае абліčча. Ад 1431 г. ікона знаходзілася ў Вострай Браме гарадское сцяны. У 1498 г. была пабудована навокал Вільні новая абаронная сцяна, тады над Востраю Брамаю была збудавана вялікая вежа, а ў ёй — капліца, і туды перанесена ікона. Агулам гісторыя Вастрабрамскае іконы, як і гісторыя Вільні, вельмі багатая і не раз трагічная. Немагчыма яе тут пераказаць нават у скароце. Шматлікія цуды, што дзеяліся каля яе, зрабілі яе шырокаведамаю па ўсёй Беларусі і ў суседніх краінах. Сьвяцейшыя Айцы Клімент XIV і Пій VI прызналі спецыяльныя адпусты за ўдзел у богаслужэннях на чэсць Вастрабрамскае Божае Маці, а з багаславенства папы Бенедыкта XIV віленскі біскуп Зянкевіч 8 верасня 1750 г. карануе яе прысланаю з Рыма каронаю. У канцы XVIII ст. пашана да іконы была такая вялікая, што ўсе, хто праходзіў ці праязджаў праз Вастрабрамскую вуліцу (нават іудзеі), здымалі шапкі. Гэты звычай стаўся законам на аснове распараджэння расейскага генерал-губернатара з 1795 г. За часы польскае акупацыі ікона каранавалася яшчэ другі раз, але ўжо на «Каралеву польскае кароны» — супраць такога надужвання рэлігійных святасцяў беларусы не мелі магчымасці нават галасна запратэставаць. Аб сучасным стане гэтае цудатворнае іконы даходзяць супярэчныя весткі.

*Віцебская — Казанская.* Паходзіць з 1521 г. Сьвяткаванне 8 ліпеня.

*Гавезнянская.* Паходзіць, праўдападобна, з XVII ст. З'явілася сялянам Рыгору, Ганне і Раісе каля мястэчка Гавязна, і на тым месцы была пабудована царква, у якой была хроніка апісаных цудаў ад 1692 г. да 1829 г. Дня сьвяткавання не мае.

*Гарадышчанская,* або *Шкаплерная.* Паходзіць з 1473 г. Маці Божая намаляваная без Дзіцятка і мае сем мячоў у сэрцы. Перш належала да шкаплернага брацтва, а потым была ў парахвіяльнай царкве ў Гарадышчы каля Пінска. Дня сьвяткавання не мае.

*Гарбацэвіцкая.* Яе знайшоў на пачатку XVIII ст. селянін Каўтун у лесе на ліпавым дрэве каля мястэчка Гарбацэвічы. Там была пабудована царква. Потым ікона перахоўвалася ў Рызапаложнай царкве Менскае епархіі. Дня сьвяткавання не мае.

*Гаруцінская.* Паходжанне яе няведамае. Да 1851 г. знаходзілася ў Гаруцінскай царкве, а калі яе зачынілі па прычыне старасці, дык ікону перанеслі ў Петрапаўлаўскую

Старжынскую царкву Менскае епархіі. Мясцовы памешчык, цудоўна празрэўшы ля іконы, аздобіў яе сярэбранаю рызаю. Дня святкавання не мае.

*Груздоўская.* Знаходзілася ў в. Груздава на Віленшчыне. Святкаванне 2(15) чэрвеня.

*Гудагоская* (XVIII ст.). Перш яна была ў манастыры босых кармелітаў, а потым перанесеная ў парахвіяльную каталіцкую царкву ў Гудагаях Ашмянскага раёна.

*Дзвінская.* Паводле традыцыі, яна мела быць уласнасцю св. Клімента, папы рымскага. З пашырэннем хрысціянства на Беларусі немаведама якім чынам яна знайшлася ў Дзвінску. А калі яго ў 1419 г. пустошылі мурманцы, адзін ваяка мячом пашкодзіў аблічча Багамаці на іконе. Потым яна была перавезена ў Расею аж у ваколіцы Архангельска. Святкаванне 25 лістапада.

*Дудзіцкая.* Яе знайшлі ў лесе на хвоі і там пабудавалі царкву. У 1891 г. царква згарэла разам з іконаю, але перш яшчэ з яе была зроблена копія, і яна знаходзіцца ў Пакроўскай царкве мястэчка Дудзічы Ігуменскае акругі.

*Жыровіцкая.* Яе знайшлі пастушкі на дрэве ў лесе ў 1470 г. Уславілася шматлікімі цудамі і 19 верасня 1730 г. з багаславенства папы Клімента XII была каранаваная на «Валадарку беларускага народа». Святкаванне 7(20) травеня.

*Забельская.* Паходзіць з XVII ст. На іконе Багародзіца намаляваная на ўвесь рост з Дзіцяткам на руках. Леваруч Багародзіцы крыж і св. Мікалай, а праваруч апосталы і святыя: Альжбета, Якім і Ганна. Адносна яе паходжання ёсць цікавы пераказ. У часе памору статка ў Случчыне селяніну з в. Забелы з'явілася ў сне Божая Маці і казала, каб ён аддаў на ўбой адзінага вала, што ў яго яшчэ астаўся, а шкуру каб занёс у Слуцк для намалявання іконы. Калі селянін з шкураю вала ўваходзіў у горад, яго пераняў мастак і, узяўшы шкуру, казаў, што ведае, з якім намерам селянін ідзе. Калі ікона была павешана ў Забельскай царкве, памор спыніўся. Дня святкавання не мае.

*Заслаўская.* Мясцовая традыцыя кажа, што гэтая ікона вельмі старая, аж з X стагоддзя, і мае сувязь з Рагнедаю. Знаходзілася ўвесь час у царкве Раства Багародзіцы ў Заслаўі Менскае акругі. Святкаванне 8(21) верасня.

*Казімерская.* Паходзіла, праўдападобна, з XVII ст. і знаходзілася ва Успенскай царкве мяст. Казімераўка на Менш-

чыне. З часоў уніі там быў манастыр, і ў манастырскай хроніцы былі запісаны цуды ад 1720 да 1764 г. Па скасаванні уніі ікона тайком была знішчана. Дня святкавання не мае.

*Каложская.* Гэта копія Віленскае Адзігітрыі, зробленая ў XVII ст. Да 1853 г. яна знаходзілася ў Каложскай царкве ў Горадні, а калі тая царква часткова абрушылася ў Нёман, ікону перанеслі ў Горадзенскі Барысаглебскі манастыр. Святкаванне 9(22) ліпеня.

*Каменская.* Знаходзілася ў Прэабражэнскай царкве ў в. Каменка Менскае епархіі. Дня святкавання не мае.

*Канковіцкая.* Ікона намаляваная на медным лісце. Яна знойдзена на ліпавым дрэве ля калодзезя ў в. Канковічы каля Петрыкава ды перанесена ў мясцовую царкву Раства Багародзіцы Менскае епархіі. На другім баку меднага ліста намаляваны Нерукатворны Спас. Дня святкавання не мае.

*Кашубінская* — паходзіць з XVII ст. і знаходзіцца ў парахвіяльнай царкве Непарочнага Зачацця Дзевы Марыі ў Кашубінцах Скідзельскага раёна.

*Клецкая.* Гэта старая ікона, якая ад няпамятных часоў знаходзілася ў Пакроўскай царкве, а потым была перанесена ў Васкрасенскую царкву. Калі ў часе шведскае вайны шведы ўвялі ў царкву коні, дык іх не маглі адтуль вывесці, і пакуль ваўтузіліся з коньмі, надышоў аддзел войска Рэчы Паспалітае і знішчыў шведаў. Дня святкавання ікона не мае.

*Кодэнская.* Знаходзіцца ў мястэчку Кодна над Бугам, яе туды прывёз з Рыма князь Мікалай Сапега ў 1620 г. Святкаванне 8(21) верасня.

*Корсунская-Эфеская.* Гэта ікона, якую на просьбу св. Еўфрасінні Полацкае прыслалі ў Полацк імператар Мануіл і патрыярх Лука. Паводле расейскіх гісторыкаў, гэтую ікону ў 1239 г. дачка полацкага князя Брачыслава, выходзячы замуж за маскоўскага князя Аляксандра Неўскага, перанесла ў Тарапец, дзе яна і асталася. Паводле іншых вестак, запісаных у Кульчыцкага, ікону забраў галіцкі князь Леў і перанёс у Бэльзу, адкуль у 1389 г. яе перанеслі ў Чэнстахову, але аб паходжанні Чэнстахоўскае іконы ёсць яшчэ два іншыя пераказы. Святкаванне 9(22) кастрычніка.

*Краснатоцкая.* Паходзіць з XVI ст. і знаходзілася ў Краснатоцкім жаночым манастыры Сакольскага раёна Гарадзенскае акругі. 7.X.1877 г. уславілася выцячэннем міра. Святкаванне 7(20) кастрычніка і на Сёмуху.

*Крупецкая.* Да 1612 г. знаходзілася ў капліцы каля в. Крупіцы, за 5 км ад Менска. Потым была перанесена ў мясцовую Пакроўскую царкву. Уславілася аздараўленнем шматлікіх хворых. Святкаванне 1(14) лістапада.

*Крывіцкая.* Яе паходжанне няведамае. Да вайны знаходзілася ў парахвіяльнай каталіцкай царкве ў лідскіх Крывічах Жалудоцкага раёна. На іконе адлюстравана Непарочнае Зачацце Дзевы Марыі.

*Крыпненская.* Паходзіць з XIX ст. Знаходзілася ў каталіцкай парахвіяльнай царкве Нараджання Дзевы Марыі і ў в. Крыпна Кнышынскага раёна.

*Купятыцкая*, яна такжа называецца *Крыж Багародзіцы.* Гэта невялікі бронзавы крыж, пасярэдзіне якога рэльефна выступае постаць Багародзіцы з Боскім Дзіцяткам на левай руцэ, а ў канцавінах крыжа выступаюць абразы Бога-Айца, Збавіцеля і Багародзіцы без Дзіцятка. Знайшла гэты крыж у 1182 г. дзяўчынка Ганна ля в. Купятычы Пінскае акругі ў лесе, дзе пасвіла статак. На месцы знаходкі пабудавалі царкву, калі потым татары царкву спалілі, дык крыж на некаторы час знік, і толькі па некалькіх гадах знайшоў яго падарожны Якім. У 1629 г. у Купятычах паўстаў манастыр, і крыж знаходзіўся ў манастырскай царкве. Потым манахі яго перанеслі ў Кіеў, а ў часе апошняе вайны ён знайшоўся на эміграцыі ў праваслаўным манастыры каля Мюнхена. Святкаванне 15(28) лістапада.

*Літвянская.* Аб ёй няма дакладных вестак. Да вайны знаходзілася ў царкве Раства Багародзіцы ў в. Літвяны Менскае епархіі. Дня святкавання не мае.

*Ляданская.* Яна з выгляду падобная да Жыровіцкае. Аб яе паходжанні ведама, што на пачатку XVIII ст. гэтую ікону падарыла ў Дабравешчанскі манастыр у Ляданску Менскае епархіі жонка тагачаснага менскага ваяводы Тэрэза Тышкевіч. Там ікона ўславілася цудамі. Дня святкавання не мае.

*Ляснянская.* Яе знайшоў пастух Аляксандр Стальмашук 14 верасня 1683 г. у густым лесе ля в. Лясная Бельскае акругі на Гарадзеншчыне, дзе ён пасвіў каровы разам з сваімі сябрамі. Ікона выразана на цёмным чырвоным камені авальнае формы. Ад пастуха ікону забраў мясцовы пан, але пасля некалькіх няшчасных здарэнняў у сям'і ён перадаў яе ў царкву ў в. Буковічы каля Лясное. Ля іконы пачалі дзеяцца шматлікія цуды. Святкаванне 14(27) верасня і на Сёмуху.

*Малакакарміліца.* Яна знойдзена ў 1650 г. на Крэстагорскім полі за 22 км ад Менска, дзе потым пабудована царква Успення Багародзіцы. Яе заступніцтву ўдзячныя за выбаўленне ад няшчасцяў пад час шведскае вайны і шматлікія аздараўленні. Святкаванне 15(28) жніўня.

*Мар'інагорская.* Мясцовы пераказ кажа, што цяжкахвораму Ізыдару ў в. Лядцы з'явілася Божая Маці, аздаравіла яго і загадала паставіць на недалёкай горцы крыж і царкву. Ізыдар выканаў загад і ў царкву прынёс ікону, намаляваную на палатне. Каля тае царквы ён пражыў да канца свайго жыцця. Там паўстаў пасёлак, які ў гонар Багародзіцы названы Марынай Горкай, потым выбудавана царква Успення Багародзіцы. Дня святкавання ікона не мае.

*Менская.* Паводле старое традыцыі, яе паходжанне сягае часоў апостала Лукі. Да X в. яна знаходзілася ў Корсуні. Адтуль яе вывез у Кіеў св. Уладзімір. У Кіеве яна знаходзілася каля 500 гадоў у Дзесяціннай царкве міма частых грабяжоў і разбурэнняў у часе войнаў. Калі ў 1482 г. крымскі хан разбурыў Кіеў, адзін татарскі ваяка садраў з іконы каштоўныя аздобы, а самую кінуў у Дняпро, і ад таго часу праз колькі гадоў не было ведама, дзе яна знаходзілася. 13 жніўня 1500 г. у Менску на беразе Свіслачы насупраць замка менскіх князёў людзі заўважылі незвычайнае ззянне, якое ішло ад іконы. З пабожнасцю знойдзеную ікону перанеслі ў царкву Раства Багародзіцы. Пры тым выяснена, што гэта была ікона з калішняе Дзесяціннае царквы ў Кіеве. У 1616 г. яна была перанесена з Замкавае царквы ў базыльянскую царкву св. Духа. Пад час скасавання уніі гэтая царква была перахрышчана ў Пётра-Паўлаўскі сабор, у якім ікона перажыла часы рэвалюцыі і бязбожных грабяжоў. Ікона даволі вялікая, на паўтара метра высокая і на метр шырокая. Святкаванне 13(26) жніўня.

*Месятыцкая.* Яе знайшоў адзін плытнік з в. Месятычы Пінскае акругі, калі гнаў плыт па Прыпяці ля Мазыра. У 1894 г. яна раптоўна закрылася быццам нейкаю белаю плёнкаю. Пераляканы гэтым з'явішчам, селянін перанёс ікону ў мясцовую парахвіяльную царкву св. Параскевы Пятніцы. Там яна на кароткі час праяснялася ў 1904 г. і зусім адкрылася ў 1939 г. Пры царкве ёсць апісанне яе гісторыі. Святкаванне на Дзесятуху.

*Нова-Свержанская.* Паходзіць дзесь з 1500 г. і ўславі-

лася 22.III.1638 г. Знаходзілася ва Успенскай царкве ў Новым Свержані каля Стоўбцаў. Святкаванне 22 сакавіка.

*Нова-Троцкая.* Паводле мясцовага пераказу, яе падараваў візантыйскі імператар Мануіл II Палеалог вялікаму князю Вітаўту, а той памясціў яе ў Троцкай царкве. Ікона намалявана ў гатычным стылі, але паводле малярскае тэхнікі паходзіць з XVI ст. Ля іконы дзеяліся шматлікія цуды. 7 верасня 1719 г. віленскі біскуп Бжастоўскі яе каранаваў.

*Осавецкая.* Знаходзілася ў парахвіяльнай царкве ў Осаве ў Наваградчыне. Дзякуючы заступніцтву Багародзіцы, былі пераможаныя татары, туркі і шведы каля Осава-Дзядзілаўскае царквы. Дня святкавання не мае.

*Падлеская.* Яе знайшла на камені каля прыдарожнага крыжа ў в. Падлессе слепанароджаная дзяўчынка і адразу стала відушчай. Затым ля іконы аздаравеў мсціслаўскі ваявода Юры Сапега і ў гонар яе пабудаваў Святадухаўскую царкву, куды была перанесена ікона. Дня святкавання не мае.

*Пархімовіцкая.* Арыгінал гэтае іконы быў вельмі старога паходжання. Яе знайшоў селянін Пархім у Бабруйскім лесе каля в. Бартнікі на бярозе і там пабудаваў хацінку ды жыў як пустэльнік. З часам там паўстаў пасёлак Пархімовічы і пабудавана царква Раства Багародзіцы, але тады немаведама хто і калі забраў арыгінал іконы, асталася толькі копія, якая была зроблена перш, і каля яе такжа дзеяліся цуды. Святкаванне 8(21) верасня і на Праводную нядзелю.

*Пружанская* статуя Маці Божае ўславілася на Вялікдзень 1934 г. Тады праз некалькі дзён цяклі ў яе слёзы з вачэй. Дня святкавання не мае.

*Пустынска-Патрыяршая.* З'явілася ў першай палове XII ст. мсціслаўскаму князю Сымону. Ён аслеп і аднойчы ў сне бачыў якогась старога чалавека, які раіў яму памыцца ў крыніцы, што выцякала з Пустыні. Князь распытаўся, дзе знаходзіцца Пустынская крыніца, памыўся ў ёй і стаў відушчым. Пры гэтым ён, акрамя цуда аздараўлення, яшчэ быў моцна здзіўлены, што на ліпе каля крыніцы, дзе, узняўшы вочы да неба, дзякаваў Богу, убачыў ікону Багародзіцы. Там ён збудаваў каплічку, і ля яе потым паўстаў Пустынскі манастыр за 8 км ад Мсціслаўя. На іконе Багамаці схіляе сваю галаву да Боскага Дзіцятка. Святкаванне 15(28) жніўня.

*Ракаўская.* Яе знайшоў селянін у лесе каля крыніцы недалёка ад мястэчка Ракава. Ля іконы пачалі дзеяцца шматлікія

цуды. Потым каталіцкія духоўныя ўлады дакладна даследавалі яе з'яўленне і цуды. У 1737 г. на месцы з'яўлення была збудаваная Уздзвіжанская царква. Дня святкавання не мае.

*Рудзенская.* Была знойдзена 12.X.1687 г. у мястэчку Рудня, за 62 км ад Віцебска. У 1689 г. святар Васіль перанёс яе ў жаночы Кіева-Пячэрскі манастыр, і там яна асталася, але астаўся і яе назоў ад месца знаходкі. Святкаванне 12(25) кастрычніка.

*Себежская.* Знаходзіцца ў в. Ліпкі на Смаленшчыне. Аб яе паходжанні вестак няма. Дня святкавання не мае.

*Смаленская Адзігітрыя.* Візантыйская традыцыя залічае яе да іконаў, намаляваных апосталам Лукою. Яна была калісь уласнасцю візантыйскіх імператараў і знаходзілася ў Влахэрнскай царкве ў Канстанцінопалі. Туды аднойчы Божая Маці прывяла двaіх сляпых і вярнула ім зрок; ад таго часу ікона пачала называцца правадыркаю па шляхах — Адзігітрыяю — і суправаджала візантыйскіх імператараў ва ўсіх паходах. Калі ў 1046 г. імператар Канстанцін Парфірародны выдаваў сваю дачку Ганну за чарнігаўскага князя Усевалада, дык перадаў ёй між іншым гэтую ікону, а сын Ганны і Усевалада Уладзімір Манамах перавёз яе ў 1103 г. у Смаленск, і ад таго часу яна пачала называцца Смаленскаю. На працягу вякоў ікона двойчы вывозілася ў Маскву (1404—1456 і 1812—1813). Святкаванне 28 ліпеня. Шматлікія цуды, што дзеяліся ля іконы, зрабілі яе вельмі слаўнаю ўва ўсёй Усходняй Еўропе. З іконы роблена шмат копіяў для манастырскіх і парахвіяльных цэркваў у Беларусі, Украіне і Расеі. Некаторыя копіі такжа ўславіліся цудамі, напр.: *Смаленская-Харкаўская, Смаленская-Густынская, Смаленская Троіцка-Сергіеўскае лаўры, Смаленская-Варонежская, Смаленская-Сяміазёрная, Віленская Адзігітрыя* і шмат іншых.

*Старчыцкая.* Ёсць два пераказы аб яе паходжанні. Адзін кажа, што яе прывёз з Смаленска ў Старчыцы ў 1689 г. князь Рыгор Асалінскі як копію з Смаленскае Адзігітрыі. А другі пераказ кажа, што яе знайшоў у густым лесе Старажышчы на Вышкавай гары ў Случчыне селянін Леў Шапока ў XVII ст. На месцы знаходкі пабудована царква, і ля іконы пачалі дзеяцца цуды. У 1670 г. ля царквы пабудованы Петрапаўлаўскі манастыр, знішчаны ў XIX ст. Перш ікона была ў манастыры, а потым у царкве Раства Багародзіцы ў Старчыцах. Святкаванне 29 чэрвеня, 15(28) жніўня і 8(21) верасня.

*Супрасльская.* Яе паходжанне няведамае, але з падабенства да Смаленскае Адзігітрыі дагадваюцца, што яе прывёз з Смаленска каля 1500 г. епіскап Іосіф Солтан, заснавальнік Супрасльскага манастыра. Спачатку яна знаходзілася ў іканастасе манастырскае царквы, а ў палавіне XVII ст. была перанесена на калону, якая падтрымоўвае купал з левага боку. Святкаванне 25 сакавіка і 28 ліпеня.

*Свірская.* Яе прынёс смаленскі князь Давыд Расціславіч у 1195 г. у новазбудаваную Свірскую, або Міхайлаўскую, царкву ў Смаленску. Дня святкавання не мае.

*Троцкая* (глядзі Новатроцкая).

*Тупічэўская*, або *Сямігародная.* Яна знаходзілася ў Тупічэўскім манастыры каля Мсціслаўя на Магілёўшчыне. Святкаванне 15(28) жніўня і ў Панядзелак Св. Духа.

*Усвяцкая*, або *Цэзарская.* Яна знойдзена ў XII ст. у мясцовасці Бор каля мястэчка Усвят, таму часам называецца такжа *Бораўская.* У 1589 г. уславілася захаваннем мясцовых жыхароў ад халеры, і з таго часу ўстаноўлена свята на яе чэсць 30 травеня. Знаходзілася ў Спаскай царкве м. Усвят Віцебскае акругі.

*Уміленне-Смаленская.* Яна знаходзіцца ў Смаленску ад 1103 г. Ікона прадстаўляе Багародзіцу, як Яна глядзіць з уміленнем на Дзіцятка Ісуса, Які ляжыць на Яе вопратцы і ў правай руцэ трымае зямную кулю. Святкаванне 19 сакавіка. Ёсць яшчэ другая ікона «Уміленне» ў Смаленскай царкве, што ў Акопах.

*Фалькавіцкая.* Яна знойдзена на пачатку XVIII ст. на беразе рэчкі ў бярозавым лесе каля мястэчка Фалькавічы, за 14 км ад Віцебска, і там жа была пабудована царква. Багамаці і Дзіцятка на іконе ўкаранаваныя і ўпрыгожаныя багатымі рызамі. Уславілася яна шматлікімі цудамі. Святкаванне 15 і 22 жніўня.

*Эйсмонцкая* — праўдападобна, з XVII ст. Яна знаходзілася ў каталіцкай парахвіяльнай царкве ў Вялікіх Эйсмонтах каля Горадні.

У канцы трэба яшчэ зацеміць, што, акрамя вышэйпералічаных беларускіх іконаў Багамаці, ёсць яшчэ некалькі іконаў, якія былі намаляваныя на Беларусі і потым перавезены ў іншыя краіны і там уславіліся шматлікімі цудамі.

Але такжа і між беларускімі іконамі ёсць нскаторыя, што паходзяць з іншых краінаў.

Беларуская іканаграфія да гэтага часу даследавана вельмі мала, але, падаючы спіс беларускіх іконаў Багамаці, нельга не ўспомніць, прынамсі, аб найважнейшых характэрных азнаках беларускае іканапісі. Найстарэйшыя беларускія іконы належаць да тыпу чыста візантыйскага мастацтва, а некаторыя проста паходзяць з Візантыі. Згодна з агульнаю традыцыйнасцю ў рэлігійным жыцці, візантыйскі тып іконаў астанецца на Беларусі ўвесь час, але нават у найстарэйшых іконах беларускага паходжання следныя асаблівыя рысы беларускага мастацтва ў іканапісі, яны назіраюцца ў злагоджанні рысаў аблічча, у вопратцы і фоне.

Характэрнаю азнакаю для шматлікіх беларускіх іконаў усіх часоў ёсць кароны. Праўда, гэта не ёсць выняткова беларускаю азнакаю, бо на Украіне і ў Польшчы такжа ёсць шмат каранаваных іконаў, але расейскія іконы каронаў не маюць, а калі дзе такія ёсць, дык гэта пераважна беларускага паходжання. Напрыклад, каранаваная ікона *«Спадручніца грэшных»* у Ордыне Арлоўскае губерніі была прынесена з Заходняе Беларусі. Каранаваная ікона *«Благадатнае неба»* ў Архангельскім саборы ў Маскве была прынесена туды Вітаўтаваю дачкою Сафіяю, як выходзіла замуж за маскоўскага князя Васіля.

Ад XVI ст. на Беларусі пачынае адчувацца моцны ўплыў заходняе тэхнікі, гэта значыць, што на іконах з'яўляюцца азнакі жывапісу: яны назіраюцца ў рысах аблічча, у зложанай кампазіцыі і ў акружаючых абставінах, якія быццам бяруцца з натуры,— чаго не было ў чыста візантыйскім мастацтве. Тоны фарбаў на беларускіх іконах заўсёды больш светлыя, як у Візантыі і Расеі. У тым жа часе намесныя іконы ў іканастасе і некаторыя цудатворныя маляваліся не па пояс, як гэта было ў Візантыі, але ў 2/3 росту.

У XVII ст. беларускія іконы маюць вельмі характэрна апрацаванае поле. На дошку накладаўся гіпс і ўціскаўся пры помачы формы з выразанымі ўзорамі. Гэткім чынам атрымоўвалася рэльефнае поле, якое потым малявалася ці пазалочвалася.

У XVIII ст. на беларускае мастацтва меў моцны ўплыў італьянскі жывапіс. Тады пад уплывам італьянскіх мадоннаў з'явіліся на Беларусі іконы на ўвесь рост.

На старонках беларускае прэсы нярэдка адну і тую самую рэч называюць рознымі імёнамі. Не ўваходзячы ў тэарэтычныя разважанні наконт гэтага з'явішча, варта выясніць хоць адзін канкрэтны выпадак, каб прычыніцца да зменшання непажаданых моўных разбежнасцяў.

Не так даўно некаторыя чытачы звярнулі ўвагу: чаму адну і тую самую рэч адны называлі іконаю, а другія абразом?

Ёсць дзве галоўнейшыя прычыны такое разбежнасці ў назовах. Першая — што некаторыя самую ікону ўважаюць за нешта тыпічна расейскае, а тым самым і ў слове «ікона» адчуваюць якісьці расейскі пах, таму і выяўляюць нахіл унікаць яго ў беларускай мове. А другая — гэта нязнанне розніцы між іконаю і абразом. Цяпер неабходна выясніць тэрміналогію для іх азначэння.

Слова «ікона» ёсць грэцкае слова eikōn у стараславянскай вымове, і яно сёння ўжываецца даслоўна ва ўсіх літаратурных мовах свету як іншамоўнае слова грэцкага паходжання. Тым самым і ў расейскай мове яно ёсць толькі іншамоўнае слова.

Беларускае слова «абраз» ёсць дакладны і добры пераклад грэцкага слова eikōn, і таму, калі яго ўжываць замест слова «ікона», дык гэта не будзе ніякай памылкай, але ў некаторых выпадках мова можа шмат траціць на сваёй дакладнасці. Да таго ж слова «абраз» не ёсць выключна беларускае, бо ў расейскае мове ёсць «образ» і ў польскай «obraz». Падобна і ў іншых мовах ёсць адпаведнік да гэтага слова, а калі яны яшчэ ўжываюць слова «ікона», дык гэта таму, што яно служыць да азначэння асаблівага абразу, для якога нельга знайсці больш адпаведнага слова, як гэтае агульнапрынятае грэцкае слова і ў агульнапрынятым значэнні.

Наогул абразом называецца кожны твор выяўленчага мастацтва, як свецкага, так і рэлігійнага. Але калі трэба дакладней азначыць творы мастацтва, дык тады ўжываецца больш дакладная тэрміналогія, якая ўдакладнівае змест, тэхніку і стыль абразоў. Так, паводле зместу абразоў, адрозніваюць: партрэты, краявіды, груповыя сцэны, нацюрморты і творы рэлігійнага зместу; паводле тэхнікі — іканапіс, мініяцюры, акварэлі, графіка, пастэлі, фрэскі і інш.;

паводле стылю — іконы, малюнкі розных школаў: класікі, рэнесансу, барока, мадэрныя; карыкатуры і інш.

З гэтага кароткага і сухога пералічэння можна бачыць, што ікона — гэта абраз рэлігійнага зместу, што намаляваны паводле спецыяльнае тэхнікі і мае своеасаблівы стыль. І стыль ёсць найбольш характэрны для іконы як такое.

Якія ж характэрныя азнакі стылю іконаў? Гэта ёсць стыль старога візантыйскага выяўленчага мастацтва, якое яшчэ не мела перспектывы, і таму абразы мелі плоскасны характар. Гэта значыць, што прастора ўглыб і ўдалечыню або зусім не азначалася, або азначалася толькі сумарычна. Калі ж у некаторых іконах трэба было абавязкова неяк азначыць прастору, дык да гэтага ўжывалася так званая адваротная перспектыва.

Постаці святых на іконах маюць пераважна франтальную паставу, невялікі паварот галавы дазваляўся толькі ў групавых кампазіцыях; гэтым і тлумачыцца тое з'явішча, што вочы святога з іконы заўсёды звернены да глядзельніка — ці ён будзе стаяць перад іконай ці збоку.

Ікона мае заўсёды нейкую ідэю, якую выказвае шматлікімі сімваламі; таму, каб магчы належна ацаніць нейкую ікону, трэба перш яе добра зразумець. Дзякуючы сімвалам, іканапісцы змаглі выказваць розныя пачуцці святых, захоўваючы заўсёды супакой іхніх абліччаў.

Земскае красы аблічча, рэальнасці, асабістае характарыстыкі намаляваных постацяў нельга шукаць у іконах, бо яны маюць на мэце выказаць веліч святасці і веліч вечных ідэалаў і гэта стараюцца дасягнуць праз надземскі супакой абліччаў, суровасць паставаў, раскошную і багатую колернасць і часта праз залатое тло.

На працягу вякоў іканапісны стыль крыху мяняўся, але няшмат. У VIII веку лютавала ў Візантыйскай імперыі ерась іканаборства. Тады ў змаганні з ерассю ўсталяваныя асноўныя каноны іканапіснае тэхнікі і стылю. Тады ж удакладнена каталіцкая навука адносна пашаны іконаў. У тым часе іканапіснае мастацтва наблізілася да дагматызму, дакладна азначаючы змест і мэту розных тыпаў іконаў. У гэтай форме візантыйскае рэлігійнае мастацтва было пашырана не толькі на Усходзе, але і на Захадзе і ў такой форме прыйшло на Беларусь разам з хрысціянствам, што якраз у тым часе пачало пранікаць на нашыя землі.

Ад прыняцця хрысціянства да XV в. на Беларусі візантыйскае мастацтва было амаль усёўладным. Кажам «амаль», бо нават і ў першых беларускіх мастацкіх творах ёсць след паважных уплываў беларускага народнага мастацтва, якія характарызуюцца ў злагоджанні візантыйскае строгасці ў паставах святых. Калі ж, пачынаючы ад канца XV в., на Беларусь пачаў пранікаць стыль рэнесансу, дык ён не выціснуў візантыйскага мастацтва, але стварылася цікавае спалучэнне: постаці святых на іконах «зарухаліся», «ажывіліся», з'явілася рэльефнасць аблічча і цела, а праз гэта зменшылася патрэба сімволікі. Аднак асноўныя рысы іканапіснага мастацтва асталіся.

У навейшыя часы на Беларусі з'явілася мноства звычайных малюнкаў рэлігійнага зместу, якія не раз вешаліся на покуці побач іконаў; але гэтыя абразы і абразкі рэлігійнага зместу лёгка адрозніць ад іконаў.

Дзеля гэтага, калі гаворыцца аб абразах, якія маюць азнакі іканапіснага стылю, і перадусім, калі гаворыцца аб старых цудатворных абразах, якія ў мастацтве агульна называюцца іконамі, дык неабходна і трымацца гэтага назову ў дачыненні да іх.

Увесь хрысціянскі свет, калі шануе святы Крыж, дык не якісьці нацыянальны, але Крыж Хрыста-Збаўцы людскога роду. Крыж, які Хрыстос абмыў сваёю святою Крывёю і на якім умёр за нашы грахі. Той Крыж Хрыста быў з грубога дрэва, без ніякіх прыкрасаў; толькі найсвяцейшая Кроў Хрыста афарбавала яго.

Якая была форма Хрыстовага Крыжа? Звычайна рымляне для крыжавання злачынцаў ужывалі крыж у форме літары «Т», а калі трэба было над галавою ўкрыжаванага прыбіць напіс, дык тады збіваліся накрыж два кавалкі дрэва — так, каб крыху выставаў верхні канец. З-за гэтага сёння ўважаецца як бессумніўна даказанае, што Крыж Хрыста меў форму, якую агульна называюць «лацінскаю», або «рымскаю».

Калі Хрысціянства выйшла пераможна з праследаванняў, крыж стаўся знакам перамогі; яго пачалі прыкрашваць на розныя лады; пачалі ўжываць не толькі для рэлігійных мэтаў, але і ў геральдыцы, і ў арнаментыцы, і інш. На сцягах рымскіх легіёнаў красаваўся т. зв. Лябарум Канстанціна.

Сёння ёсць такая колькасць формаў крыжа, што іх нават пералічыць цяжка. Тут для прыкладу падаюцца толькі некаторыя больш распаўсюджаныя і асноўныя формы крыжа.

Пераглядаючы самыя назовы крыжоў, відаць, што некаторыя іхныя формы звязаны з асобамі апосталаў, а некаторыя — з краінамі. І тут напрошваецца пытанне: ці Беларусь мела своеасаблівую форму крыжа, ці не?

Каб дакладна і пэўна адказаць на гэтае пытанне, трэба мець даволі гістарычнага матэрыялу і фактаў, але назбіраць іх у сучасных эміграцыйных умовах у дастатковай колькасці амаль немагчыма. Дзеля гэтага прыходзіцца абмежавацца тымі нешматлікімі матэрыяламі, якія прынагадна можна стрэнуць у друку. Але ўжо з таго, што ўдалося сабраць гэткім чынам, падаецца вельмі праўдападобным, што на Беларусі была калісьці своеасаблівая форма крыжа.




1. Візантыйскі (грэцкі) крыж. 2. Лацінскі (рымскі) крыж. 3. Крыж Антонія. 4. Пятроў крыж. 5. Андрэеў крыж. 6. Візантыйска-андрэеўскі крыж. 7. Егіпецкі і коптыйскі крыж, або т. зв. Нільскі ключ. 8. Крыж сонечнага кола. 9. Крыж Канстанціна, або т. зв. Лябарум. 10. Іншая форма Лябарум. 11. Падвойны і архібіскупскі крыж. 12. Панскі крыж. 13. Кіеўскі крыж. 14, 15. Расейскія крыжы. 16. Крыж Іаанітаў — рыцарскі. 17. Ерусалімскі крыж. 18. Кастылёвы крыж. 19. Кротны крыж. 20. Катвігавы крыж.

Найлепшым прыкладам гэтага крыжа ёсць шасціканцовы крыж св. Еўфрасінні, зроблены Лазарам Богшаю ў 1161 г. Зусім такі самы крыж быў на ўсіх так званых Барысавых камянях і на Рагвалодавым камені. Усе гэтыя памяткі паходзяць з XII в., і гэта сведчыць, што тады гэткая форма крыжа была агульнапрынятая на Беларусі. Для нас вельмі цікава, што гэткая ж форма крыжа сёння вельмі распаўсюджаная ў Латарынгіі і мае афіцыяльны назоў Латарынгскага крыжа. Аднак у Латарынгіі з'явілася гэтая форма крыжа толькі ў XV в. пасля крыжовых паходаў, дзякуючы спародненню латарынгскіх князёў з патомкамі Готфрыда Буйёнскага, ерусалімскага караля. Бо ўсе тыя манашыя ордэны і ваенныя арганізацыі, якія сцераглі святую зямлю і гроб Хрыста ў Ерусаліме, дадавалі да лацінскага крыжа яшчэ верхнюю перакладзіну з надпісам: I.N.R.I., творачы гэткім чынам шасціканцовы крыж. Гэткі ж самы крыж сустракаецца яшчэ і ў геральдыцы на пячатках каталіцкіх архібіскупаў і мітрапалітаў. Такжа на богаслужэннях архібіскупаў і мітрапалітаў носяць перад імі шасціканцовы крыж.

Якім чынам магла з'явіцца на Беларусі шасціканцовая форма крыжа, з пэўнасцю цяжка сказаць. Магчыма, што яна прыйшла з Палесціны праз Візантыю, дзе ў гадах 1129—1132 знаходзілася некалькі полацкіх князёў, а гэта быў якраз той час, калі крыжаносцы, пабіўшы туркаў, завалодалі Ерусалімам і шасціканцовы крыж стаў сімвалам перамогі хрысціянства над магаметанствам. Аднак не выключаная рэч, што шасціканцовая форма крыжа вытварылася на Беларусі зусім незалежна, бо на беларускіх землях з даўніх часоў быў ведамы двукрыж у форме стоцьнага спалучэння двух грэцкіх крыжоў. Некаторыя даследнікі выказвалі думку, быццам двукрыж меў быць знакам бажка Ярылы, але фактычных доказаў на пацверджанне гэтае думкі няма ніякіх, затое ёсць доказы, што двукрыж мае хрысціянскае паходжанне. Даўней часта сустракаўся двукрыж у хрысціянскіх святынях, як гэта можна выразна бачыць сёння на філярах муроў, якімі абнесены пагост царквы ў Сынковічах, пабудаванае ў XV в., а паганскіх знакаў у хрысціянскіх святынях не дапушчалася.

Калі пераглядаць формы крыжоў на Беларусі з канца XIII в. і пазнейшыя, дык прыходзіцца сцвердзіць, што гэтыя формы рознаякія. Ужо ў XIII в. манахі і манахіні насілі на грудзях крыжы грэцкае формы з трылістнымі ўпрыгожаннямі, як аб гэтым сведчыць крыж св. Параскевы Полацкае.

Крыж з косаю перакладзінаю ўнізе ёсць расейскага паходжання. Ён мае азначаць спалучэнне мітрапалічага крыжа з андрэеўскім. У Расеі гэткі крыж стаўся азнакаю праваслаўя, але ў Грэцыі і Візантыі ён не сустракаецца, а спалучэнне з андрэеўскім крыжам мае іншую форму. На Беларусі расейская форма крыжа з'явілася ў канцы XVIII в., калі Беларусь трапіла пад расейскую ўладу. Аднак, нягледзячы на розныя ўплывы і націскі з розных бакоў, шасціканцовы крыж на Беларусі не знік да нашых часоў, толькі цяпер ён перастаў быць выключнаю формаю. Цяпер вернікі не толькі на Беларусі, але і на ўсім свеце шануюць крыж Хрыста ва ўсіх тых формах, якія апрабаваныя Хрыстоваю Царквою.

Асоба прэпадобнага Лаўрэна, епіскапа тураўскага, вельмі мала ведамая ў нашай рэлігійнай гісторыі, хоць з тых некалькіх вестак аб ім, якія быццам між іншым уплецены ў розных старых дакументах, можна выразна бачыць, што ён быў чалавекам вялікае духовае дасканаласці і мусіў мець паважны ўплыў на сваё акружэнне.

Апісанне ягонага жыцця не захавалася і, праўдападобна, такога апісання зусім не было, але затое ўспаміны аб ім паходзяць з вельмі даўных часоў. Палікарп Чарнарызец, які жыў у канцы XII і на пачатку XIII ст. у сваім «Другім пасланні да архімандрыта пячэрскага Акіндзіна аб святых блажэнных чарнарызцах, братах нашых» падае пераказ аб «затворніку Лаўрэнцію». А другі ўспамін аб Лаўрэну падае сучаснік Палікарпа Сімеон у пасланні да Палікарпа, які хацеў стацца ігуменам Дзмітравага манастыра,— ён пералічаў усіх епіскапаў, якія выйшлі з таго манастыра, і між імі называе такжа Лаўрэна.

З даманастырскага жыцця Лаўрэна ведама толькі тое, што ён паходзіў з Турава. Радзіўся, праўдападобна, у 30-х або 40-х гадах XII ст. Аб ягоных бацьках, асвеце, юнацтве — ніякіх вестак няма. Першы гістарычны ўспамін аб ягонай асобе звязаны з ягоным перабываннем у Кіева-Пячэрскім манастыры. Гэта быў час, калі Тураўскае княства залежала ад Кіева і некалькі тураўскіх князёў сталіся потым вялікімі князямі кіеўскімі; там жа быў аседак мітрапаліта, дзеля гэтага манахі з Турава не былі рэдкім з'явішчам у Кіеве.

Калі Лаўрэн з'явіўся ў Пячэрскім манастыры, невядома, але будучы там, ён займеў жаданне стацца «затворнікам». Пячэрскія старцы не далі яму дазволу на гэта, бо незадоўга перад тым сталіся нейкія «небяспечныя спакусы з затворнікамі Ісаакам і Мікітам». Але, відаць, Лаўрэн лічыў тых затворнікаў за слабадухаў і таму пастанавіў паказаць, што затворніцтва яму пад сілу. Дзеля гэтага ён пакінуў Пячэрскі манастыр і перайшоў у Дзімітраўскі манастыр, што быў недалёка ад Пячэрскага; тамтэйшы ігумен дазволіў яму стацца затворнікам.

Дзімітраў манастыр, у які перайшоў Лаўрэн, быў заснаваны кіеўскім князем Ізяславам Яраславічам (1054—1073) і аставаўся князёўскім. Але ў 1128 г. з няведамых прычынаў яго забралі манахі Пячэрскага манастыра і галоўную Свя-

та-Дзімітраўскую царкву перасвяцілі ў імя св. Пятра. І гэтае пераняцце, як сведчыць Лаўрэнційскі летапіс, адбылося «з грахом вялікім» і выклікала агульнае абурэнне супраць пячэрскіх манахаў, дзеля гэтага па некаторым часе той манастыр вярнуўся да патомкаў Ізяслава, і менавіта да тураўскае галіны Ізяславічаў, ды прыняў свой стары назоў Дзімітраўскага манастыра. У ім акрамя галоўнае Св.-Дзімітраўскае царквы было яшчэ дзве царквы, і адну з іх пабудаваў Святаполк Ізяславіч, які перш чым заняў кіеўскі велікакняжы пасад, быў Тураўскім князем у гадах 1087—1093. Ад таго часу Дзімітраў манастыр быў моцна звязаны з Тураўскім князем; там была іхняя ўсыпальніца. Дык не дзіва, што туды перайшоў туравец Лаўрэн.

Будучы ў затворы, Лаўрэн вёў строгае пабожнае жыццё і праз некаторы час атрымаў ад Бога ласку аздараўляць хворых. У «Патэрыку» ўспамінаецца толькі аб адным аздараўленні апанаванага д'яблам і то, відаць, успамінаецца толькі дзеля таго, што хворы перад аздараўленнем мусіў аж некалькі дзён пражыць разам са святым, а потым на ягоны загад мусіў ісці ў Пячэрскі манастыр.

Затворніцкае жыццё прэпадобнага Лаўрэна не прынесла яму таго супакою, да якога ён імкнуўся,— людзі знаходзілі дарогу да ягонага «затвору»; адны шукаючы духовае стравы, іншыя — аздараўлення. Ягонае імя было шырокаведамым у Кіеве.

Калі ў 1182 г. св. Кірыла Тураўскі зрокся епіскапскага пасаду, дык на яго месца і кіеўскі мітрапаліт Нікіфар (1182—1197) і тураўскі князь Глеб Юравіч (1170—1195), відаць, аднагодна (бо хутка, у тым жа 1182 г.) прызначаюць на Тураўскі епіскапскі пасад затворніка Лаўрэна. У тым самым 1182 г. ён ужо ў сане епіскапа быў на пасвячэнні іераманаха Васіля ў ігумены Кіева-Пячэрскага манастыра.

На жаль, аб дзейнасці Лаўрэна ў Тураве ніякіх вестак няма. Можна толькі здагадвацца, што гэта ён прызнаў культ святога для свайго папярэдніка — Кірылы X і, магчыма, што гэта ён падаў ягоны жыццяпіс.

Памёр Лаўрэн, праўдападобна, у 1194 г. і быў пахаваны каля Барысаглебскага епіскапскага манастыра.

Можна здагадвацца, што дзейнасць св. Лаўрэна ў Тураве была моцна абцяжана, бо гэта быў час, калі горад раптоўна занепадаў, і таму пасля Лаўрэна епіскапскі пасад быў не-

заняты аж да 1345 г., а потым гэты стары епіскапскі пасад наогул быў перанесены ў Пінск як аседак Тураўска-Пінскае епархіі. Дзеля гэтых прычынаў, нягледзячы на высокую святасць жыцця Лаўрэна, аб ім захавалася мала вестак. Ягоны культ як святога, праўдападобна, з'явіўся хутка пасля ягонае смерці, калі на Барысаглебскім магільніку былі знойдзены ягоныя нятленныя святыя астанкі. Аднак таму, што ў тым часе не было ў Тураве епіскапа, дык святыя астанкі перавезены ў Кіева-Пячэрскі манастыр і паложаны ў пячоры прэп. Антонія, ды ўстаноўлена святкаваць ягоную памяць 29 снежня — магчыма, гэта быў дзень ягонае смерці.

Найстарэйшая ікона св. Лаўрэна Тураўскага паводле так званага «Іканапіснага подлінніка» малюе яго так: «ростам прысадзістьі, барада, як у Багаслова — раздвоеная, клабук на плячах, вопратка прэпадобнага, босы».

У сучасны момант Лаўрэн Тураўскі лічыцца святым толькі ў Праваслаўнай Царкве, але і там яму прызнаецца толькі мясцовы культ 29 студзеня, хоць ён заслугоўвае на тое, каб ягоны культ быў значна пашыраны.

Дзіця ніколі не забываецца свае маці, а ў хвілінах гора і суму з асаблівай сілай звяртаецца да яе, каб атрымаць патрэбную помач і пацеху. Падобна і Беларускі Народ увесь час шчыра шанаваў сваю Нябесную Маці — Найсвяцейшую Багародзіцу, але сёння, у часе ўсенароднага суму і цярпення, звяртае да Яе з *асаблівай* шчырасцю поўны надзеі позірк і ўздымае рукі, благаючы пацехі і падтрымання ды шле да Яе гарачыя малітвы перад Яе святым Жыровіцкім абразом, праз які Беларусь цягам доўгіх стагоддзяў атрымоўвала ад Бога незлічоныя ласкі.

Жыровіцкая Богамаці — наша сапраўдная Маці, бо не мы Яе выбралі сабе, але Яна нас выбрала; Сама з'явілася пастушкам на дзікай аквечанай грушы ў лясным гушчары і ў незвычайным святле. Дзеці заносяць маленькі абразок на камені свайму магнату і хрысціянскаму рыцару Аляксандру Солтану, але Найсвяцейшая не захацела быць у яго шкатулцы і зноў цудоўным спосабам пераносіцца на тую самую грушу ды аб'яўляецца пастушкам (каля 1470 г.).

Ад таго часу Яна звязвае долю свайго цудоўнага абраза з доляю Беларусі, каб разам перажываць яго долю і цярпенні.

Першая царква, пабудаваная на Яе чэсць, хутка згарэла, але абраз астаецца непашкоджаным і зноў цудоўна аб'яўляецца дзецям на камені каля папялішча царквы ды перахоўваецца ў хаце святара, аж пакуль выбудавалі новую святыню на Яе чэсць.

Каля новавыбудаванае царквы пад апекаю Жыровіцкае Богамаці паўстае цэлае паселішча і школа.

Хутка пасля гэтага на Беларусі запаноўвае Унія і ў Жыровічах асноўваецца Базыльянскі манастыр. Пачынаецца буйны росквіт духовага жыцця, а следам за ім, дзякуючы старанням базыльянаў, паўстаюць адна за другою новыя святыні і прыгожы школьны будынак. У 1672 г. будуецца мураваная царква на месцы, дзе другі раз на камені з'явіўся цудоўны абраз. Камень захаваны дасёння.

У 1760 г. будуецца галоўная царква Успення Маці Божае на месцы першага з'яўлення цудоўнага абраза і цудоўнае крыніцы, якая дагэтуль знаходзіцца ў падзямеллях царквы, быццам яўны знак невычарпальнасці Ласкі Божае, якую дае Бог малельнікам на гэтым святым месцы.

У 1769 г. будуецца трэцяя мураваная царква св. Крыжа

з абразамі Крыжовае дарогі — Кальварыі. Відаць, Бог даваў знак, што Беларускі Народ меў прайсці следам за Хрыстом цярністы шлях.

Акрамя таго на магільніку выбудавалі дзеравянную царкву св. Юрыя.

Шчырыя малітвы штодзённа ўзносіліся перад цудатворным абразом, з неба Найсвяцейшая Дзева ссылала для Беларускага Народу багатыя ласкі, якія вымольвала ў Свайго Сына.

За дачасныя ласкі Беларускі Народ дарыў сваю Нябесную Маці каштоўнымі падарункамі з серабра, золата і дарагіх каменняў, якія густа прыкрашвалі Яе цудатворны абраз і часткова асталіся дасёння.

Паломнікі густою лаваю лета ў лета ад 7 да 20 траўня аблягаюць цудатворны абраз і між шэрымі сялянскімі світкамі часта мігаюць панскія жупаны, біскупскія мантыі, кантушы ваяводаў і нават каралеўскія кароны.

Толькі адна Прачыстая ведае, колькі сялянскіх сыноў і дачок звярталіся да Яе і колькі яна ім памагла; не пералічыць і беларускіх магнатаў, якія кленчылі перад Яе абразом (Агінскія, Астрожскія, Палубінскія, Сапегі, Солтаны і інш.).

Няраз маліўся там вялікі беларускі канцлер Леў Сапега.

Каралі, якія адначасна былі вялікімі князямі Беларусі, няраз пакорна схілялі там свае галовы: Уладыслаў IV разам з каралеваю адведвае Жыровіцкую Богамаці 9.12.1644 г., Ян Казімір надае Жыровічам Магдэбурскае права, а 19.5.1667 г. перад усім соймам дзякуе «Усемагутнаму за Яго святы Правід, за дараванне поўнага ласкі Жыровіцкага абраза Найсвяцейшае Божае Маці, як месца міласці і апекі» ды кліча: «Мы вечна павінны з пашанаю аддаваць чэсць гэтаму абразу Божае Маці, бо праз Яе заўсёды атрымоўваюцца багаславенствы і паводзіны дзяржаве». Ян III Сабескі двойчы адведваў Жыровічы, раз у 1684 г., а другі раз разам з каралевічам Якубам у 1688 г. Аўгуст II Сас не абмінуў таксама Жыровічаў, і Станіслаў Панятоўскі пакорна пакланяўся перад Жыровіцкаю Багародзіцаю.

Але найбольш гістарычнаю падзеяю, якая адбылася ў Жыровічах, быў дзень 19 верасня 1730 г. — тады ў прысутнасці нарочнага пасланніка ад Свяцейшага Айца Клімэнта XII з яго багаславенства Жыровіцкая Богамаці каронуецца залатою каронаю на «Каралеву Беларускага Народу» (Regi-

na Populi Rutheni). Гэта сталася амаль на мяжы ўпадку беларускае дзяржаўнасці. Гэтым Богамаці быццам хацела звярнуць увагу і сказаць, што не пакіне Беларускага Народу, але Сама будзе апекавацца ім у надыходзячых выпрабаваннях.

Сапраўды, часы змяняліся штораз на горшыя. І так цяжкая доля пад наступам польскіх магнатаў сталася яшчэ цяжэйшаю, калі над Беларуссю ўзнялася рука расейскага цара. Для прыспяшэння й аблягчэння русіфікацыі Беларусі ў 1839 г. касуецца Унія, касуюцца базыльянскія манастыры. Пусцее Жыровіцкі манастыр і зводзіцца царскім загадам да другое катэгорыі, з'яўляюцца ў ім чужыя людзі.

Не па душы было чужынцам, што Жыровіцкі абраз хоць і належыць да тыпу т. зв «Умілення», але захаваў больш італійскі характар, чым усе грэка-італійскія пераводы гэтага тыпу. Дзіцятка, прадстаўленае на гэтым абразе, абняўшы Маці абедзвюма ручкамі і з голымі ножкамі.

Але Беларускі Народ не звяртаў увагі на гэтыя розніцы, самыя вернікі як каталікі, так і праваслаўныя, гарнуліся, як і раней, да свае нябеснае Валадаркі з усімі сваімі духовымі і дачаснымі патрэбамі, цярпеннямі і турботамі.

*1948*

# СПІС ЗНОСАК

[1] Гады княжання. *(Тут і далей заўвагі ўкладальніка.)*

[2] Пераклад аўтара.

[3] Большасць гісторыкаў лічаць, што гэтыя перагаворы адбываліся паблізу Оршы.

[4] На думку сучасных гісторыкаў, Усяслаў Чарадзей меў шасцёра сыноў — Барыса-Рагвалода, Давыда, Глеба, Рамана, Святаслава-Георгія і Расціслава.

[5] Агульнапрынятаю датай смерці князя Уладзіміра (Валодшы) лічыцца 1216 г.

[6] Маецца на ўвазе першая сусветная вайна.

[7] У сапраўднасці храм святога Спаса ў Полацку захаваўся.

[8] Полацк быў вызвалены ў жніўні 1579 г.

[9] Царскі ўказ аб выгнанні езуітаў датуецца 13 сакавіка 1820 г.

[10] З 1943 г. мошчы святой Еўфрасінні зноў спачываюць у Спасаўскім храме полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра.

[11] Brückner Al. Mitołogia słowiańska. Kraków, 1918. S. 1.

[12] Державин Н. С. Славяне в древности. М., 1946. С. 136.

[13] Тамсама. С. 134.

[14] Brückner Al. Mitołogia słowiańska. Kraków, 1918. S. 133.

[15] Янчук Н. О мнимонародных белорусских песнях // Сборник Харьк. истор.-фил. о-ва. Вып. VIII. С. 293—294.

[16] Памятники русского права. Вып. II. М., 1953. С. 39—42.

# ЗМЕСТ

Гарошка Л.
Г20 Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі: Нарыс жыцця і дзейнасці, артыкулы / Уклад., прадм. У.Арлова.— Мн.: Маст. літ., 1996.— 124 с.— (Галасы беларускага замежжа).
ISBN 985-02-0271-8.

Апрача арыгінальнага даследвання, прысвечанага жыццю і дзейнасці Еўфрасінні Полацкай, у кнігу вядомага гісторыка беларускай царквы айца Льва Гарошкі ўвайшлі таксама яго артыкулы пра дахрысціянскую веру нашых продкаў, пачаткі хрысціянства і культ Багародзіцы на Беларусі.

Г $\frac{9470600000 - 048}{М302(03) - 96}$ 146—96 ББК63.3(4Беи) + 86.3(4Беи)

Літаратурна-мастацкае выданне
а. ЛЕЎ ГАРОШКА
Святая Еўфрасіння-Прадслава, патронка Беларусі
Нарыс, артыкулы

Рэдактары Г. А. Шаранговіч, Т. А. Зарыцкая.
Мастак А. І. Цароў.
Мастацкі рэдактар А. І. Дрозд.
Тэхнічны рэдактар М. М. Сакалоўская.
Карэктар Я. Ф. Харко.
Аператар К. І. Санжарэўская.

Падп. да друку 15.06.96. Фармат 84x108 1/32. Папера афсетная. Гарнітура тып. Таймс. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,72+1,68 вкл. Ум. фарб.-адб. 8,82. Ул.-выд. арк. 7,27. Тыраж 3000 экз. Зак. 1338.

Набрана і звярстана на выдавецка-настольнай сістэме.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па друку. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600. Мінск, праспект Машэрава, 11.

Аддрукавана з арыгінал-макета заказчыка ў друкарні выдавецтва «Беларускі Дом друку». 220013, Мінск, пр. Скарыны, 79.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»

---

У новай серыі
«Галасы беларускага замежжа»
выйшлі кнігі:

КАСТУСЬ АКУЛА

**Змагарныя дарогі**
Раман

ЮРКА ВІЦЬБІЧ

**Плыве з-пад святое гары Нёман**
Мастацкі нарыс

ЯНКА ЮХНАВЕЦ

**Сны на чужыне**
Вершы